# БЕЛАРУСКАЯ МОВА

Вучэбны дапаможнік для 5 класа
агульнаадукацыйных устаноў
з беларускай і рускай мовамі навучання

У дзвюх частках

Частка 1

*Дапушчана*
*Міністэрствам адукацыі*
*Рэспублікі Беларусь*




МІНСК
НАЦЫЯНАЛЬНЫ ІНСТЫТУТ АДУКАЦЫІ
2008

УДК 811.161.3(075.3=161.3=161.1)
ББК 81.2Беи-922
Б43

А ў т а р ы:

**В. П. Красней** («Фанетыка і арфаграфія», «Графіка і арфаграфія»);

**Я. М. Лаўрэль** («Мова — найважнейшы сродак зносін», «Паўтарэнне вывучанага ў I—IV класах», «Сінтаксіс і пунктуацыя» (§ 10, 11), «Падагульненне вывучанага за год»);

**В. І. Несцяровіч** («Сінтаксіс і пунктуацыя» (§ 12—26);

**Л. С. Васюковіч** («Словаўтварэнне і арфаграфія»)

Р э ц э н з е н т

кафедра беларускага мовазнаўства Беларускага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта імя Максіма Танка
(кандыдат педагагічных навук, дацэнт *У. П. Саўко*)

**Умоўныя абазначэнні:**

 — правіла;

 — для азнаямлення;

 — звярніце ўвагу;

 — заданні павышанай цяжкасці;

 — дадатковыя заданні;

 — лексічнае значэнне слова тлумачыцца ў слоўніку;

 — правесці фанетычны разбор слова;

 — зрабіць марфалагічны разбор слова;

 — зрабіць сінтаксічны разбор сказа;

 — разабраць слова па саставе;

 — правесці лексічны разбор слова;

 — дамашняе заданне

ISBN 978-985-465-453-9 (ч. 1)
ISBN 978-985-465-452-2

# МОВА — НАЙВАЖНЕЙШЫ СРОДАК ЗНОСІН

## § 1. Чалавек і мова

**1.** Прачытайце тэкст. Назавіце сказы, якія перадаюць тэму, асноўную думку. Пра што гаворыцца ў кожнай частцы?

Мова — найважнейшы сродак зносін. Дзякуючы мове людзі абменьваюцца думкамі, перадаюць інфармацыю, засвойваюць вопыт і веды мінулых пакаленняў.

Кожны народ як найвялікшы скарб шануе родную мову. Бо пакуль жыве мова, жыве сам народ, яго культура. Дзеці разумеюць бацькоў, захоўваюць звычаі продкаў.

Мова звязвае чалавека з роднай зямлёй, з усім тым, што складае духоўны і матэрыяльны набытак народа. Якуб Колас пісаў, што «роднае слова — гэта першая крыніца, праз якую мы пазнаём жыццё і акаляючы нас свет». І калі чалавек змалку адлучаны ад роднай мовы, ён вельмі многа губляе ў сваім разумовым і духоўным развіцці.

● Чаму мова з'яўляецца найважнейшым сродкам зносін?

**2.** Прачытайце тэкст.

Што людзі ўмеюць гаварыць, вядома кожнаму. А ці ёсць мова ў жывёл? Ёсць. Але пра мову жывёл мы можам гаварыць толькі як пра мову сігналаў.

Дзе б ні гадавалася тая ці іншая жывёліна, яна заўсёды зразумее сігналы «сваякоў». Гэта прыродная ўласцівасць прадстаўнікоў жывёльнага свету.

Чалавек ад прыроды мае задаткі для авалодання мовай, але навучыцца гаварыць можа толькі ў працэсе моўных зносін з іншымі людзьмі. Навуцы вядома больш за трыццаць выпадкаў, калі дзеці раслі сярод жывёл. І ні адно з гэтых дзяцей не ўмела гаварыць.

● Пра што гаворыцца ў тэксце?

● Якія ўмовы неабходныя для таго, каб чалавек навучыўся гаварыць?

**3.** Прачытайце. Што перадае загаловак: тэму ці асноўную думку?

## Мэта і адрасат

Чалавек акрамя роднай можа вывучыць яшчэ некалькі моў. А вось жывёліна ніколі не засвоіць мову (сігналы) іншых відаў. А як жа птушкі? Многія з іх пераймаюць розныя гукі, словы і нават асобныя фразы. Вось іменна: пераймаюць, несвядома.

Чалавек жа заўсёды гаворыць з пэўнай мэтай: каб аб нечым паведаміць, запытаць пра нешта, уздзейнічаць на іншых. Яго выказванне заўсёды некаму адрасавана, як кажуць, мае адрасат. Здараецца, праўда, што чалавек гаворыць сам сабе. Але і ў такіх выпадках чалавек у думках звяртаецца да некага, уяўляе яго, адказвае за яго.

Пры дапамозе слова чалавек фарміруе думкі і перадае іх. Жывёлы ж перадаюць і ўспрымаюць толькі сігналы.

Валоданне мовай — гэта ўласцівасць чалавека.

● Вусна перадайце змест тэксту згодна з планам:
1. Моўныя здольнасці людзей і «моўныя» здольнасці жывёл.
2. Мэта і адрасат маўлення.
3. Чалавек перадае думкі, жывёла — сігналы.

**4.** Прачытайце загаловак. Ці можна па ім здагадацца, пра што пойдзе гаворка ў тэксце? Цяпер прачытайце тэкст. Ці пацвердзілася ваша меркаванне? Назавіце сказы, якія перадаюць асноўную думку, запішыце іх. Складзіце план і сціслa (вусна) перакажыце змест тэксту.

## Мова без слоў

Чалавек размаўляе словамі. Але ён можа перадаваць думкі і без слоў, напрыклад свістам, барабанным боем, перастукваннем. Вы, магчыма, чулі пра азбуку Морзе, якой карыстаюцца радысты, тэлеграфісты. Розныя спалучэнні кароткіх і доўгіх гукавых сігналаў (кропак і працяжнікаў) абазначаюць у ёй літары. Напрыклад: А — кропка, працяжнік; Б — працяжнік, тры кропкі; В — кропка, два працяжнікі і г. д. Гэта гукавая мова. А ёсць і зрокавая. Так, успышкі пражэктара рознай працягласці — гэта таксама азбука, толькі светлавая. А ўзмахі сцяжкамі? Навучаны чалавек разумее сігнальшчыка. Дык, можа, мова без слоў людзей нічым не адрозніваецца ад мовы жывёл? Перамаўляюцца ж птушкі свістам. Не. Любыя сігналы чалавек перакладае на словы. І каб размаўляць на мове сігналаў, людзі павінны валодаць звычайнай мовай, больш за тое, гаварыць на адной і той жа мове. А вось сродкі перадачы думак бываюць розныя. І таму выраз *мова без слоў* — чыста ўмоўны. Яго можна браць у двукоссе.



**5.** Прачытайце тэкст. Які загаловак можна даць тэксту?

Задума навучыць Рудзіка чытаць прыйшла Мішу пасля таго, як ён пабываў у цырку.

Нейкая валасатая, падлобістая малпа скакала з шаста на шост, вісела на хвасце, ела цукеркі. Розуму на гэта багата не трэба. Але ўсе смяяліся. Было б з чаго! Яе ж нават нельга параўнаць з яго Рудзікам. Ён жа прыгожы, шэрстка бліскучая, а вочы-янтарыкі разумныя. Усё схоплівае з паўслова.

Сам Міша вучыцца ў першым класе. Ужо ўмее чытаць. Навучыцца і Рудзік. Літар жа не так і многа. Імі перадаюць на пісьме гукі чалавечай мовы. Але ў сабачай мове таксама ёсць гукі. Узяць хоць бы гэтае «гаў-гаў». «Г», «а», «ў» чуюцца выразна. Калі Рудзік злуецца, то і «р» добра вымаўляе. А гэта «ха-та-ха-та-ха-та»! Толькі з чаго пачаць?

Міша прыгадаў, што першымі словамі ў буквары былі «мама», «тата», «дом». Але Рудзік чамусьці не хацеў паўтараць іх за Мішам. Гэта таму, што Рудзік не памятае сваіх бацькоў. І тут Мішу прыйшла шчаслівая здагадка. Ён намаляваў сабаку і падпісаў «Рудзік». Потым па складах гучна вымавіў «Ру-дзік!».

— Гаў-гаў! — весела адазваўся сабачка. Міша аж падскочыў ад радасці. Які кемлівы! Болей ён не стаў прымушаць Рудзіка чытаць. На сёння хопіць. Трэба яшчэ падумаць, якія ўзяць словы. Не так проста скласці сабачую грамату. *(Паводле І. Навуменкі)*

Адкажыце на пытанні:

1. У якім класе вучыцца Міша?
2. Што навяло Мішу на думку навучыць Рудзіка чытаць?

3. Чаму Міша вырашыў, што Рудзік можа навучыцца чытаць?

4. Чым растлумачыў Міша тое, што сабачка не хацеў паўтараць словы *тата, мама*?

5. Што прыдумаў Міша?

6. Ці навучыць Міша чытаць Рудзіка?

## § 2. Вусная і пісьмовая формы маўлення. Віды маўленчай дзейнасці

Маўленне — гэта ўжыванне мовы ў працэсе абмену думкамі.

Калі мы гаворым, то карыстаемся вуснай формай маўлення, калі пішам або чытаем, — пісьмовай.

Маўленчая дзейнасць — гэта асобы від чалавечай дзейнасці.

Слуханне, чытанне, гаварэнне, пісьмо — асноўныя віды маўленчай дзейнасці.

Слуханне і чытанне — гэта тыя віды маўлення, да якіх звяртаюцца, каб атрымаць гатовую інфармацыю.

У працэсе гаварэння і пісьма мы ствараем уласныя выказванні, якія заўсёды некаму і з нейкай мэтай адрасуюцца.

### АДКАЖЫЦЕ НА ПЫТАННІ

1. Назавіце асноўныя віды маўленчай дзейнасці.
2. Да якіх відаў маўлення звяртаюцца, каб атрымаць гатовую інфармацыю?
3. Якімі відамі маўлення карыстаюцца, калі ствараюць уласныя выказванні?

**6.** Прачытайце, вымаўляючы кожны сказ з адпаведнай інтанацыяй. Вызначце форму маўлення. Прывядзіце прыклады, уласцівыя вуснаму маўленню.

— Скажы мне, Раман, што гэта ў вас за чалавек з'явіўся? — пытаўся стражнік у соцкага.

— А ці я ведаю?

— Можа, чуў пра яго?

— Чуць то чуў, ці мала што людзі гавораць!

— Прызнавайся, Раман, нечага адвільваць. Што ты чуў?

Раман агледзеўся навокал і ціха сказаў:

— Сіцыліст!

— Ну?!

— Такія рэчы гаворыць, што ў Сібір саслаць і то мала. Ды кніжкі і лісты раскідае. Вось пабач!

У стражніка так і заблішчалі вочы.

— А мужыкі яго слухаюць?

— Дзе там слухаюць! Цара лае!

— А што ён казаў?

— Казаў, што наш цар — дурань.

— Цыц! — прамовіў стражнік... *(Якуб Колас)*.

## ДА ВЫТОКАЎ СЛОВА

***Нагаварыць бочку арыштантаў.*** Выраз паходзіць з мовы рыбакоў, дзе арыштант — дробная сушаная рыба. Першапачаткова выраз азначаў 'нагаварыць усякіх выдумак пра нібыта багаты ўлоў'. Цяпер выраз мае значэнне 'нагаварыць занадта многа абы-чаго, без разбору'.

**7.** Перадайце змест вершаванай казкі прозай. Чым адрозніваецца вершаваная мова ад празаічнай?

## Салаўёвы песні

Дубы-асілкі талакой
Стаяць над соннаю ракой,
Не спяць, ды не шапнуць і слоўка,
Бо побач заспяваў салоўка.
Не спала ў лесе і сава,
Хадзіла кругам галава.
Украсці песні ў салаўя
Яна рашыла.
Толькі як?
Патрэбна ведаць,
Дзе
Хавае іх,
Куды кладзе.
Вачэй не зводзіла ўсю ноч,
Пад пень заглядвала,
Пад корч,
У вербалоз ля ручая —
Няма іх,
Песень салаўя.
А на калінавым кусце
Спяваў салоўка ў цемнаце,
Спяваў у добры час.
Ад песні той якраз
І запалілася зара.
Вось-вось і змрок сплыве.
Ну што рабіць саве?
Знайшла сваё жытло —
Схавалася ў дупло.
І там яна, бядачка,
Зайшлася дзікім плачам.

*Р. Яўсееў*

**8.** Прачытайце дыялог. Чаму ён выклікае ўсмешку?

— Тата, я ўжо навучыўся пісаць!
— І што ж ты напісаў?
— Пакуль што не ведаю, бо яшчэ не ўмею чытаць.



**9.** Прачытайце пачатак казкі. Чаму так паводзілі сябе Гукі? Што сказалі Гукі пра Апостраф і Мяккі знак? Прадоўжыце казку. Пакажыце, што Гукі дарэмна пакрыўдзілі Апостраф і Мяккі знак.

## Апостраф і Мяккі знак

(Казка)

Ёсць на свеце краіна Фанетыка. Жывуць у ёй Гукі і Літары.

Аднойчы Гукі і Літары заспрачаліся.

**Галосныя** крычалі, што толькі яны **сапраўдныя.** Зычныя трымаліся сваёй думкі. Мяккія маўчалі. У іх не было сталага меркавання. А глухія... Тыя нікога не хацелі слухаць. На Мяккі знак і Апостраф увогуле ніхто не зважаў. «Ці ёсць вы, ці няма вас — ніякай розніцы. Вы нічога не значыце».

Пакрыўдзіліся Апостраф і Мяккі знак...

● Разбярыце выдзеленыя словы па саставе.

# ПАЎТАРЭННЕ ВЫВУЧАНАГА Ў I—IV КЛАСАХ

## § 3. Тэкст. Тэма і асноўная думка тэксту

**10.** Прачытайце сказы. Ці з'яўляюцца яны тэкстам? Ці можна з іх утварыць тэкст?

Касманаўты вярнуліся на Зямлю. У школьнікаў пачаліся канікулы. Верасень — першы месяц восені. Брыгада мантажнікаў перавыканала план.

Тое ці іншае паведамленне мы перадаём не адным, а некалькімі сказамі — тэкстам.

**Тэкст** — гэта выказванне, у якім сказы звязаны сэнсам і граматычна.

**11.** Прачытайце сказы пад лічбамі 1 і 2. Якія з іх з'яўляюцца тэкстам? Абгрунтуйце сваю думку.

1. Над Нараччу амаль заўсёды дзьмуць вятры. Вада ў гэтых азёрах чыстая, празрыстая, багатая на кісларод. Нарач належыць да азёр, якія не зарастаюць раслінамі. Дзякуючы гэтаму прыбярэжная паласа не ператвараецца ў балота. У іх адбываецца безупынны рух вады ад ветру і ад глыбінных крыніц.

2. Нарач належыць да азёр, якія не зарастаюць раслінамі. Вада ў гэтых азёрах чыстая, празрыстая,

багатая на кісларод. У іх адбываецца безупынны рух вады ад ветру і ад глыбінных крыніц. Дзякуючы гэтаму прыбярэжная паласа не ператвараецца ў балота.

Над Нараччу амаль заўсёды дзьмуць вятры.

**12.** Прачытайце. Чаму дадзеныя сказы не з'яўляюцца тэкстам? Перастаўце сказы так, каб атрымаўся тэкст. Назавіце тэму тэксту. Дайце яму загаловак і запішыце.

Батарэйцам сабака спадабаўся. Была на батарэі аўчарка. Зенітчыкі назвалі яго сваім батарэйным імем: Бусоль. Яе падараваў старшыні нейкі дзядзька *(І. Грамовіч)*.

Адзін тэкст ад другога адрозніваецца сваім зместам, тэмай і асноўнай думкай.

**Тэма** — гэта тое, пра што гаворыцца ў тэксце.

**Асноўная думка** — гэта тое галоўнае, што выказана тэкстам.

Асноўная думка, як і тэма, можа быць выражана ў загалоўку або ў адным са сказаў тэксту. Але часцей за ўсё яе трэба вызначыць і сфармуляваць.

**13.** Прачытайце тэксты. Вызначце тэму і асноўную думку кожнага з іх. Назавіце сказы, якія перадаюць асноўную думку тэкстаў.

### 1. Белая вежа

У трывожным тваім маўчанні
Чую голас сівых вякоў,
Чую днямі тут і начамі

Посвіст стрэлаў і звон падкоў.
То чужынцаў
Цягнуліся рукі
Да тваёй святой чысціні.
Ты цярпець не хацела прынукі,
Ты не ведала цішыні.
Білі золатам і жалезам,
Чорны дым засцілаў зару,
Ды стаяла Белая вежа,
Прыкрываючы Белую Русь...

*М. Пракаповіч*

● Раскажыце, што вы ведаеце пра Белую вежу.
● Выпішыце з тэксту словы наступнай будовы:

¬⌒∧□, ¬⌒□.

## 2. Папірус

На што толькі ні выкарыстоўвалі старажытныя егіпцяне папірус! Драўніна каранёў была для іх палівам і будаўнічым матэрыялам. Гэту расліну яны ўжывалі як харч — сырую, гатаваную, печаную. З яе выціскалі сок. З яе вілі вяроўкі, рабілі начынне, шылі адзенне, плялі кашы, майстравалі лодкі. Але ўвекавечыў сябе папірус тым, што даў чалавецтву першы сапраўдны матэрыял для кнігі. Памяць аб ім і сёння захавалася ў многіх еўрапейскіх мовах: згадаем беларускае слова «папера», нямецкае «папір», англійскае «пэйпа», французскае «пап’е» *(А. Клышка)*.

● Прачытайце ў тлумачальным слоўніку, якія значэнні мае слова *папірус*.

● Вусна перадайце змест тэксту, уключыўшы ў пераказ адказы на пытанні: «На чым пісалі людзі, пакуль не вынайшлі папірус?», «Якое значэнне мела гэта вынаходства?».

**14.** Прачытайце тэксты. Дайце ім загалоўкі, якія найбольш дакладна перадавалі б іх тэмы.

1. Надышла залацістая восень. Рыгорку завялі ў школу. Дзень быў яркі, сонечны і цёплы. Вераснёўскае паветра пахла свежасцю. У грудзях адчувалася нейкая лёгкасць і трывожная радасць. Хацелася бегаць, сваволіць, але першы дзень заняткаў заўсёды прымушаў вучняў трымацца, як у гасцях, усе былі апрануты чысценька і прыгожа *(Якуб Колас)*.

2. Настала восень — цудоўны і непаўторны час. Яна здзіўляе багаццем фарбаў. У чырвань і золата апранаюцца бярозы, клёны, ліпы, асіны, дубы... Пунсавее лістота воўчага лыка. У сасновых барах паветра насычана водарам дробных фіялетавых кветачак верасу. Разнастайнасць фарбаў і адценняў залатой восені пакідае незабыўнае ўражанне *(«Родная прырода»)*.

***ура́жанне***

Тэмы бываюць шырокія і вузкія. Так, тэма *Восень* будзе шырэйшая за тэмы *Ранняя восень. Залатая восень. Глухая восень. Дажджлівая восень.*

Кожнае слова ў назве тэмы мае значэнне. Напрыклад, блізкімі, але не адназначнымі будуць тэмы *Летняя ноч. Чэрвеньская ноч. Цёплая летняя ноч. Росная летняя ноч. Зорная летняя ноч. Незабыўная летняя ноч. Духмяная летняя ноч. Ціхая летняя ноч. Летняя месячная ноч. Самая кароткая летняя ноч.*

Тэкст будуецца так, каб кожны сказ у ім дапамагаў раскрыць тэму і асноўную думку.

**15.** Прачытайце назвы тэм. Якія з іх больш вузкія?

1. Беларусь. — Люблю цябе, Белая Русь. 2. Ранняя восень у лесе. — Добра ранняй восенню ў лесе. 3. Сілачом стаіць дуб разложысты. — Дуб. 4. Зубр. — Пушчанскі волат. 5. Карысная праца. — Праца прыносіць шчасце. 6. Беларуская мова. — Беларуская мова — задушэўная і мілагучная, як песня.

**16.** Падумайце, пра што можна расказаць на тэму «Школьнікі любяць родную прыроду». Удакладніце тэму так, каб яна стала вузейшая.

**17.** Якой больш шырокай тэмай можна аб'яднаць наступныя тэмы?

1. Асеннія грыбы. Першыя замаразкі. Адлёт журавулёў.

2. На ўборцы бульбы. Збор садавіны. Сяўба азіміны.

3. Пушча. Бор. Бярэзнік.

**18.** Запішыце некалькі вузкіх тэм, якія ўваходзяць у тэмы: а) *Наша школа*, б) *Летні дзень*.

**19.** Прачытайце тэкст. Каму ён адрасуецца? З якой мэтай напісаны? Якая асноўная думка?

Трэба многа, вельмі многа ездзіць, сябры. Калі будзеце часта жыць на «калёсах», шмат хадзіць і падарожнічаць, вы пагледзіце многае ў свеце. Але перш за ўсё вам трэба ведаць свой самы для нас прыгожы край. Вы ўбачыце мілую, ласкавую, ня-

яркую краіну, якая, аднак, зачаруе вас сваёй няўлоўнай прыгажосцю. Убачыце Прыдняпроўе і Прынямонне, роўных якім па прыгажосці мала знойдзецца мясцін на зямлі. Убачыце азёры з белымі грабянцамі на сіняй вадзе і старыя каменныя млыны над рэчкамі, што зараслі белай лілеяй...

Будзеце слухаць музыку нашай цудоўнай мовы і нашы пяшчотныя песні. І ўбачыце зуброў і аленяў. Пройдзеце па зажураных пушчах Палесся. І галоўнае, пазнаеце свой гасцінны, добры, горды і таленавіты народ.

Любіце гэтую сваю святую зямлю. Іншай вам не дадзена, ды й не патрэбна *(У. Караткевіч)*.



**20.** Прачытайце. Якая тэма тэксту? Ці чулі вы штонебудзь пра фантастычных істот (духаў)? Як вам уяўляецца іх знешнасць? Напішыце пра адну з іх.

Згодна са старажытнымі ўяўленнямі, міфалагічнага апекуна мела кожная пара года, з'ява прыроды, нават праца. Гаспадаром лесу быў **Лясун**, святла — **Бялун**, вады — **Вадзянік**, палёў і лугоў — **Палявік**, балота — **Балотнік**. Там жа жылі і чэрці. У хаце гаспадарыў старэнькі Чур і маленькая гарэзлівая дзяўчынка Кікімара. Крыніцы, калодзежы, азёры таксама абараняліся нейкімі фантастычнымі істотамі. Па ўяўленнях людзей, невядомыя таямнічыя сілы маглі дапамагаць і шкодзіць, весяліць і палохаць.

Трэба было добра ведаць іх характар, звычкі, знешнасць, каб улашчыць, накіраваць гэту чароўную сілу на карысць сабе *(«Бярозка»)*.

- Пакажыце, як утвораны выдзеленыя словы.

## § 4. Сувязь сказаў у тэксце

Думка ў тэксце развіваецца ад сказа да сказа. Кожны наступны сказ пэўным чынам паўтарае сказанае папярэднім і дадае новае. Такім чынам, у сказе ёсць вядомае (В.) паведамленне і новае (Н.) паведамленне.

Н.

Напрыклад: *1. Пад гарою расла вярба. 2. Пад*

В. Н.

*вярбою было люстраное акно ў зялёнай траве.*

В. Н.

*3. Тут пачынаўся і бег да рэчкі малы ручаёк* (І. Грамовіч).




Такая сувязь сказаў у тэксце называецца **паслядоўнай**.

**21.** Спішыце тэкст. Вядомае паведамленне абазначце літарай В., а новае — літарай Н.

Брэст знаходзіцца на паўднёвым захадзе Беларусі. У горадзе шмат гістарычных помнікаў. Але самым вядомым сярод іх з’яўляецца Брэсцкая крэпасць-герой.

Паўтор часткі папярэдняга сказа з’яўляецца сродкам сувязі сказаў у тэксце. Сродкамі сувязі выступаюць аднолькавыя або блізкія па значэнні назоўнікі, займеннікі і інш. Напрыклад:

*1. Прыляцела ластаўка з далёкага выраю. Села* ***яна*** *на страху старога гумна і зашчабя-*

*тала. Вясёленькая песенька* ***яе*** *так і пасыпалася па ўсім двары мілым шчэбетам* (Якуб Колас).

*2. Я іду старым яловым лесам. У* ***яго*** *засені цвітуць апошнія пралескі. Месцамі* ***кветак*** *так многа, што яны ўтвараюць суцэльны блакітны дыван* (І. Сіляўка).

У тэксце (1) сказы звязаны пры дапамозе слоў: *ластаўка — яна — яе.* У тэксце (2): *лесам — яго і пралескі — кветак.*

**22.** Спішыце тэкст. Літарамі В., Н. абазначце вядомае і новае. Падкрэсліце словы, пры дапамозе якіх сказы звязаны паміж сабой.

Мы стаім на плошчы Парыжскай камуны. Яна ўзвышаецца, як купал. Адсюль нам відны контуры горада. Над ім сцелецца тонкая, празрыстая сінь *(Ян Скрыган).*

Сказы ў тэксце могуць звязвацца **паралельнай** сувяззю. Пры гэтым усе сказы, пачынаючы з 2-га, паясняюць 1-ы, звязаны з ім сэнсам і граматычна. Напрыклад:

*1. Пачатак жніўня. 2. Зранку цярушыць дождж. 3. На пожні — росная дробненькая канюшына. 4. Дацвітае бульба. 5. Чуваць сытыя галасы варон і перапёлак* (Янка Брыль).



**23.** Прачытайце тэкст. Вызначце, як звязаны сказы ў тэксце: паслядоўна ці паралельна? Пакажыце сувязь сказаў на схеме.

Быў чэрвень. Часта ішлі кароткія і цёплыя дажджы. Трава, ярына, азіміна — усё ажно буяла. Жыта неяк адразу, за якія дні два, выкінула пляскатыя каласы і закрасавала. Уздоўж палеткаў, абочын, сцяжын пасталі, быццам дзеці з блакітнымі вачанятамі, васількі.

**24.** Прачытайце тэкст. Дакажыце, што сказы ў тэксце звязаны паралельнай сувяззю.

Марына раней ніколі не была ў вёсцы і таму вельмі здзівілася, што хата дзеда і бабы ўсярэдзіне амаль нічым не адрозніваецца ад іхняй гарадской кватэры. Тут таксама былі два пакоі і кухня, стаялі круглы стол, мяккая канапа і крэслы. Гаварыла радыё. Пад столлю вісела электрычная лямпачка з ружовым абажурам. Толькі печы такой вялікай і шырокай, ледзь не на палову кухні, у іх у горадзе няма. І вокны тут меншыя *(С. Міхальчук)*.

● Зрабіце невялікае (з 5—7 сказаў) апісанне свайго пакоя (хаты).

**25.** Спішыце тэкст, устаўляючы замест кропак словы, якія звязваюць сказы паміж сабой: займеннікі і блізкія па значэнні словы.

## Любіце родную прыроду

**Кніжка** гэта называецца «Каляровыя **казкі**». ... мае падзагаловак «Замалёўкі»[с]. ... можна было б назваць «**Каляндар** беларускай прыроды», бо раздзелаў у ёй дванаццаць. І ... прысвечаны пэўнаму **месяцу** года.

Аўтар ... — вядомы беларускі мастак Валянцін Мікалаевіч Ціхановіч. ... малюнкі вы не раз разглядалі ў кніжках і часопісах. ... за час незлічоных вандровак[с], начлегаў каля вогнішча ў лесе, у полі, на берагах азёр «падгледзеў» безліч таямніц прыроды. ... вы даведаецеся, магчыма, упершыню з гэтай кніжкі.

- Растлумачце напісанне выдзеленых слоў.
- Падбярыце сінонімы да слова *вогнішча*.

**26.** Спішыце тэкст, замяняючы выдзеленыя словы іншымі сродкамі сувязі сказаў: займеннікамі і блізкімі па значэнні словамі.

4 кастрычніка 1957 года ўпершыню ў свеце на калязямную арбіту быў выведзены апарат, зроблены рукамі чалавека. **Апарат** стаў першым штучным спадарожнікам Зямлі. Зіхатлівай зорачкай нястомна аблятаў **апарат** нашу планету, пасылаючы людзям сваё радаснае і ўрачыстае «біп-біп». Палёт **апарата** паклаў пачатак касмічнай эры чалавецтва.

**27.** Да наступных сказаў падбярыце яшчэ некалькі, каб атрымаліся тэксты: з паслядоўнай сувяззю сказаў (1); з паралельнай сувяззю сказаў (2).

1. Мой дзед быў лесніком...
2. Я люблю беларускія народныя казкі...



**28.** Прачытайце тэкст. Выпішыце з яго словы, якія з'яўляюцца сродкамі сувязі сказаў.

Узор: *сцяна — сцяной, дарога — шлях, сасна — на ёй.*

Зялёная арка ўзвышалася над уездам у вуліцу. За ёй я ўбачыў новы дом на восем акон. Шufля-

ды і рамы ў вокнах былі пафарбаваны жоўтай фарбай. Перад вокнамі, за нізкай агароджай, цвілі вяргіні. Далей у вуліцы скрозь стаялі падобныя дамкі і новыя хаты. Тых, знаёмых мне, старых хат было ўжо зусім мала *(Кузьма Чорны)*.

*а́рка*

## § 5. Назоўнік

**29.** Прачытайце верш «Мая граматыка». Якія часціны мовы названы ў вершы? У першым слупку назавіце галоўныя члены сказа. Вызначце склон і лік назоўнікаў, якія выконваюць ролю дзейнікаў. Спішыце 2 слупкі, ставячы знакі прыпынку.

У лесе родную вучыў я мову.
Назоўнікамі дрэвы ў ім звіняць.
Тут птушкі ўтвараюць дзеясловы —
Пяюць шчабечуць свішчуць і крычаць.

Прыметнікамі бор здалёк прыкметны —
Зеленачубы статны залаты.
Сустрэне бор займеннікам прыветным...
Як з лепшым сябрам, з кожным ён на «ты».

Звіні ж вякамі, мова, па-над краем —
На пераправе ў лесе пры сасне.
Жыццё не адмаўляе, а сцвярджае
Адмоўная часціца мовы — не.

Не знішчым мы, не страцім, не загубім
Сваіх лугоў, азёр, сваіх лясоў.
І родны край і мову не разлюбім —
У кожным сэрцы гэты дзеяслоў!

*В. Гардзей*

**Пачатковая форма назоўніка** — форма адзіночнага ліку назоўнага склону.

У сказе назоўнік выконвае ролю дзейніка або іншага члена сказа.

**30.** Разгледзьце табліцу. Скажыце, якія назоўнікі належаць да 1, 2, 3-га скланення.

| Скланенне | Род | У назоўным склоне адз. ліку назоўнікі канчаюцца на |
|---|---|---|
| 1-е | жаночы | ***-а, -я*** |
| 2-е | мужчынскі | зычныя |
| | ніякі | ***-о, -е, -ё, -а*** |
| 3-е | жаночы | зычныя |

● Чым трэба кіравацца пры вызначэнні скланення?

● Вызначце, да якога скланення адносяцца наступныя назоўнікі:

а) акно, возера, насенне, галлё;
б) жняя, краіна, прырода;
в) дуб, каваль, розум, давер;
г) веліч, кроў, радасць.

**31.** Разгледзьце схемы. Скажыце, якія канчаткі маюць назоўнікі 1, 2, 3-га скланення ў названых склонах. Прывядзіце прыклады.

1-е скл. Д., М. —
- ***-е:*** сцян-е ...
- ***-э:*** руц-э́ ...
- ***-і:*** зямл-і ...
- ***-ы:*** груш-ы ...

2-е скл. Р. —
- ***-а, -я:*** стал-а, пол-я ...
- ***-у, -ю:*** шум-у, ячмен-ю ...

Т. — ***-ам, -ем:*** год-ам, пол-ем ...

3-е скл. Р., Д., М. < *-ы;* ноч-ы ... / *-і:* дал-і ...

Т. < *-у:* ночч-у ... / *-ю:* далл-ю ...

**32.** Прачытайце прыказкі і растлумачце іх сэнс. Спішыце, дапісваючы канчаткі назоўнікаў. Абазначце іх склон.

1. Жыць на чужой старонц.., як на скал.. адзінокай сасонц.. . 2. Па рабоц.. майстра відаць. 3. Па кропельц.. — рэчка, па травінц.. — копка, а па копц.. — стог. 4. Ад навук.. дужэюць рукі. 5. У добрай слав.. шырокія крылы. 6. Хто людзям не верыць, той і сабе вер.. не дасць. 7. Птушка моцная крыламі, а чалавек — дружб.. . 8. Чалавек без радзім.., што салавей без песн.. .

**33.** Пры спісванні пастаўце назоўнікі ў патрэбным склоне. Абазначце склон. З якімі прыназоўнікамі ўжываецца месны склон? Зрабіце вывад, якія канчаткі маюць назоўнікі 1-га скланення ў давальным і месным склонах.

1. Тыдні праз два мне зноў давялося ісці па гэтай *(дарога) (Якуб Колас)*. 2. А на *(палавіна)* мае дарогі, як сумысля, стаяў самы цёмны лес *(Якуб Колас)*. 3. Я стаў расказваць, што было ў *(дарога) (Якуб Колас)*. 4. Па правай *(рука)* цягнуўся ельнік уперамешку з маладымі хвоямі, а з левага боку пачынаўся бярэзнік *(Якуб Колас)*. 5. Марознай зорнай ноччу на *(шаша)* то прасунуцца ціхія сані, то зноў прамчыцца машына *(Янка Брыль)*. 6. Перадайце, гусі, паклон нізкі дарагой *(дзяўчына)*, смелай партызанцы *(Адам Русак)*. 7. Гімн чалавечай *(праца)* спяваюць кельмы* гучна *(М. Аўрамчык)*.

⊙ **34.** Запішыце назоўнікі ў наступным парадку: 1) назвы прадметаў, 2) назвы прымет прадметаў, 3) назвы дзеянняў, 4) назвы лічбаў, 5) назвы паняццяў.

Зеляніна, сякера, аловак, гальштук, сямёрка, хадзьба, касьба, сінява, гарачыня, бацькаўшчына, верашчака, падарожны, пяцёрка, сінька, рэчышча, спорт, плывец, мітусня, чараўніца, бег, узрост, кемлівасць, памяць, запавет, бель, цемрадзь.

**35.** Дапішыце назоўнікі. Абазначце іх склон і скланенне.

Думаць (п р а  к а г о?), прачытаць (ш т о?), пайсці (п а  ш т о?), адказаць (н а  ш т о?), пагутарыць (з  к і м?), пакатацца (н а  ч ы м?), плысці (д а  ч а г о?), смяяцца (з  к а г о?), дзякаваць (к а м у?).

**36.** Падрыхтуйцеся пісаць пад дыктоўку. Растлумачце правапіс выдзеленых літар.

Хараша назіраць за жытнёвым пол**ем** у час красавання! Хмаркі шызага пылку пакалыхваюцца над маладой збажынай, якая пераліваецца на сонцы, хвалюецца ад подыху цёплага ветрыку.

Праз нейкі час жыта пачынае налівацца. Вось ужо зярняты ў калас**ах** зрабіліся ва**ж**кімі і крамянымі. Пад цяжарам даспелых каласоў сц**я**бліны кладуцца на дол. Ця**ж**ка ўбіраць такое жыта. Ды хле**б** ніколі не быў лё**г**кім. Таму з даўніх часоў нашы про**д**кі шанавалі хлеб. Хлебны бохан параўноўвалі з сонцам. Пра хлеб складалі песні. Хлебам заўсёды віталі дарагіх гасцей *(З. Марозаў)*.

● Абазначце склон і скланенне назоўнікаў у сказах 1-га абзаца.

**37.** Спішыце. Вызначце склон назоўнікаў множнага ліку. Выдзеліце канчаткі.

1. Загарэліся золатам вяршыні сосен *(І. Шамякін)*. 2. Шмат яблынь, вішань, і маліны як бы прыйшлі з усіх далін і акружылі гэты дом *(П. Броўка)*. 3. Усе мы ў баях гартаваліся, і не забыць нам страт *(Максім Танк)*. 4. І зоркі аганёк надзею шле здалёк і абяцае шмат дарог, расчаравання і трывог *(Максім Танк)*. 5. Цішынёй і холадам вее ад нізін *(П. Глебка)*. 6. У цішыні палёў далёка чуваць працавіты басок трактароў *(І. Мележ)*. 7. Задумліва шамаціць лісце на асфальце бульвараў і на дарожках паркаў *(І. Мележ)*.

**38.** Запішыце назоўнікі ў творным склоне. Абазначце канчаткі.

Край, гай, бег, салавей, мядзведзь, гушчар, каваль.

- Складзіце з гэтымі назоўнікамі (на выбар) 2—3 сказы.
- Падкрэсліце галоўныя члены сказаў.

**39.** Паводле малюнкаў пабудуйце тэкст з паслядоўнай сувяззю сказаў.



**40.** Да якога скланення належаць назоўнікі, што ў дужках? Спішыце сказы, раскрываючы дужкі.

1. Цёмная ноч[м] густа заткала *(цемрадзь)* вуліцу *(Якуб Колас)*. 2. Сцёпка гаварыў так проста і разумна, што яго слухалі з вялікай *(цікавасць)* *(Якуб Колас)*. 3. Шэпчуцца ціха асока з чаротам[м] над *(гладзь)* люстранай вады *(В. Гардзей)*. 4. Над *(Прыпяць)* сінее лес, адтуль нясе церпкім густым водарам, сатканым з пахаў хвоі, прэлай зямлі, грыбоў і багуну *(І. Навуменка)*. 5. Зямля закрасавала *(свежасць)* траў *(Э. Самуйлёнак)*. 6. З пшаніцай, *(соль)*, лесам і рудою ідуць цягнікі і днём і *(ноч)* *(І. Грамовіч)*. 7. Уначы, калі паветра напаўняецца *(вільгаць)*, пахі мацнеюць. Пахне застаялай *(сырасць)*, суніцамі, балотнымі травамі *(І. Мележ)*.

**41.** З кожным словам складзіце сказы так, каб дадзеныя назоўнікі стаялі ў творным склоне адзіночнага ліку.

Радасць, прыстань, аповесць, медзь, мужнасць, веліч, бездараж.

● Калі адбываецца падаўжэнне апошняга зычнага асновы? Прывядзіце яшчэ некалькі прыкладаў.

**42.** Растлумачце значэнне наступных спалучэнняў слоў: *душа ў душу, нага за нагу, адзін за адным, крок за крокам.* Складзіце з імі сказы.

**43.** Выпішыце словазлучэнні, якія адпавядаюць нормам беларускай мовы.

Ісці па ваду, ісці за вадой; збірацца за грыбамі, збірацца ў грыбы, збірацца па грыбы; жартаваць

над ім, жартаваць з яго; большы яго, большы за яго; падзякаваць вас, падзякаваць вам; вялікі дзякуй, вялікае дзякуй; ісці к берагу, ісці да берага.

⊙ **44.** Перакладзіце словазлучэнні на беларускую мову.

Пойти за хлебом, пройти по поляне, закон о языках, беспокоиться о сыне, читать по вечерам, построить у реки, выехать со двора, опоздать из-за тебя, говорить между собой, лучше всего, метрах в сорока, сказать сквозь смех, расти вдоль реки.



**45.** Запішыце пары слоў, раскрываючы дужкі.

Стаць *(лесавод)*, пасябраваў з *(Мікалай)*, прыехаў *(трамвай)*, абвіты *(хмель)*, засыпаны *(торф)*, парослы *(хвошч)*, даражу *(калектыў)*, прыйшоў з *(брат)*.

## § 6. Часткі тэксту. Абзац. План тэксту

Акрамя галоўнай тэмы ў тэксце можа быць некалькі падтэм. Сказы, аб'яднаныя падтэмай, утвараюць частку тэксту.

Кожная частка пачынаецца сэнсава важным сказам і выдзяляецца **абзацам** (чырвоным радком). Абзацам называецца таксама частка тэксту ад аднаго чырвонага радка да другога.

**46.** Прачытайце. Што перадае загаловак: тэму, асноўную думку ці тое і другое?

## Не спыняйся

Пайшоў я неяк восенню ў лес. Убачыў дзікую грушку і пашкадаваў яе: «Якая ты сукаватая ды калючая!»

Я ўзяў ножык і абрэзаў ніжнія галіны і калючкі. Потым падправіў крону. Грушка стала стройнай і прыгожай.

Вясной я зноў сустрэўся з дрэўцам. Убачыў і жахнуўся: кара на ім была спаласавана вострымі зубамі зайца і казулі. Грушка магла загінуць.

Я расказаў пра гэта бацьку. Ён выслухаў мяне і параіў: «Пачаўшы добрую справу, не спыняйся на паўдарозе. Выкапай дрэўца і перанясі ў сад. Замаж раны. Пройдзе час, і грушка аддзякуе табе» *(М. Янчанка)*.

● Вызначце, колькі ў тэксце частак і абзацаў. Дайце загалоўкі часткам.

> План перадае змест і будову тэксту.
>
> Каб скласці план, трэба падзяліць тэкст на часткі і даць ім загалоўкі, якія раскрывалі б тэму і асноўную думку тэксту.

**47.** Прачытайце тэкст. Вызначце яго тэму і асноўную думку.

## Апошні баравік

Я нетаропка іду прыкметнай сцяжынкай. У лесе стаіць незвычайная цішыня. Панура і самотна ўзвышаюцца сосны. То ў адным, то ў другім мес-

цы з-пад моху неўпрыкметку выглядаюць шапачкі зялёнак. Без асаблівага хвалявання бяру іх і крочу далей. Нечакана позірк мой затрымліваецца на вялікім карычняватым грыбе. Няўжо баравік? Асцярожна набліжаюся да яго і не веру вачам: сярод апалага лісця сапраўды стаіць белы грыб, з вялікай мясістай шапкай і тоўстым бураватым коранем. Любуюся ім, а затым зразаю і кладу ў кошык. За лета мне пашчасціла зрэзаць не адну сотню баравікоў. І ўсё-такі гэты, знойдзены глыбокай восенню, баравік самы дарагі *(І. Сіляўка)*.

● Падзяліце тэкст на часткі (3) і абзацы (3). Дайце загалоўкі часткам. Вусна перадайце змест тэксту ад трэцяй асобы.

Абзац не толькі абазначае сэнсава важны сказ часткі. Ён часта выконвае і іншую ролю ў тэксце. Таму межы частак і абзацаў не заўсёды супадаюць. У адной частцы можа быць некалькі абзацаў.

**48.** Прачытайце тэкст, у якім межы частак абазначаны. Ці супадаюць у ім межы частак і абзацаў?

Яшчэ з поўдня надвор'е гразілася дажджом. На тое былі ўсе неабходныя прыметы: душнае надвор'е, парнасць зямлі, смуга ў паветры. //

Дождж пайшоў з громам, з шалёным посвістам ветру, з бліскавіцаю. Па вуліцах адразу пацяклі ручаі. Пад стрэхамі дамоў запляскаўся капеж. Вымыты кусты бэзу. Любата!

У такія часы я хвалююся. Незвычайныя з'явы прыроды мне па душы. //

Гром аддаліўся, толькі часамі далятае яго прыглушаны грукат з далёкага цёмнага краю неба.

Я адчыняю акно на вуліцу. У пакой урываецца свежы подых паветра, востры пах зямлі і зеляніны, шкляны звяк кропель — і радасць *(Ян Скрыган)*.

**49.** Прачытайце варыянты плана тэксту Яна Скрыгана. Якія з іх больш дасканалы? Абгрунтуйце сваю думку.

1. Перад дажджом.
2. Які цудоўны летні дождж.
3. Пасля дажджу.

1. Перад дажджом.
2. Дождж.
3. Хораша пасля дажджу.

**50.** Прачытайце тэкст. Абгрунтуйце падзел яго на абзацы. Дайце загаловак. Вусна перадайце змест.

Пры ра..копках гарадоў у Грэцыі археолагі знайшлі фрэскі. На іх была выява голуба з пісьмом у ла..ках. Стагоддзямі існавала гэта надзейная пошта.

Цікавую легенду данеслі да нас старажытныя рукапісы.

Сабраўся бо.. вайны Марс у баявы пахо.. і пачаў адзяваць ваенныя даспехі. Але ў яго шлеме галу..ка звіла гняздо і вывела птушанят. Штосьці здрыганулася ў сэрцы бя..літаснага Марса. Ён асцярожна паклаў свой шлем на месца. Пахо.. не адбыўся. З таго часу голу.. лічыцца сімвалам міру.

● Спішыце, устаўляючы прапушчаныя літары. Да якой часткі слова яны адносяцца? Пакажыце на схемах састаў гэтых слоў.



**51.** Спішыце, падзяляючы тэкст на абзацы і ўстаўляючы прапушчаныя літары.

Ранняя восень прыйшла ў лясы, **пералескі**, лугі і непрыкметна па..кралася да вёсак. З яе прыходам злё..ку пажаўцелі беластволыя бяро..кі, ку..частыя клёны, цяністыя ліпы. У верасні а..лятаюць **пералётныя** птушкі, але не глуха ў нашых парках і садах і ў гэты час. Яны напоўнены чыстым звонам сініц. Нярэ..ка сяро.. іх можна заўважыць іншых птушак. Цяпер усе яны туляцца бліжэй да чалавека. Верасень — час садавіны, грыбоў і першых **замара..каў**. Альбо, як трапна гавораць у народзе: маці, ба..ька і чужы дзя..ька *(Р. Ігнаценка)*.

● Графічна абазначце састаў выдзеленых слоў. Падбярыце аднакаранёвыя словы да слова *садавіна.*

● Растлумачце сэнс народнага выслоўя.

**52.** Прачытайце тэкст. Складзіце план і напішыце падрабязны пераказ.

## Ворчык

Было гэта ў час вайны. На Палессі.

Жыў там на ўлонні прыроды, працаваў леснікам Пахом Тачыла. Любіў ён паляванне. І ўсё жыццё трымаў сабак. Па два, тры, а то і болей.

Аднойчы на леснікову сядзібу наляцелі карнікі. Яны пазабівалі сабак. Выратаваўся толькі адзін Ворчык.

Карнікі дапытваліся ў лесніка, дзе знаходзяцца партызаны. Але Пахом адмовіўся паказаць лагер народных мсціўцаў. Карнікі збілі яго да непрытомнасці і забралі з сабою. У бліжэйшай вёсцы

карнікі ўкінулі непакорнага лесніка ў свіронак і замкнулі.

Як жа здзівіліся ворагі, калі раніцай не ўбачылі там вязня. Адно нара зеўрала з-пад сцяны. Ворагі падумалі, што Пахом ачуняў і сам выграб дзірку.

На самай жа справе гэта зрабіў Ворчык. Па слядах сабака высачыў, дзе знаходзіцца гаспадар. А ноччу падгробся пад сцяну і выратаваў Пахома *(Б. Сачанка)*.



Пры напісанні падрабязнага пераказу дакладна, без адступленняў і змен перадаюцца змест тэксту і яго асноўная думка. Захоўваюцца будова тэксту, яго агульны інтанацыйны рысунак (танальнасць). Выкарыстоўваюцца характэрныя для тэксту прыёмы пабудовы і моўныя сродкі.

## § 7. Прыметнік

**53.** Прачытайце верш. Выпішыце прыметнікі разам з назоўнікамі, да якіх яны адносяцца. Абазначце склон прыметнікаў.

**Салавей**

У зацішку вербалозаў ніцых,
Дзе лясная сочыцца крыніца,
Чыстай, свежае вады напіўся
І яшчэ званчэй і весялей
Серабрыстай пацеркай на нітцы
Затрымцеў і песняю разліўся
У альховым кусце салавей.

*Васіль Вітка*

**54.** Пры спісванні падбярыце прыметнікі да выдзеленых назоўнікаў. Параўнайце варыянты тэксту. Якое апісанне лесу больш маляўнічае?

**Дарога** прывяла ў **алешнік**. Тут засень і цішыня. **Кусты** абступаюць дарогу і не даюць сонцу прабіцца на зямлю. **Тунель** непрыкметна ўліваецца ў **лес**. **Бор** далёка праглядваецца між ствалоў. Дол укрыты то **верасам**, то **мохам**, то **ігліцай**. Аднекуль даносіцца стук **дзятла**.

Род, лік, склон прыметнікаў залежаць ад назоўнікаў: *ранняя вясна, шырокае поле, у зялёнай дуброве, хвойныя лясы.*

**Пачатковая форма прыметніка** — форма мужчынскага роду, адзіночнага ліку назоўнага склону.

У сказе прыметнік выконвае ролю даданага члена сказа.

**55.** Спішыце, устаўляючы прапушчаныя літары. Назавіце прыметнікі. На якія пытанні яны адказваюць.

Устал..валася лагодная вос..нь. На нова.. жыццё адрадзіліся азімы.. палеткі. Густая зялёная рунь укрыла іх. На яравых палетках цупка* ўзялася за зямлю маладая канюшына. Лугі заз..ляненелі раскошнай атавай*.

Раніцамі зямлю ўсцілаў дробны іней. А днём у паветры плыло бела.. павуцінне. Адзінокі.. бярозы жаўцелі між зялёных сосе.. . *(Паводле А. Чарнышэвіча)*

● Якія канчаткі маюць прыметнікі мужчынскага, жаночага і ніякага роду ў назоўным склоне адзіночнага ліку? множнага ліку?

**56.** Прачытайце тэкст. Вызначце яго тэму. Спішыце, падбіраючы прыметнікі да выдзеленых слоў і ўстаўляючы прапушчаныя літары.

**Сонца** стаяла ні..ка над **лесам**. На **небе** было ясна. Вецер, які днём прыганяў з захаду абрыўкі хмар, цяпер сціх. Па абодва бакі дарогі л..жала с..нажаць. Адзін бок яе губляўся далёка ў **кустах**, другі прымыкаў да **воз..ра**. На с..нажаці стаялі ўжо **стагі**, густа былі раскіданы копы. *(Паводле А. Чарнышэвіча)*

● Складзіце 2—3 словазлучэнні. Абазначце канчаткі прыметнікаў.

## ДА ВЫТОКАЎ СЛОВА

***Госць.*** У старажытнасці слова *госць* мела значэнне ‘купец’. А слова *гасціць* — ‘гандляваць, прыязджаць з гандлёвай мэтай’. А яшчэ раней слова абазначала ‘чужы чалавек’.

**57.** Прачытайце верш. Знайдзіце ў ім аднакаранёвыя словы. Да якіх часцін мовы яны належаць? Абгрунтуйце сваю думку.

Ці то неба на поле ўпала,
Поле сінім абрусам заслала?
Ці то поле з небам злілося —
Столькі сіні наўкол разлілося?
Вецер гоніць сінія хвалі
У бясконцыя[с] сінія далі.
На траве расінкі
Падсінены сінькай.
Хадзем, сыне,
У ранак сіні.
Лён цвіце,
Сын расце.

*Я. Крупенька*

**58.** Спішыце тэкст. Падкрэсліце прыметнікі, якія стаяць у назоўным склоне. Зверху пазначце іх род і лік. Абазначце канчаткі.

Чорная густая ноч злілася са стэпам. Звычайна такія ночы называюць глухімі. Над зямлёй навісла цяжкае неба. Не відаць, дзе пачынаецца зямля.

Але гэту ноч ніяк не назавеш глухой. Далёка на поўдні відаць водблескі пажараў. Быццам гараць злавесным агнём цёмныя хмары. Часам яны асвятляюцца яркімі ўспышкамі, і толькі потым далятае далёкі прыглушаны грукат. Гук то змаўкае на нейкі момант, то зноў нарастае з вялікай сілай. Там праходзіць вогненная лінія фронту *(Р. Няхай)*.

**59.** Назавіце колеры вясёлкі. Запішыце іх.

**60.** Разгледзьце табліцу канчаткаў прыметнікаў адзіночнага ліку. *Сфармулюйце правіла* аб правапісе канчаткаў прыметнікаў адзіночнага ліку.

| Склоны | Мужчынскі род. Ніякі род | Жаночы род |
|---|---|---|
| Н. | ***-ы, -і, -ое, -ае, -яе*** | ***-ая, -яя*** |
| Р. | ***-ога, -ага, -яга*** | ***-óй (-óе), -ай (-ае), -яй (-яе)*** |
| Д. | ***-ому, -аму, -яму*** | ***-ой (-ое), -ай (-ае), -яй, (-яе)*** |
| В. | ***-ы, -і, -ое, -ае, -яе -ога, -ага, -яга*** | ***-ую, -юю*** |
| Т. | ***-ым, -ім*** | ***-óй (-óю), -ай (-аю), -яй (-яю)*** |
| М. | ***-ым, -ім*** | ***-óй -ай, -яй*** |

● Карыстаючыся табліцай, праскланяйце прыметнікі: а) *добры, верхні, светлае, сіняе*; б) *шчодрая, асенняя*.

**61.** Падрыхтуйцеся пісаць пад дыктоўку. Растлумачце правапіс выдзеленых літар.

## Лісцвяная мяцеліца

Пажаўцела зялён**ае** мора ў ваколіцах Мінска. Золк**ія** ночы прыспешвалі развіта**нн**е дрэў са сваім летнім уборам. Кроны асін зрабіліся чырвонымі. Пац**я**жэлі ад церпкага крывянога соку гронкі каліны.

Калі налятаў на лес злы вец**е**р, усё тут танула ў шаргатлівай лісцвяной м**я**целіцы. Стракаты дыван з лісц**яў** усцілаў зямлю. Толькі адны дубы яшчэ горда ўзнімалі на сваіх гранітных ствалах непакорныя бронзавыя шаты. *(Паводле М. Паслядовіча)*

● Абазначце лік і склон прыметнікаў у сказах 1-га абзаца.

**62.** Напішыце сачыненне на тэму «Восенню ў лесе».



**63.** Прачытайце верш. Спішыце, устаўляючы прапушчаныя літары. Абазначце склон назоўнікаў і прыметнікаў. Падкрэсліце галоўныя члены сказа ў апошнім сказе.

*бальша́к*

## Спявае жыта

І сонцу, і ветру а..крыта
Палёў беларуск.. душа —
Спявае высок.. жыта,
Калыша знаём.. бальшак*.
Б’е пру..каю спёк.. у грудзі,
Гарну да шчакі каласы,
І чуюцца ў сонечн.. гудз..
Мне про..каў жыв.. галасы.

Той песн.., для кожнага нов..,
Як хвал.., мяне ахіне.
Айчыны жытнёв.. слова
Звініць у густ.. збажыне.

*С. Законнікаў*

## § 8. Займеннік. Асабовыя займеннікі

**64.** Прачытайце тэкст. Знайдзіце ў ім асабовыя займеннікі. Вызначце іх асобу і лік. Якія словы яны замяняюць? На якія пытанні адказваюць? Якім членам сказа з'яўляюцца?

### Пеця ў вёсцы

Шасцігадовы Пеця толькі ў двары дзеда ўпершыню ўбачыў карову. Убачыў і закалаціўся як асінавы ліст.

— Баюся, ён укусіць...

— Гэта карова, Пеця, яна не кусаецца.

— Тады я ведаю, — сказаў хлопчык упэўнена і бадзёра. — Карова дае малако.

Гэта было ў першы дзень прыезду Пеці. А назаўтра ён ужо ведаў усіх хатніх жывёл *(І. Навуменка)*.

**65.** Спішыце тэкст, устаўляючы патрэбныя літары. Назавіце асабовыя займеннікі. Якая іх роля ў тэксце?

Б..розы — гэта назва палетка і ўрочышча. Тут праходзіць гасцін..ц на заха.. . Пры гасцінцы абапал стаяць старасвецкія б..розы. Яны высока ўзнімаюцца над праезнай дарогай. Дрэвы яшчэ шумяць густым лісц..м. У іх го*(л/лл)*і спяваюць птушкі.

Воддаль растуць яшчэ чатыры в..кавыя б..розы. Яны таксама перашэптваюцца, але цішэй.

Зусім наводдаль стаіць адзінокая старая б..роза. Яна ледзь шэпча. Ствол яе пачарнеў. У яе го*(л/лл)*і бываюць толькі вароны. *(Паводле І. Грамовіча)*

● Назавіце блізкія па значэнні словы. Растлумачце падзел тэксту на абзацы.

Займеннікі не называюць прадмет ці асобу, а толькі ўказваюць на іх.

**66.** Прачытайце тэкст. Назавіце сказ, які перадае асноўную думку.

Дайце загаловак, які перадаваў бы тэму тэксту. Спішыце, раскрываючы дужкі. Устаўце словы, якія служаць сродкам сувязі сказаў у тэксце.

Цішка Гартны быў адукаваным чалавекам. ... ніколі не грэбаваў сустрэцца і пагутарыць *(з)* самымі простымі людзьмі. Прыезд ... ў Капыль *(на)* пабыўку *(да)* сваякоў быў цэлай падзеяй *(для)* капылян. Усе ішлі *(да)* ... *(за)* парадай, паслухаць навіну. Яшчэ *(з)* большай павагай пачалі адносіцца *(да)* ... капыляне, калі прачыталі першую частку рамана «Сокі цаліны». Моцная сіла трымала гэтага чалавека *(ў)* гушчы народа. Усё жыццё Цішка Гартны быў цесна звязаны *(з)* народам *(М. Хведаровіч)*.

**67.** Прачытайце. Пастаўце пытанні да выдзеленых слоў. Да якой часціны мовы яны належаць? Вызначце асобу, лік і склон гэтых слоў.

## Яблыкі

— Колькі будзе, калі да пяці дадаць пяць? — пытаецца настаўнік у першакласніка Андрэйкі.

Андрэйка задумаўся.

— Ну, **я** даў табе пяць яблыкаў. Потым яшчэ пяць. Колькі яблыкаў **ты** павінен **мне** аддаць?

— Дванаццаць, — выпаліў Андрэйка.

— Дрэнна, сядай, — сказаў настаўнік.

— Эх ты! Сказаў бы дзесяць, і ўсё добра было б, — шэпча **яму** сусед Саўка.

— Ага, дзесяць... Я дванаццаць прапанаваў, і то **ён** не згадзіўся *(В. Феранц)*.

● Падрыхтуйце паводле тэксту маленькую сцэнку. Колькі будзе роляў? Ці патрэбна агучваць словы аўтара?

**68.** Прачытайце. Назавіце сродкі сувязі сказаў. Зрабіце вывад пра ролю займеннікаў у тэксце.

Падзяліце тэкст на часткі. Размясціце іх у той паслядоўнасці, у якой адбываліся падзеі. Дайце імя дзейнай асобе і вусна перадайце змест тэксту. Падбярыце загалоўкі да кожнай часткі.

### Добрае суседства

Я з вудачкамі стаіўся пад вярбой. А побач са мною, на суседнім кусце, жаўтагрудая аўсянка сядзіць.

— Зінь-зінь-зі-і-нь, — раз-пораз падае́ яна свой мілагучны галасок.

Кожны з нас сваім заняты. Я лаўлю залацістых карасёў у азярцы, а мая жаўтагрудая суседка пільнуе маленькіх птушачак у мяккім гняздзечку пад кустом.

Пра гняздзечка аўсянкі я выпадкова даведаўся. Палез неяк раз у куст, каб вуды схаваць. Гляджу, а там гняздзечка, а ў ім — пяць шэранькіх яечак ляжыць. Я хуценька назад, каб птушка не заўважыла мяне ды гнязда не адцуралася.

Было гэта, бадай, як месяц назад. А цяпер ужо ў гняздзечку пяць птушанятак. Усе ў шэранькіх пёрках, з жвавымі канаплінкамі-вочкамі. Цікаўныя такія!

Рыбачу я пад гэтай вярбой амаль кожную раніцу. Паводжу сябе на беразе ціха, каб рыбу не палохаць у возеры, а заадно, вядома, і сваю крылатую суседку. Птушачка прызвычаілася і зусім мяне не баіцца *(Р. Ігнаценка)*.

**69.** Да наступных слоў падбярыце займеннікі 3-й асобы адзіночнага ліку. Пары слоў запішыце.

| | |
|---|---|
| вучыў (к а г о?) | прынёс (к а м у?) |
| вучыўся (з к і м?) | прынёс (з к і м?) |
| чытаў (п р а к а г о?) | перадаў (к а м у?) |
| чытаў (з к і м?) | перадаў (д л я к а г о?) |

**70.** Прачытайце загадкі. Вызначце асобу, лік і склон асабовых займеннікаў. Калі мы можам даведацца, замест якіх слоў ужыты займеннікі 3-й асобы? Запішыце адгадкі парамі. Як называюцца словы, супрацьлеглыя па значэнні?

1. Ён патрэбен нам усім
Дзеля працы, шчасця.
Мы заўсёды разам з ім
Будзем усміхацца.

А яна — бяда і зло,
Мора слёз і болю,
І яе — каб не было
Анідзе, ніколі!

2. Без яго жыццё — самота,
Ён — надзея, і пяшчота,
І памочнік ён, і брат,
Хай у нас іх будзе шмат!

А ягоны антыпод*
Прынясе нам шмат нягод.
Будзем моцна сябраваць,
Каб яго не сустракаць.
*М. Пазнякоў*

А д г а д к і: *сябар, вайна, вораг, мір.*



**71.** Спішыце, ставячы займеннікі, што ў дужках, у патрэбным склоне. У дужках напішыце пытанні, на якія яны адказваюць.

1. Дарога была людная, шасэйная, па *(яна)* раз-поразу імчаліся машыны *(Кузьма Чорны)*. 2. Дзядзька Міхей не песціў свайго ўнука, не вылучаў *(ён)* сярод іншых *(Т. Хадкевіч)*. 3. Са станцыі далятаў да *(мы)* густы гул матораў і ляскатанне жалеза *(Т. Хадкевіч)*. 4. Насустрач *(мы)* па дошках і сходках беглі людзі *(Т. Хадкевіч)*. 5. *(Я)* так хочацца ўславіць Радзіму, да канца сваю песню дапець *(У. Скарынкін)*.

## § 9. Дзеяслоў

**72.** Прачытайце. Вызначце тэму тэксту. Выпішыце дзеясловы, якія стаяць у неазначальнай форме. Пастаўце да іх пытанні.

Самая галоўная крыніца, адкуль чалавек чэрпае свае веды, — кніга. **Чытанне** — гэта праца думкі. Вучыся думаць, чытаючы. Старайся прачытаць болей, чым табе задаюць.

Любімыя кнігі чытаюць і перачытваюць. Ці ёсць у цябе любімыя кнігі? З іх пачынаецца твая бібліятэчка. Спярша — маленькая, на адну паліч-

ку, а пасля, магчыма, і на цэлую шафу. Гэта будзе бібліятэчка тваіх любімых кніг.

Любоў да кнігі пачынаецца з тваіх школьных падручнікаў. Шануй іх, памятаючы, што пасля цябе па іх будуць вучыцца твае малодшыя таварышы *(В. Вітка)*.

⊙ Да якой часціны мовы належыць выдзеленае слова? Абгрунтуйце сваю думку.

**Пачатковая форма дзеяслова** — гэта неазначальная форма.

У сказе дзеясловы выконваюць ролю выказніка або іншага члена сказа.

**73.** Да дзеясловаў неазначальнай формы дапішыце патрэбныя назоўнікі і вызначце іх склон.

дапамагчы (к а м у?)
апавядаць (п р а ш т о?)
перадаць (ш т о?)
прынесці (к а м у?)
сябраваць (з к і м?)
пайсці (п а ш т о?)
захапляцца (ч ы м?)
звярнуцца (д а к а г о?)

**74.** Да наступных назоўнікаў падбярыце аднакаранёвыя дзеясловы ў неазначальнай форме. Запішыце.

У з о р: *малюнак* — (ш т о р а б і ц ь?) *маляваць*, (ш т о з р а б і ц ь?) *намаляваць*.

Загадка, гаворка, сінява, прымерка, крык, думка, збор, адказ, выган, прыпынак, фарба.

**75.** Спішыце два першыя абзацы, устаўляючы прапушчаныя літары. Растлумачце іх напісанне. Якім членам сказа з’яўляюцца дзеясловы? Вызначце іх час.

## Тайны зорнага неба

Часта план..тарый называюць «зорным т..атрам», але гэта вельмі своеасаблівы т..атр. У зале, круглай, нібыта цырк, сцэна размешчана над гл..дачамі ў выглядзе ўвагнутага паўшар’я. На гэтым купале можна ўбачыць шмат цікавага: Сонца і Мес..ц, планеты і зоркі, каметы і мет..оры.

Пазнаёміцца з тайнамі Сусвету можна, пабываўшы ў Мінскім план..тарыі і праслухаўшы лекцыі-с..ансы.

Хто хоць раз наведаў планетарый, ніколі не забудзе таго велічнага відовішча, калі раптам успыхвае на купале мноства зорак. Вы лёгка знойдзеце сярэбраны коўш Вялікай Мядзведзіцы, бліскучую групу Арыёна і іншыя сузор’і.

● Растлумачце, чаму словы *Сонца* і *Месяц* напісаны з вялікай літары. Прыдумайце сказы, дзе б гэтыя словы пісаліся з малой літары.

**76.** Ад наступных дзеясловаў з дапамогай прыставак утварыце аднакаранёвыя, якія адказваюць на пытанне ш т о з р а б і ц ь?

У з о р: *несці — прынесці, занесці, вынесці, аднесці.*

| | |
|---|---|
| касіць — … | ліць — … |
| плысці — … | мераць — … |
| сеяць — … | малоць — … |
| капаць — … | важыць — … |

**77.** Прачытайце. Як аўтар называе верабейчыкаў? Назавіце дзеясловы. Якім членам сказа яны з'яўляюцца?

### Верабейчыкі

На марознае акно
Падаюць сняжынкі.
Я збіраю са стала
Хлеба акрушынкі.
Для крылатых пеюноў
Снеданне рыхтую,
Верабейчыкаў-сяброў
Чым магу частую.
І спяваюць у акне
Шэрыя клубочкі,
**Пацяшаюць** сэрца мне
Ад рана да ночкі.

*С. Новік-Пяюн*

● Да выдзеленага слова падбярыце блізкае па значэнні.

**78.** Прачытайце. З якой мэтай напісаны тэкст? Каму ён адрасуецца? Чаму нельга таптаць траву, ламаць дрэўцы? Чаму трэба асцярожна рваць яблыкі, берагчы кожную зёлку? Чаму нельга хадзіць па жыце?

Спішыце, раскрываючы дужкі, устаўляючы прапушчаныя літары.

### Шануйце ўсё жывое

Як толькі сябе помню, бацькі мае і старэйшыя людзі-суседзі прывучалі малых шанаваць усё жывое, што вакол нас.

— *(Не)* тапчы травіцы, хадзі сцежачкай. Трава вырасце. Яе скосяць — будзе сена кароўкам.

— *(Не)* чапай, *(не)* ламай маладога дубочка або сасонкі. З іх вырастуць вялікія дрэвы.

— Асцярожна рві яблыкі — *(не)* паламай галінкі. Дрэва будзе хварэць, на паламаным суку *(не)* будзе яблыкаў.

— Напрасткі праз жыта *(не)* хадзі. Ты патопчаш нагамі хлеб.

Штодня я чуў ад людзей нешта нова.. і цікава.. . З маленства расло ў мяне вялікае замілаванне да прыроды *(У. Дубоўка)*.

● Як пішацца ***не*** з дзеясловамі?

● Якія канчаткі маюць прыметнікі ніякага роду адзіночнага ліку ў назоўным склоне?



**79.** Адгадайце загадкі. Спішыце, раскрываючы дужкі, устаўляючы прапушчаныя літары або апостраф.

Два браты глядзяць у ваду, а ніколі *(не)* сойдуцца. Стука.., грука.., а нідзе яго *(не)* відаць. Без языка жыве, *(не)* есць, *(не)* п..е, а гаворыць. Як тая рэч завецца, што цэлы год лічыць і ніколі *(не)* саб..ецца.

**80.** Прачытайце дыялог. Вызначце час, асобу, лік дзеясловаў.

— Коля, ты баішся заходзіць у цёмны пакой?

— Не.

— Тады зайдзі.

— Пойдзем разам — і ты ўбачыш, што я не баюся.

● Пабудуйце самі дыялог-жарт.

**81.** Ад назоўнікаў *сябар, вячэра* і прыметнікаў *сухі, чырвоны* ўтварыце дзеясловы і пастаўце іх у цяперашнім, прошлым і будучым часе.

**82.** Падбярыце дзеясловы, супрацьлеглыя па сэнсе.

| | |
|---|---|
| узяць — ... | вымачыць — ... |
| сказаць — ... | паліць — ... |
| падняцца — ... | нагрэць — ... |
| адпачыць — ... | святлець — ... |
| бегчы — ... | весяліцца — ... |

**83.** Ад дзеясловаў неазначальнай формы, змяняючы націскны склад, утварыце дзеясловы цяперашняга часу.

| | |
|---|---|
| хадзіць — ... | лячыць — ... |
| вадзіць — ... | сушыць — ... |
| вучыць — ... | саліць — ... |
| насіць — ... | круціць — ... |

**84.** Прачытайце тэкст. Назавіце дзеясловы неазначальнай формы. Да якога спражэння яны належаць?

Люблю адпачыць пад прыдарожнай бярозкай. Добра так. Заплюшчыш вочы, і тады разгалістае зялёнае дрэва ўявіцца мачтай. Лёгкі шум яго лісцяў здасца плёскамі хваль. Можна плыць і плыць пад гэту аднастайную музыку ў далёкія далі. Можна пабачыць заморскія краіны, наведаць казачную Атлантыду *(І. Навуменка)*.

**85.** Спішыце тэкст, ставячы дзеясловы, назоўнікі і прыметнікі ў множным ліку. Абазначце канчаткі. Які варыянт тэксту лепш перадае няпэўную колькасць названых птушак?

Увесну, улетку, увосень і ўзімку — ніколі не моўкне ў пушчы дзіўная птушыная песня. Свішча шпак, цінькае сінічка, стракоча сарока, кракае качка, буркуе голуб, кукуе зязюля, цёхкае салавей, клякоча бусел, курлыкае жораў *(А. Клышка)*.

## ДА ВЫТОКАЎ СЛОВА

***Вілам і па вадзе пісана.*** Выслоўе гэта зусім не звязана са значэннем слова *вілы* 'сельскагаспадарчая прылада'. Вельмі даўно гэта слова мела яшчэ адно значэнне 'кругі': 'кругамі па вадзе пісана'. Цяпер выраз азначае 'невядома, ці ажыццявіцца'.

**86.** Разгледзьце табліцу асабовых канчаткаў дзеясловаў. Карыстаючыся табліцай, пісьмова праспрагайце па два дзеясловы I і II спражэння.

| I спражэнне | II спражэнне |
|---|---|
| ***-у (-ю)***<br>***-еш (-эш, -аш)***<br>***-е (-э, -а)***<br>***-ём (-ем, -ом, -ам)***<br>***-еце (-яцé, -аце)***<br>***-уць (-юць)*** | ***-у (-ю)***<br>***-іш (-ыш)***<br>***-іць (-ыць)***<br>***-ім (-ым)***<br>***-іце (-ыце)***<br>***-аць (-яць)*** |

**87.** Спішыце, раскрываючы дужкі. Закончыце прыказкі дзеясловамі. Абазначце спражэнне дзеясловаў.

Гара з гарой *(не)* сходзіцца, а чалавек з чалавекам … . Дождж не тады ідзе, калі просяць, а тады, калі сена … . Каня *(не)* дагледзіш — далёка *(не)* … . У дзіравым вядры вады *(не)* … . Чыста і гладка: камар носа *(не)* … . Лішняга і ў мех *(не)* … . *(Не)* пяройдзеш парог — на куце *(не)* … . Адна галавешка і ў печы *(не)* гарыць, а дзве і ў полі *(не)* … .

**88.** На тэму «Школьная спартакіяда» складзіце і запішыце тэкст, у якім сказы звязаны паралельна.

**89.** Прачытайце верш К. Крапівы. Назавіце дзеясловы. Якія з іх стаяць у неазначальнай форме? Вызначце спражэнне.

Боты — два,
Але не пара.
У іх розны нораў
І розныя сцежкі:
Адзін любіць плаваць
Другі ходзіць пешкі.

Напэўна, вам будзе
Нямнога работы
Самім дагадацца,
Што гэта за боты.

**90.** Прачытайце тэкст. Спішыце першы абзац, замяняючы дзеясловы 2-й асобы множнага ліку дзеясловамі адзіночнага ліку.

Дарагія сябры! Вы многа ўжо ведаеце пра нашу родную мову. Яшчэ змалку засвоілі шмат слоў, навучыліся змяняць і спалучаць іх у сказы. Гэта ўменне вы перанялі ад сваіх бацькоў, суседзяў, знаёмых разам з жывою гутаркаю.

У школе вы вывучаеце граматыку, засвойваеце шматлікія правілы.

Але ці можна сказаць, што вы нарэшце належным чынам авалодалі роднай мовай? Гэтага сказаць нельга! Трэба яшчэ ўмець выбраць найбольш прыдатнае слова, найлепшы варыянт сказа. Словам, навучыцца карыстацца мовай з улікам задач і мэты выказвання. У гэтым вам дапамогуць блізкія да граматыкі лінгвістычныя дысцыпліны — культура мовы і стылістыка. *(Паводле А. Каўруса)*



**91.** Спішыце тэкст, раскрываючы дужкі. Другі абзац запішыце так, каб сказы перадавалі пабуджэнне да дзеяння. Для гэтага, дзе магчыма, дзеясловы неазначальнай формы замяніце на дзеясловы 2-й асобы множнага ліку.

Вы *(прыйшоў)* на пошту, *(хочаш)* пазваніць па міжгароднім тэлефоне свайму сябру. Але вы не ўпэўнены, што вас хутка звяжуць з адрасатам. Як вам быць?

Спачатку трэба папрасіць прабачэння ў таго, хто стаіць ля самага акенца. Затым ветліва звярнуцца да служачага, задаць пытанне, сфармуляваўшы яго каротка і выразна. Перш чым адысці ад акенца, неабходна падзякаваць чалавеку, які дазволіў вам без чаргі навесці неабходную даведку.

**92.** Спішыце тэкст, замяняючы дзеясловы прошлага часу дзеясловамі цяперашняга часу. Назавіце іх асобу, лік. Абазначце канчаткі.

Яны стаялі пры ўездзе ў вёску, на поплаве. І калі б я ні вяртаўся дадому — бачыў яшчэ здалёку іх непакорныя пышныя вяршаліны.

Самыя розныя ўспаміны ажывалі раптам. Пад дубамі мы, вясковыя хлапчукі, пасвілі свіней, ляжалі ў цяньку, марачы кожны пра сваё.

Ляцелі з лесу ці ў лес птушкі — прысядалі адпачыць на дубах. Затрымліваўся, не мінаў дубоў і вецер. Восенню, калі жаўцелі палі, прастарнелі лугі, вецер страсаў з дубоў спачатку жалуды, а потым і лісце.

З усяе вёскі бывалі ў такую пару пад дубамі людзі, прыходзілі збіраць жалуды. *(Паводле Б. Сачанкі)*

**93.** Адгадайце загадкі. Спішыце, дапісваючы канчаткі дзеясловаў. Вызначце асобу, час, спражэнне дзеясловаў.

1. Яно па небе плава.., іскрыстае, рухавае, жыццё да.. палеткам, і збажыне, і кветкам.

2. Кругом вада, а з піццём бяда. Хто адгада.., дзе гэта быва..?

3. Па моры імчыцца, пад ветрам гуля.., да берага дойдз.., адразу зніка.. .

4. Не рыба, а плава.., не конь, а ходзіць, не пілка, а рэж.. .

5. Цэлы дзень лята.., усім назаля.., а ноч настан.., тады перастан.. .

Адгадкі: *хваля, сонца, на моры, бабёр, муха.*

**94.** Спішыце тэкст, устаўляючы прапушчаныя літары і замяняючы дзеясловы 2-й асобы адзіночнага ліку на дзеясловы 2-й асобы множнага ліку. Абазначце канчаткі дзеясловаў. Параўнайце варыянты тэксту. Які з іх бліжэй да гутарковага?

Цябе чакае ў госці лес, напоены салодкім водарам кветак і яга.., гаркаватым пахам грыбоў. Будзь толькі добрым з лесам, шчырым, і ён пакажа табе ўсе свае та..мніцы, шчодра падзеліцца багаццем.

У сярэдзіне лета лес усыпаны суніцамі. Пунсовымі кроплямі зіхацяць яны ў траве.

Вось тут і не будзь ганарыстым, кланяйся лесу — і напоўніш кошык спелымі мядовымі суніцамі.

А калі лета пакоціцца на восень, пачнуць расці грыбы.

І цяпер а..бівай лесу паклоны. А будзеш задзіраць угору нос — нічога не знойдзеш, нічога не назбіраеш[с] *(В. Хомчанка)*.

**95.** Прачытайце тэкст. Дайце яму загаловак, які перадаваў бы тэму. Напішыце падрабязны пераказ, карыстаючыся дадзеным ніжэй планам.

Галовы буслянят усё вышэй і вышэй узнімаліся над гняздом. Аднойчы раніцаю Толік убачыў, як адно з іх узнялося на свае цыбатыя ногі і замахала яшчэ досыць куртатымі крыламі. Другое спалохалася і хуценька прыгну́ла галаву.

— Эх ты, недаростак! — засмяяўся Толік.

Так і назвы атрымалі бусляняты — Недаростак і Смелы.

Смелы сапраўды быў смелы. Ён усё часцей падымаўся на ногі і махаў крыламі. Недаростак жа часта азіраўся праз сваю спіну на дол, нібы баючыся туды зваліцца.

На сенажаці, куды лятаалі на здабычу старыя буслы, былі стагі. На некаторых з іх стаяла па два, па тры, а то і больш маладых буслоў. Старыя часта падымалі іх у паветра і падоўгу кружыліся з імі над лугамі і палямі, трэніруючыся перад далёкай і цяжкай дарогай у вырай.

Толік ужо асцерагаўся, што Смелы і Недаростак прыпозняцца, могуць нават загінуць.

Але настаў дзень, і Толікавы буслы пакінулі гняздо.

Толік не зводзячы вачэй сачыў за іх палётам. Недаростак нічым не адрозніваўся ад свайго брата.

— Шчаслівай вам дарогі! — прашаптаў Толік *(М. Паслядовіч)*.

П л а н

1. Бусляняты ў гняздзе.
2. Смелы.
3. Перад далёкай дарогай.
4. Трывога за буслянят.
5. Бусляняты ў палёце.

## Кантрольныя пытанні і заданні

1. Чым адрозніваюцца гукі ад літар?
2. Як вызначыць колькасць складоў у слове?
3. Якую ролю адыгрывае націск у слове?
4. Калі пішуцца галосныя ***о, э***?
5. Ад чаго залежыць правапіс галосных ***е, ё, я***?
6. Якія часткі слова вы ведаеце?
7. Прывядзіце прыклады аднакаранёвых слоў.
8. Што вы ведаеце аб правапісе парных звонкіх і глухіх зычных?
9. Чым адрозніваюцца прыстаўкі ад прыназоўнікаў?
10. Калі пішацца апостраф? Прывядзіце прыклады.
11. Якія назоўнікі адносяцца да 1, 2, 3-га скланення? Прывядзіце прыклады.
12. На што ўказваюць займеннікі?
13. З якімі словамі ў сказе звязваюцца прыметнікі? Ад чаго залежаць род, лік, склон прыметнікаў?
14. Якія канчаткі маюць дзеясловы I і II спражэння цяперашняга часу ў 2-й і 3-й асобе множнага ліку? Прывядзіце прыклады.
15. Назавіце характэрныя прыметы тэксту.
16. Назавіце сродкі сувязі сказаў у тэксце.

# СІНТАКСІС І ПУНКТУАЦЫЯ

**Сінтаксіс** — раздзел навукі аб мове, у якім вывучаюцца словазлучэнні і сказы.

**Пунктуацыя** — гэта сістэма правілаў пастаноўкі знакаў прыпынку.

## § 10. Словазлучэнне

Слова — асноўная моўная адзінка. Словам мы называем прадметы, іх прыметы, дзеянні, розныя з'явы. Напрыклад, слова *лес* абазначае нейкую прастору зямлі, на якой растуць дрэвы. Але лясы бываюць старыя і маладыя, светлыя і цёмныя, густыя і рэдкія, вялікія і малыя, сасновыя і дубовыя. Калі трэба сказаць пра гэта, мы карыстаемся не словамі, а словазлучэннямі.

Словазлучэнне больш дакладна называе прадмет, дзеянне ці прымету: *стары лес, малады лес, будаваць дом, вельмі высокі*.

**96.** Пабудуйце словазлучэнні, далучаючы да дзеяслова адно слова з дужак. Чаму нельга далучыць другое слова?

Спяваць *(песня, казка)*, маляваць *(пейзаж, думка)*, дзверы *(падмурак, школа)*, уручыць *(жарт, ордэн)*, бегаць *(высока, шпарка)*, павярнуць *(лесам, налева)*.

Словазлучэнні складаюцца з двух слоў: галоўнага і залежнага. Галоўным з’яўляецца тое слова, ад якога ставіцца пытанне. У словазлучэнні яго абазначаюць так: ×.

Слова, да якога ставіцца пытанне, з’яўляецца залежным. Напрыклад:




Залежнае слова звязваецца з галоўным па сэнсе і граматычна: *зялёная трава, зялёны луг, зялёнае поле.* Нельга сказаць: *зялёная адліга, зялёны мядзведзь,* бо атрымліваюцца бяссэнсавыя, недарэчныя словазлучэнні.

Граматычная сувязь найбольш часта выражаецца канчаткамі або канчаткамі і прыназоўнікамі:




Нязменныя словы (прыслоўі) звязваюцца з галоўным словам толькі па сэнсе:



**97.** Прачытайце тэкст. Вызначце спосаб і сродкі сувязі сказаў у ім. Вусна перадайце яго змест.

Выпішыце з 2-га сказа словазлучэнне з галоўным словам дзеясловам, потым словазлучэнні з галоўным словам назоўнікам. Абазначце галоўнае слова.

Напэўна, ніводнай птушцы чалавек не прысвяціў столькі легендаў, паданняў, прыказак і прымавак, як буслу.

Шанавалі гэтых прыгожых птушак многія народы. Бусел заўсёды быў свяшчэннай птушкай у туркаў. За разбурэнне буслянкі **вінаватых** каралі смерцю. У Старажытным Егіпце гэтая птушка была сімвалам справядлівасці. У Македоніі яе выяву чаканілі на манетах. Старажытныя германцы з-за чырвонай дзюбы лічылі бусла сваяком бога грому Тора. Відаць, адсюль і павер’е*, што маланка ніколі не ўдарыць у дом, дзе гняздзіцца бусел.

⊙ Да якой часціны мовы належыць выдзеленае слова? Абгрунтуйце сваю думку.

**98.** Складзіце словазлучэнні. З дапамогай залежных слоў передайце розныя значэнні прыведзеных ніжэй слоў. Пры неабходнасці карыстайцеся тлумачальным слоўнікам.

У з о р: *каса; русая каса; вострая каса.*

Кіт, гасцінец, бабка, журавель, ручка, горка.

У большасці словазлучэнняў галоўнымі словамі з’яўляюцца назоўнікі і дзеясловы. Калі галоўнае слова назоўнік — гэта назоўнікавае словазлучэнне, калі дзеяслоў — дзеяслоўнае словазлучэнне.

**99.** З наступнымі словамі пабудуйце словазлучэнні. Вызначце галоўнае і залежнае словы і граматычныя сродкі сувязі.

я к а я? к у д ы?

У з о р: *цікав*[*ая*] *легенд*[*а*], *пайсці ў грыб*[*ы*].

Моцныя, вецер; гераічны, мінулае; пабываць, музей; выступіць, сход; пагутарыць, сябар; надрукаваць, газета.

Спалучэнне дзейніка і выказніка не з'яўляецца словазлучэннем.



Пры разборы сказаў спачатку называюць дзейнік і выказнік, пасля словазлучэнні дзейніка з залежнымі словамі і затым словазлучэнні выказніка з залежнымі словамі.

**100.** Прачытайце. Выпішыце словазлучэнні з выдзеленымі назоўнікамі.

я к о е? ч а г о?

У з о р: *сів*[*ое*] *покрыва, покрыва туман*[*у*].

Заходзіла сонца. Яно са́ма што ападала за гарызонт, гарэла на стрэхах будынкаў і трапятала на жоўтых лістах апусцелага саду.

Пасля ўжо апошнімі прамянямі яно слізгала па высокай **макаўцы** сіласнай вежы і патухала зусім. На гарызонце астаўся толькі чырвоны край неба. Ад лесу пачынаў наплываць і згушчацца змрок, і на сяло пацягнула халаднаватаю **вільгаццю** паплавоў* (*Ян Скрыган*).



**101.** Утварыце і запішыце словазлучэнні. Абазначце галоўныя словы. Якой часцінай мовы яны з'яўляюцца?

дзе? — якой?

Узор: *вучуся ў школ*[*е*], *у музычн*[*ай*] *школе.*
(дзеясл.) (наз.)

Працуе, у, родны, горад; вярнуўся, з, спартыўны, лагер; кнігі, з, школьная, бібліятэка; чытаў, у, чытальная, зала.

⊙ **102.** Прачытайце словазлучэнні пад лічбамі 1 і 2. Што ў іх агульнае і чым яны адрозніваюцца?

1. Зялёны востраў, пясчаны бераг, круты адхон, чырвоны аловак, маляўнічы краявід, урачысты сход, дружныя ўсходы.

2. Дэлегат з'езда, моладзь краіны, конкурс малюнкаў, урок спеваў, даліна ракі, клін лесу, рух машыны.

⊙ **103.** У кожным радзе назавіце словазлучэнне, якое адрозніваецца ад іншых сваім агульным значэннем.

1. Жоўтая кветка, сіні касцюм, белая століць, драўляны ложак, зялёнае пер'е, блакітнае неба, чорны аловак.

2. Малюю пэндзлем, рэжу нажом, чэрпаю вядром, скачу галопам, жну камбайнам.

**104.** Прачытайце тэкст. Выпішыце спачатку словазлучэнні з дзейнікам, а потым — з выказнікам. Зрабіце (вусна) разбор словазлучэнняў (гл. схему разбору).

Над сажалкамі стаяў летні вечар. Даўно пагасла вячэрняя зара. Ад сажалак павяваў свежы ветрык. Ён варушыў лісты на дрэвах. Ніщто не парушала вячэрняй цішыні *(А. Чарнышэвіч)*.

## Разбор словазлучэння

П а р а д а к   р а з б о р у

1. Вызначце галоўнае і залежнае словы, паставіўшы пытанне ад галоўнага слова да залежнага.

2. Назавіце, якімі часцінамі мовы з'яўляюцца галоўнае і залежнае словы.

*На палях расце багаты ўраджай.*

*багаты ўраджай; расце на палях*

У з о р   р а з б о р у

*багаты ўраджай*

***Вусны разбор***

У словазлучэнні *багаты ўраджай* галоўнае слова — *ураджай; ураджай* (я к і?) *багаты; багаты* — залежнае слова.

Галоўнае слова выражана назоўнікам, залежнае — прыметнікам.

***Пісьмовы разбор***

я к і?

*багаты ўраджай*
(прым.) (наз.)

**105.** Перакладзіце на беларускую мову. Пры неабходнасці карыстайцеся перакладным слоўнікам.

Идти по лесу, идти по полям, не пришёл из-за болезни, читали вдвоём, читали по вечерам, благодарить друзей, старше её, лучше их, болеть корью.



Пры перакладзе трэба захоўваць асаблівасці той мовы, на якую перакладаецца тэкст.



**106.** Замяніце, дзе магчыма, спалучэнні назоўнікаў з прыметнікамі спалучэннямі двух назоўнікаў (з прыназоўнікамі ці без іх).

У з о р: *месячнае святло — святло месяца, грэцкая каша — каша з грэчкі.*

Асеннія апенькі, кляновы ліст, паркалёвая сукенка, гарадскі пейзаж, сонечная раніца, купалаўскія вершы, школьны вечар, беларуская гісторыя, гліняны посуд, салаўіныя песні, рачны бераг, футбольны сезон, маладзёжная газета, вячэрні канцэрт, бабуліны казкі, грыбны дождж, грыбны суп, архітэктурны помнік, музычны фестываль.

● Складзіце па два словазлучэнні наступнай будовы: «прым. + наз.», «наз. + наз.», «дзеясл. + наз.»

## § 11. Стылі маўлення

**107.** Прачытайце тэксты.

1. **Дуб**

Сілачом стаіць
Дуб разложысты,
І здалёк відаць
Пышны верх яго.
Ў глыб зямлі ўвайшлі
Карані яго.

Крэпка дуб стаіць,
Не варушыцца!
Камель — слуп-скала,
Дыша сілаю,
А ўгару зірнеш —
Шапка валіцца.

*Якуб Колас*

2. **Дуб**

Да дуба было метраў дзесяць.

— А божачкі! Ну і вымахаў!

— Яму гадоў пяцьсот з гакам, — гаворыць ляснік.

Я не вытрымліваю, падыходжу і спрабую як бы абхапіць яго. Ды дзе там. Трэба амаль пяць абхватаў! Закідаю галаву, прымерваю, колькі ў вышыню.

Ляснік зноў падае голас:

— Дзесьці метраў сорак будзе.

Здзіўляюся ўслых:

— Як такі велікан можа ўстаяць, не паваліцца?

— Каранямі звязаны. Углыб яны ідуць метраў на пяць, а ўшыркі — і да дваццаці будзе. Дубіна ў нас добра расце. Але векавых мала засталося *(Я. Пархута)*.

3. **Дуб**

Дуб звычайны належыць да сямейства букавых. У Беларусі расце на ўсёй тэрыторыі, асабліва ў паўднёвай частцы, дзе ўтварае дубровы.

Дуб — дрэва першай велічыні, вышыня яго 30—40 м, у дыяметры больш за 1 м, мае магутную каранёвую сістэму. Крона яйкападобная або цыліндрычная, на адкрытых месцах — шатра-

падобная. Размнажаецца насеннем (жалудамі) і парасткамі ад пня.

Дуб — адна з галоўных лесаўтваральных парод. Драўніна моцная і гнуткая, мае высокія тэхнічныя ўласцівасці і прыгожую тэкстуру*.

У Беларусі ёсць дрэвы ва ўзросце 500—550 гадоў, дыяметрам 1,5—1,9 м. Больш за 40 такіх волатаў ахоўваюцца як батанічныя помнікі прыроды *(Энцыклапедыя прыроды Беларусі)*.

## АДКАЖЫЦЕ НА ПЫТАННІ І ВЫКАНАЙЦЕ ЗАДАННІ

1. Да якой сферы моўных зносін належыць кожны з тэкстаў (мастацкай, навуковай, бытавой)?

2. Вызначце мэту кожнага тэксту (паведаміць дакладныя звесткі пра дуб; вобразна і маляўніча апісаць дуб; абмяняцца ўражаннямі пра дуб).

3. Назавіце характэрныя прыметы кожнага тэксту (непасрэднасць, свабодны выбар слоў і выразаў; вобразнасць, эмацыянальнасць; падкрэсленая лагічнасць, доказнасць).

У кожнай сферы сваёй дзейнасці (навуцы, мастацтве, праве, палітыцы, побыце) людзі паразнаму карыстаюцца мовай. Паступова за гэтымі сферамі замацаваліся тыя моўныя сродкі, якія найбольш часта ўжываюцца. Сфарміраваліся асобныя моўныя разнавіднасці. Іх прынята называць стылямі.

Калі трэба сцісла і дакладна раскрыць сутнасць якой-небудзь з'явы ці прадмета, выкарыстоўваецца **навуковы** стыль.

Вобразнае апісанне якой-небудзь з'явы, прадмета, карціны робіцца ў **мастацкім** стылі.

Бытавыя зносіны людзей абслугоўвае **гутарковы** стыль.

**108.** Прачытайце тэксты. У якіх сферах дзейнасці людзей яны выкарыстоўваюцца? Якая мэта кожнага тэксту (паведаміць звесткі, якія маюць практычнае значэнне; уздзейнічаць на людзей, у чымсьці пераканаць іх)? Якая адметная рыса кожнага тэксту (дакладнасць, афіцыйнасць, эмацыянальнасць, заклікальнасць)?

## Палажэнне аб медалі Францыска Скарыны

1. Медаль Францыска Скарыны зацверджаны для ўзнагароджання работнікаў навукі, народнай адукацыі і культуры за выдатныя даследаванні гісторыі Беларусі, дасягненні ў галіне нацыянальнай мовы, літаратуры, мастацтва, кнігавыдання, культурна-асветніцкай дзейнасці, а таксама прапаганду культурнай спадчыны беларускага народа.

2. Медаль Францыска Скарыны носіцца на левым баку.

## Вывучайце свой край

Багаты, вялікі і прыгожы наш край. Славіцца ён не толькі цудоўнай прыродай, але і помнікамі старажытнасці.

Беларусь — гэта край легенд і казак, край багатай народнай творчасці. Кожная вёска, мястэчка, горад, рака, возера тоіць у сабе цікавыя старонкі мінулага. Помнікі старажытнасці дапамагаюць нам пазнаць гісторыю народа. Яны выхоўваюць у нас любоў да Радзімы.

Мы павінны ведаць і шанаваць усё, што створана нашымі таленавітымі продкамі.

● Разбярыце па саставе словы *помнікамі, дапамагаюць, народнай.*

Канкрэтныя факты афіцыйнага характару перадаюцца **афіцыйным** стылем.

Калі ж трэба ўздзейнічаць на людзей, у чымсьці пераканаць іх, да нечага заклікаць, то выкарыстоўваецца **публіцыстычны** стыль.

Кожны стыль выпрацаваў свае формы пабудовы тэкстаў, якія называюцца **жанрамі.**

У афіцыйным стылі гэта: аб'ява, заява, даведка, рэкамендацыя, аўтабіяграфія.

Інтэрв'ю, рэпартаж, нататка выкарыстоўваюцца ў публіцыстычным стылі.

У гутарковым пашыраны казка, загадка, песня, гумарэска, жарт.

Багаццем жанраў вызначаецца мастацкі стыль: раман, аповесць, апавяданне, верш...

**109.** З якой мэтай напісаны тэкст? Да якога стылю і жанру належыць? Назавіце словы, характэрныя для гэтага стылю.

## Не паверыў

Жэнька расказвае свайму сябру першакласніку Алесіку:

— Я зрабіў рагатку, выйшаў вечарам у двор і як пальнуў у неба. Хоць і не хацеў і не думаў, але пацэліў у самую ясную зорку. Яна захісталася, кавалак яе пляснуўся на зямлю, а зорка стала зусім маленькая.

Алесік выслухаў уважліва і сказаў:

— Ты страляў у зорку ўвечары, калі было зусім цёмна. Таму я ніколі не паверу, што ты ў яе ўцэліў *(«Пралеска»)*.

● Вызначце асобу, час і лік дзеясловаў. Растлумачце правапіс ***не*** з дзеясловамі.

**110.** Прачытайце загаловак тэксту. Ці можна сказаць, пра што пойдзе гаворка? Цяпер праверце сябе: прагледзьце тэкст. Якое слова часцей за іншыя сустракаецца ў ім? Чаму? Прачытайце тэкст. Да якога стылю ён належыць? Складзіце план і вусна перадайце змест.

## Жалейка

Жалейка (ражок, пішчык, дудка, чаротка) — беларускі народны музычны інструмент сям'і язычковых. У залежнасці ад мясцовай традыцыі жалейкі бываюць розных памераў і формаў. Вырабляюцца яны з чароту, жытняй саломы, дрэва, рога, гусінага пяра. Ёсць з ігравымі адтулінамі і без іх. А вось без язычка жалейкі не бывае.

Тэмбр жалейкі моцны, рэзкі, «галасьбны».

Жалейка вядома ў Беларусі з XV стагоддзя, шырока распаўсюджана. На ёй часта igралі ў спалучэнні з дудой, цымбаламі, скрыпкай, гармонікам *(«Бярозка»)*.

**111.** Прачытайце верш. Вызначце стыль тэксту. Назавіце характэрную прымету гэтага стылю, якой вызначаецца верш. Растлумачце правапіс зычных на канцы выдзеленых слоў.

Што там бялее — ранні **снег**
Ці гусі селі на **начлег?**
Праймае грудзі халадок,
Як быццам босы стаў на ток.
Плячом апёршыся на **зруб,**
Апошні ліст раняе **дуб.**
І сівер — з ярасці сляпы —
Малоціць **лёд** ва ўсе цапы.

*С. Гаўрусёў*

**112.** Прачытайце тэкст. Дайце яму загаловак, які перадаваў бы асноўную думку. Складзіце план і вусна перадайце змест тэксту.

Майская раніца. Па росным лузе шыбуюць два хлопчыкі. Гэта Яська і Цімка. У руках у іх вуды.

Недалёка ад возера сябры спыніліся перад глыбакаватай ручаінай. Праз яе, праўда, ляжыць кладка. Толькі што гэта за кладка! Дзве тоненькія жэрдачкі.

— Баюся пераходзіць, — прызнаецца Яську Цімка.

Яська паблажліва ўсміхаецца: якія баязлівыя гэтыя першакласнікі. Але нічога не гаворыць сябру. Папраўляе на плячы рукзак і хуценька, балансуючы рукамі, перабягае ручаіну.

Цімка нерашуча тупае па беражку. Потым ступае адной нагой на кладку, спалохана войкае і адступае назад.

— Баюся я!

— Ну добра, глядзі. Яшчэ раз пакажу, як трэба...

І Яська спрытна перабягае па кладцы назад.

— Не бойся! Ідзі за мной! — падбадзёрвае ён Цімку і зноў ступае на кладку.

Каля самага беражка Яська пакаўзнуўся на мокрых жардзінах і зваліўся ў ваду.

Цімка зрываецца з месца. Ён і сам не памятае, як перабягае па кладцы.

— Што з табой, Яська? Не пабіўся?

— Ды не, нагу выцяў трохі...

— Давай руку! Памагу.

На беразе Яська нейкі момант маўчыць, збірае свае рэчы. Потым узнімае стрыжаную галаву і кажа:

— Даруй, Цімка... Я думаў, ты баязлівец. А ты — смелы чалавек!

І смелы чалавек Цімка шчасліва ўсміхаецца *(Я. Каршукоў)*.

**113.** Прачытайце. Да якога жанру належыць тэкст? Якой мове ўласцівы гэты жанр (кніжнай ці вуснай)?

Дзе вы былі летам? — запыталіся неяк у Анатоля Франса.

— У Грэцыі.

— А вам не цяжка было з вашымі ведамі грэчаскай мовы?

— Мне?! Не. А вось грэкам, бадай, цяжкавата.

⊙ **114.** Спішыце, разбіваючы тэкст на абзацы і сказы. Устаўце прапушчаныя літары і знакі прыпынку.

### Дотык зімы

З вечара было ядрана дз..муў вецер захад, дзе садзілася сонца, палаў агнём раніцай ветру не было усе стрэхі лісц.. на дрэвах трава паб..лелі ад ін..ю-шэрані дрэвы стаялі ціхмяныя, нібы напружаныя з ціхім шоргатам падалі пасівелыя за ноч лісты іду лесам луг за вёскай бялюткі кожная сцяблінка нібы выраблена з танюсенькага алюмініевага дроту сп..шаліся дзеці ў школу ішлі лугам з-за рэчкі, з другой вёскі, пастаялі ўражаныя во дзівак дзядз..ка зіма пачалася а ён — у грыбы... *(П. Місько)*.



**115.** Напішыце замалёўку «Апошні дзень восені».

ДА ВЫТОКАЎ СЛОВА

***Іграць першую скрыпку.*** Выраз прыйшоў з прафесійнай мовы музыкантаў, якія першай называюць скрыпку (некалькі скрыпак), што выконвае ў аркестры галоўную партыю. Азначае ʻбыць галоўным у якой-небудзь справеʼ.

## § 12. Сказ як адзінка маўлення

**116.** Спішыце, падзяляючы тэкст на сказы. Пастаўце знакі прыпынку, устаўце прапушчаныя літары, падкрэсліце дзейнік і выказнік.

Дом а..пачынку стаіць на ўзбочыне з..лёнай гары тут мы заначавалі доўга не спалася я выйшаў удыхнуць свежага горнага паветра світала паволі пачаў накрапваць дождж неба зац..гнула светла-журботнай воблачнасцю павеяла мяккай свежасцю перамена надвор'я па..бадзёрвала. *(Паводле Янкі Брыля)*

Каб выказаць свае думкі, разважанні, пачуцці, абмяняцца ўражаннямі, падтрымаць размову з субяседнікамі, мы карыстаемся сказамі. Пісьменнік, які стварае літаратурны твор і расказвае ў ім пра падзеі, апісвае маляўнічую карціну або разважае пра што-небудзь, таксама выкарыстоўвае сказы.

**Сказ**, такім чынам, выступае ў ролі **адзінкі маўлення**. Пры гэтым выкарыстоўваюцца розныя сказы па будове і мэце выказвання.

Усе словы ў сказе звязаны паміж сабой па сэнсе і граматычна.

**117.** Прачытайце верш. Складзіце і запішыце пяць сказаў, якія павінны перадаваць:

думку: *У гэтым вершы...*
пачуццё: *Ах, які...*
пытанне: *Хто...*
просьбу: *Зачытай, калі ласка...*
параду: *Вывучы...*

**Вясёлка**

Ад ліўня вострага аж колка
Было, — не ступіш басаналж...
Ды раптам яркая вясёлка
Так цёпла ўспыхнула паўз Сож...
І пахла вабная ля сцежак квецень,
Дужэлі ногі на бягу.
І пад вясёлку мчалі дзеці, —
Як пад вясёлую дугу.
І нехта ім крычаў: — Бяжыце,
Там цёплы лівень толькі сціх!..
І васількі званілі ў жыце
Званамі сінімі для іх...

*К. Кірэенка*

● Растлумачце значэнне слова *басаналж*.

**118.** Перакладзіце словы з рускай мовы на беларускую і запішыце іх. Пры неабходнасці карыстайцеся перакладным слоўнікам.

Инженер, лужица, величина, вихрь, компьютер.

● Пастаўце націск у словах.
● З любымі словамі (на выбар) складзіце і запішыце сказы, якія перадавалі б: а) захапленне, б) расчараванне, в) просьбу або загад, г) запытанне.

**119.** Са слоў складзіце і запішыце сказы. Падкрэсліце дзейнік і выказнік.

1. Над, абрыў, каля, рака, высіцца, алешыны. 2. Страката, бялець-зелянець, бярозы, бліжэй, да, луг. 3. Да, адна, прытуліцца, пацешная, рабінка, з няспелыя, ягадкі. 4. Далей, ад, вада і бяроза, пракідвацца, красуні сосны, нават. 5. Зялёнае, воблака, узвышацца, ліпы.

● Выпішыце два словазлучэнні. Зрабіце іх пісьмовы разбор.



**120.** Прачытайце. Чаму запісаныя сказы нельга лічыць звязным тэкстам? З дадзеных сказаў складзіце тэкст і запішыце яго. Дайце загаловак, які перадаваў бы тэму выказвання.

1. І вось з самага світання пачынае ісці дробны дождж. 2. Неба зацягваецца хмарамі. 3. Так прыходзіць восень. 4. Ён лье без упынку ціхімі, тонкімі струменьчыкамі. 5. Ён круціць у паветры лёгкае сухое лісце. 6. Шчыльны парывісты вецер скідвае з дрэў залатое ўбранне.

● Звярніце ўвагу на ролю займеннікаў як сродкаў сувязі сказаў у тэксце.

## § 13. Сказы апавядальныя, пытальныя, пабуджальныя

Кожнае выказванне робіцца з пэўнай мэтай: паведаміць што-небудзь, спытаць або пабудзіць да дзеяння. Таму ўсе сказы паводле мэты выказвання падзяляюцца на **апавядальныя, пытальныя** і **пабуджальныя.**

**121.** Прачытайце. Назавіце, якія сказы перадаюць паведамленне, якія — запытанне, якія — пабуджэнне да дзеяння.

Жылі дзед з бабай. Былі яны вельмі бедныя. Вось баба і кажа дзеду:

— Вазьмі, дзеду, сякеру, паедзь у лясок, ссячы дубок, завязі на рынак, прадай і купі мукі. Спячом хлеб.

Сабраўся дзед, паехаў у лясок, пачаў секчы дубок. Выскачыў з дуба Каток — Залаты лабок, залатое вушка, срэбнае вушка, залатая шарсцінка, срэбная шарсцінка, залатая лапка, срэбная лапка.

— Дзед, дзед, што табе трэба?

— Ды вось, каточак, мой галубочак, паслала мяне баба ссекчы дубок, завезці на рынак, прадаць і купіць мукі на хлеб.

— Едзь, дзед, дахаты: будзе ў вас мука. *(З казкі «Каток — Залаты лабок»)*

**Апавядальныя сказы** — гэта такія сказы, у якіх штосьці паведамляецца. Пры вымаўленні апавядальных сказаў голас спачатку павышаецца, а пад канец сказа паніжаецца:

*На зямлю лягла ціхая летняя ноч.*

**Пытальныя сказы** — гэта сказы, у якіх аўтар пра штосьці пытаецца:

*Ці будзем афармляць вітрыну? Што вы чытаеце?*

Пытальныя сказы вымаўляюцца з павышэннем голасу на тым слове, якое паказвае, пра што пытаюцца:

*Якое сёння будзе надвор'е? Якое сёння будзе надвор'е?*

**Пабуджальныя сказы** — гэта сказы, у якіх выказваецца просьба, пажаданне, загад.

Пры вымаўленні пабуджальных сказаў голас павышаецца на словах, якія выражаюць розныя пабуджэнні:

*Купіце мне новую кнігу. Не адставайце, сябры! Няхай зойдзе ён першым.*

**122.** Прачытайце. Вызначце сказы па мэце выказвання. Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку ў канцы сказаў.

1. Суніцы спелыя збірай, пакінь на вуснах сок барвовы *(Сяргей Грахоўскі)*. 2. Сыраежкі, маслякі, вы не бачыце, які я нясу вам кошык, новенькі, харошы? *(Хведар Жычка)*. 3. Ты красуй, наш сад, красуй і шумі, зялёны! *(Язэп Пушча)*. 4. Ціха шасцелі пад ветрам прыбярэжныя лазнякі *(Т. Хадкевіч)*. 5. Нізка над зямлёй насіліся ластаўкі *(В. Хомчанка)*. 6. Над намі словы ўладараць. Мы чуем і гаворым іх. Яны то здружаць, то пасвараць сяброў і ворагаў маіх *(С. Грахоўскі)*.

● Назавіце сказы са звароткамі.

**123.** Складзіце і запішыце пытанні, каб адказамі былі наступныя сказы:

1) Так, у мяне ёсць свой камп'ютар. 2) Не, я ўключаю яго, калі зраблю ўсе ўрокі. 3) Я перапісваюся па электроннай пошце са сваім сябрам. 4) Не, ён жыве ў іншым горадзе.

У з о р. *Ці ёсць у цябе свой камп'ютар?*

**124.** Прачытайце. Якія сказы па мэце выказвання выкарыстаны ў тэксце? Дапішыце тэкст, выкарыстоўваючы пабуджальныя сказы, каб адлюстраваць просьбу пра парадак і чысціню ў салоне, захаванне сваіх рэчаў і правілаў этыкету і інш.

### У гарадскім транспарце

Паважаныя пасажыры! Праходзьце, калі ласка, у сярэдзіну салона. Не затрымлівайцеся на падножках тралейбуса. Прад'яўляйце праязныя білеты кандуктару. Своечасова аплачвайце праезд.



**125.** Прачытайце. Растлумачце ўжыванне ў тэксце сказаў, розных паводле мэты выказвання. Запішыце тры пытальныя і тры апавядальныя сказы.

А што свеціць па ўсім свеце?
А што паліць — агню няма?
А што цвіце — цвету няма?
А што плыве без разгону?

— Сонца свеціць па ўсім свеце.
Маланка паліць — агню няма.
Трава цвіце — цвету няма.
Вада плыве без разгону.
Хто ведае — не пытае! *(З часопіса).*

## § 14. Клічныя сказы

**126.** Прачытайце. Вызначце межы сказаў. Ці можна гэты ўрывак назваць тэкстам? Спішыце. Пастаўце патрэбныя знакі прыпынку ў канцы сказаў.

Чаму Андрэй кожную раніцу ўставаў на досвітку ды таму, што захапіўся баравікамі нідзе

не было іх так многа, як у гэтых баравінах ды што за баравікі а якое чыстае і звонкае паветра ў летнюю раніцу а якая радасць для грыбніка натрапіць на сям'ю чорнагаловікаў дык ці можна праспаць такія досвіткі. *(Паводле Якуба Коласа)*

Паведамленне, запытанне або пабуджэнне да дзеяння можа адначасова перадавацца з моцным пачуццём (захапленнем, заклікам, замілаванасцю, здзіўленнем, радасцю і інш.). У такім выпадку апавядальныя, пытальныя і пабуджальныя сказы па інтанацыі становяцца **клічнымі**. У канцы клічных апавядальных і пабуджальных сказаў ставіцца клічнік, у канцы клічных пытальных — пытальнік і клічнік: *Колькі ўрачыстага хараства тоіць ціхая летняя ноч!* (Тарас Хадкевіч). *Не шуміце вы, лісточкі, не шумі, дуброва!* (Уладзімір Дубоўка). *І дзе на свеце ёсць такая, як Нёман, рэчачка другая?!* (Якуб Колас).

Клічныя сказы вымаўляюцца з павышэннем тону, узнёсла, урачыста.

Няклічныя сказы вымаўляюцца спакойным тонам.

**127.** Прачытайце тэкст. У ім ёсць апавядальныя клічныя сказы, якія выражаюць розныя пачуцці, розны стан: недавер, лёгкую іронію, разгубленасць, захапленне, радасць. Вызначце, што з адзначанага перадае кожны клічны сказ, і прачытайце з адпаведнай інтанацыяй.

## Крылаты рыбак

Чайка — добры рыбак, і гэта ведаюць усе. Але чаму ўсё-такі яна заўсёды з уловам?

— Вочы зоркія, — растлумачыў мне дзядуля. — Ды ты сам паназірай.

Я так і зрабіў.

Вось яна, чайка, пакалыхваецца на хвалях. Хвіліну так пакалыхваецца, другую... Калі і была рыба, дык, вядома, знікла. Будзе яна стаяць на месцы!

Авой! А дзе ж мая чайка? Прагледзеў, як нырнула! І ўжо з рыбкай у дзюбе. Не дрэмле чайка, яна рашае, на якую глыбіню нырнуць, бясшумна потым узлятае і падае ў ваду.

— Дык вось чаму чайка заўсёды з уловам! — сказаў дзед. — Яна не толькі зоркая, але і разумная птушка. *(Паводле В. Кастручына)*

● Якімі па мэце выказвання з'яўляюцца першы і другі сказы?

⊙ **128.** Запішыце некалькі сказаў на тэму «Канікулы», каб сказы перадавалі: а) перажыванне, б) запытанне, в) просьбу, г) захапленне, д) радасць. Выкарыстоўвайце клічныя сказы.

**129.** Прачытайце тэкст.

### Які дзень?

Конік ускочыў на травінку і закрычаў:

— До-обры дзянёк!

— Дрэнны, — адгукнуўся Дажджавы чарвяк.

— Як?! На небе ні хмурынкі, сонейка грэе!

— Не! Дождждык ды каламутныя цёплыя лужыны — гэта добры дзянёк.

У гэты час Мурашка цягнула хваёвую шыпульку і спынілася адпачыць.

— Скажыце, які сёння дзень — добры ці дрэнны? — звярнуліся да яе Конік і Чарвяк.

— Я адкажу вам пасля заходу сонца.

Вечарам Мурашка паказала глыбокія хады, пракапаныя ў мурашніку, назбіраныя шыпулькі.

— Сёння цудоўны дзень! Я добра папрацавала і магу спакойна адпачыць. *(Паводле В. Асеевай)*

● Каму належыць апошняя рэпліка? Якая асноўная думка твора?

● Вызначце стыль тэксту. Прыдумайце свой загаловак.

● Назавіце клічныя сказы. Прачытайце іх з адпаведнай інтанацыяй.

● Выпішыце два дзеяслоўныя словазлучэнні, абазначце ў іх галоўнае і залежнае словы.

● Прачытайце тэкст па ролях.



**130.** Спішыце. Пастаўце адпаведныя знакі прыпынку ў канцы сказаў. Вызначце, якія гэта сказы па інтанацыі і мэце выказвання.

**Размова з жураўлём**

— Жораў шэры, журавель,
Ты з якіх ляціш зямель
— Я пакінуў край заморскі
І лячу ў свой прыдняпроўскі
— Добры жораў, раскажы,
Што ж там бачыў, як там жыў
— Бачыў розныя там дзівы,
Пальмы, тыграў, кракадзілаў
— Дзе ж ты спынішся Куды
Вабіць шлях цябе заўжды
— Шлях у родны край бацькоўскі,
Ён мілейшы, чым заморскі.

*М. Калачынскі*

## § 15. Будова сказа. Галоўныя члены сказа. Неразвітыя сказы

**131.** Спішыце. Вызначце галоўныя члены сказаў. Адкажыце, якой часцінай мовы яны выражаны.

Удзень над вёскай прашумела навальніца. Маланка стукнула ў дуб, адшчапіла галіну. І галіна павісла ўніз пышнай кронай.

Хмара хутка сплыла. Выглянула сонца, радасна пырснула промнямі. Над ракой і сінім лесам каляровай дугой устала вясёлка. *(Паводле І. Шамякіна)*

**Дзейнік** — гэта галоўны член сказа, які абазначае, пра каго або пра што гаворыцца ў сказе, і адказвае на пытанні х т о? ш т о?

(Х т о?) *Садоўнік паказаў новую аранжарэю.*

(Ш т о?) *Мелодыя ціха гучала.*

Дзейнік звычайна выражаецца назоўнікам ці займеннікам у назоўным склоне.

**Выказнік** — галоўны член сказа, які абазначае, што́ гаворыцца пра дзейнік. Ён звязаны з дзейнікам і адказвае на пытанні: Ш т о р о б і ц ь п р а д м е т? Ш т о з р а б і ў п р а д м е т? Я к і ё н? Х т о ё н т а к і? Ш т о ё н т а к о е? *Лётчык упэўнена* (ш т о з р а б і ў?) *пасадзіў самалёт. Дзень* (я к і?) *сонечны. Дзядзька Антось* (х т о т а к і? ) *майстар на ўсякія выдумкі і забаўкі. Мір* (ш т о ё н т а к о е?) — гэта і праца, і шчасце, і радасць.

Выказнік звычайна выражаецца дзеясловам, часта — назоўнікам і прыметнікам або іншымі часцінамі мовы.

Калі дзейнік і выказнік выражаюцца назоўнікамі ў назоўным склоне, то паміж імі ставіцца працяжнік: *Мой сябар — выдатнік. Мінск — прыгожы горад.*

**132.** Спішыце сказы, устаўляючы прапушчаныя літары. Падкрэсліце галоўныя члены сказа. Чым яны выражаны?

1. Сонца днём распускае там косы свае, ночкай зоры гл..дзяць залатыя *(Янка Купала)*. 2. Падуж..ў, падрос маладзенькі ясень *(У. Дубоўка)*. 3. Жнівеньскія раніцы былі росныя і свеж..я *(М. Стральцоў)*. 4. Дождж ідзе праменісты і дробны. Пахнуць мятай мокрыя лугі *(П. Панчанка)*. 5. Данька — найлепш.. мой сябар. 6. Адукацыя — скарб, праца — ключ да яе *(П. Буаст)*.

**133.** Прачытайце сказы. Назавіце галоўныя члены сказа. Вызначце, якімі часцінамі мовы яны выражаны. Растлумачце пастаноўку працяжніка.

1. Чайка — гэта паэзія мораў, рэчак, азёр *(М. Лупсякоў)*. 2. Лес — жывая вопратка зямлі, яе музыка *(І. Навуменка)*. 3. Мая Айчына — поле, нівы, над Нёманам зялёны гай, прыгожы Брэст і Мінск шумлівы, уся Беларусь ад краю ў край *(П. Броўка)*. 4. Жытні колас — аснова зямлі, васілёк — туга па блакіце* *(Р. Барадулін)*.

**134**. Прачытайце сказы. Вызначце дзейнік і выказнік. Адкажыце, якой часцінай мовы яны выражаны. Чым адрозніваюцца сказы пад лічбамі 1 і 2?

1. Выпала раса.
2. На лузе выпала халодная раса.
1. Узнялося сонца.
2. Над соннай вёскай узнялося сонца.

● Якія сказы, на вашу думку, можна назваць неразві́тымі? Чаму?

Сказы, якія складаюцца толькі з галоўных членаў, называюцца **неразвітымі**. Галоўныя члены сказа — гэта **дзейнік і выказнік**. Яны ўтвараюць граматычную аснову сказа, звязаны паміж сабой па сэнсе і граматычна. *(Чалавек ідзе. Дзьме вецер.)* У сказе можа быць толькі выказнік *(Халадае. Змяркаецца.)* або толькі дзейнік *(Ноч. Зоркі. Прыгажосць.)*

**135.** Прачытайце тэкст і дайце яму загаловак. У апошнім абзацы вызначце сказы па мэце выказвання і па інтанацыі. Растлумачце значэнні слоў *дыван, залатоўкі.*

Шуміць лес. Шамаціць пад нагамі лісце. Дзіўным веерам насыпала залатовак прыгажуня бяроза. Гараць лісцікі!

Дубы насцілаюць пад сабой карычневую пасцель. У гэту пасцель мякка паляглі жалуды. Яны адпачываюць.

Блiснуў кляновы лісток. Адкуль ён зляцеў? Ах, вунь ён, сціплы клянок, дзе прытуліўся! А колькі

красы рассыпаў навокал! Дзівосная рукой саткаў ён найпрыгажэйшы дыван*. *(Паводле І. Шамякіна)*

● Выпішыце неразвітыя сказы.

**136.** Са слоў складзіце і запішыце сказы. Падкрэсліце дзейнік і выказнік. Назавіце развітыя і неразвітыя сказы.

## У сяле раніцай

1. чаго, гэта, вясновая, Да, прыгожая, раніца! 2. паветры, У, сыра, яшчэ. 3. сонца, Узыходзіць. 4. паволі, з-за, гарызонт, Яно, паказваецца. 5. промні, Першыя, на зямлю, кладуцца, пяшчотна. 6. вывіваюцца, хат, Над стрэхі, дымкі, лёгкія. 7. цвыркаюць, Бесклапотна, птушкі. 8. слаўная, Якая, ты, вечна маладая, раніца! *(Паводле Яна Скрыгана)*

● Вызначце, якімі па інтанацыі з'яўляюцца 1-ы і 7-ы сказы.

**137.** Разгледзьце малюнкі. Выкарыстоўваючы апорныя словы і словазлучэнні, напішыце невялікае апавяданне на тэму «Незвычайны паштальён». Падкрэсліце галоўныя члены сказа, назавіце часціны мовы, якімі яны выражаны. Выкарыстоўвайце сказы, розныя па мэце выказвання.





Апорныя словы і словазлучэнні: *у адным горадзе, жылі на вуліцы Сяброў, незвычайны паштальён, хуткая дастаўка, новы самакат, паштовая сумка, газеты, паштоўкі, часопісы, шчыра дзякаваць, дзякаваць жырафе.*



**138.** Прыдумайце і запішыце сказы, у якіх першае з прапанаваных слоў было б дзейнікам, а другое — выказнікам.

Артыст, выконваць; лісток, трымцець; неба, чыстае; Полацк, горад.

- Падкрэсліце галоўныя члены сказаў.

## § 16. Даданыя члены сказа. Развітыя сказы

У сказах, апрача дзейніка і выказніка, могуць быць даданыя члены сказа. Даданыя члены сказа — гэта дапаўненне, азначэнне, акалічнасць. Так, з дапамогай **дапаўненняў** мы канкрэтызуем звесткі пра падзеі, іх удзельнікаў: *Гром* (д л я  к а г о?) *для хмараў* (ш т о?) *загады піша вогненным пяром* (Кастусь Кірэенка). *Сямёра* (к а г о?) *аднаго не чакаюць.* (Прыказка).

**Азначэнні** ўдакладняюць характарыстыку герояў, прыналежнасць і ўласцівасці прадметаў: *У* (я к і м?) *сінім небе няспешна плылі* (я к і я?) *белыя буслы* (Віктар Карамазаў). *Да* (чыйго?) *майго слыху данёсся* (я к і?) *тонкі пчаліны гул* (Іван Сіляўка).

**Акалічнасці** паказваюць на месца, час, спосаб дзеяння: (Д з е?) *Над палямі засінела чыстае неба* (Іван Мележ). (Калі?) *Раніцай падзьмуў паўднёвы вецер* (Алесь Асіпенка).

Сказ, у якім акрамя граматычнай асновы ёсць адзін або некалькі даданых членаў, называецца **развітым**.

**139.** Прачытайце неразвітыя сказы. Дапоўніце іх даданымі членамі сказа. Што змянілася ў гэтых сказах у параўнанні з неразвітымі? Зачытайце свой тэкст, параўнайце яго з вершам «Месяц» С. Шушкевіча.

Месяц вы́йшаў. Хмарка звіса́ла. Зоркі свецяць. Месяц асвяці́ў. Усё спіць. Гаспадар паглядáе. Ён будзе свяціць. Сонца спіць.

**Месяц**

З-за ўзгорка, праз платы́,
Выйшаў месяц залаты.
А над ім звісала хмарка.
Глянуў — зоркі свецяць ярка.
Месяц
Лес і поле асвяці́ў,
Усё як ёсць пазалаці́ў.

Бачыць — спіць усё наўкола —
Гарады, пасёлкі, сёлы.
Гаспадар на небе
Рад спакою, цішыні,
Паглядае з вышыні.
Будзе ён свяціць бясконца,
Покуль спіць за лесам
Сонца.

*С. Шушкевіч*

**140.** Прачытайце пачатак казкі. Прыдумайце працяг. Дайце казцы загаловак.

Вецер лятаў над зямлёю. Часам ён меў такую сілу, што вырываў дрэвы з карэннем, разбураў дамы.

— О магутны Вецер, паслужы мне, — папрасіў аднойчы Чалавек.

● Дапішыце казку, выкарыстоўваючы пры неабходнасці наступныя апорныя словазлучэнні: *жыў каля возера, прыгожая лодка, лодка пад ветразем, дзьмуў з сілай, са страшэннай сілай, хутка плыла, прычаліла да берага, падзякаваў Ветру.*

У кожным сказе падкрэсліце граматычную аснову.

● Выпішыце два словазлучэнні з галоўным словам назоўнікам і галоўным словам дзеясловам, зрабіце пісьмовы разбор.



**141.** Прачытайце. Устанавіце межы сказаў. Спішыце. Стаўце адпаведныя знакі прыпынку. Падкрэсліце ў тэксце неразвіты сказ.

Электразварку называюць склейваннем металаў электразваршчык трымае ў руках невялікі прыбор гэта пісталет у ім ёсць металічны пруцікэлектрод ім дакранаюцца да металу успыхвае вогненная дуга метал не вытрымлівае электрычнай дугі і плавіцца шоў атрымліваецца трывалы, шчыльны, роўны. *(З часопіса)*

● Якімі часцінамі мовы выражаны ў тэксце азначэнні і дапаўненні?

## § 17. Дапаўненне

**142.** Прачытайце. Выпішыце словазлучэнні, у якіх выдзеленыя словы з'яўляюцца залежнымі. Пастаўце да іх пытанні.

Дрыжыць, млее ўдалечыні лёгкая смуга. Яна ахінае далёкія **вёскі, узгоркі, палі.**

Прырода адкрывалася **танкістам** (я к?) новымі краявідамі. (Д з е?) Перад вачыма паўставалі ўсё

новыя лясы, лугі і пералескі. (Я к?) У натуральнай красе стаялі дубы. Годна трымалі свае кучаравыя **вяршыні** сосны. *(Паводле І. Мележа)*

- Якім членам сказа з'яўляюцца выдзеленыя словы?

**Дапаўненне** — даданы член сказа, які абазначае прадмет і адказвае на пытанні ўскосных склонаў (Р. (к а г о? ч а г о?), Д. (к а м у? ч а м у?), В. (к а г о? ш т о?), Т. (к і м? ч ы м?), М. (а б к і м? а б ч ы м?): *Капітан лёгка кіраваў* (ч ы м?) *караблём*. *Мы ўспаміналі* (к а г о?) *сяброў, уяўлялі іх* (ш т о?) *заклапочанасць* (Іван Шамякін).

Дапаўненні звычайна выражаюцца назоўнікамі або займеннікамі: *Зязюля* (ш т о?) *век* (к а м у?) *людзям лічыла, а сонца цешылася* (з ч а г о?) *з ніў* (Янка Купала). *Новаю радасцю поўняцца сэрцы* (у к а г о?) *у нас* (Пятро Глебка).

**143.** Спішыце. У апошнім сказе падкрэсліце дапаўненні.

Алёша адразу ўбачыў помнік, як толькі прайшоў балотца. Невялікая піраміда была пастаўлена на плоскі валун*. Тут нашымі дэсантнікамі ўтрымлівалася вышыня трое сутак. Усе загінулі. Шкада: не засталося ў памяці прозвішчаў. Як і многіх... Але мы будзем вечна ўдзячныя мужным воінам. *(Паводле В. Быкава)*

- Растлумачце значэнне слова *балотца*.

**144.** Выпішыце са сказаў словазлучэнні, у якія ўваходзяць дапаўненні. Якімі часцінамі мовы выражаны галоўнае і залежнае словы?

Восень валодае здольнасцю адмысловага мастака. Кожнай бярозцы яна запляла ў косы залатую стужку. Палахлівыя асінкі перабіраюць на ветрыку налітае чырванню лісце. А ці магла восень абмінуць рабіну, каліну? Сустрэнеш іх і спынішся: цуд дый годзе! *(Паводле Я. Пархуты)*

## ЯК ПРАВІЛЬНА СКАЗАЦЬ?

Ці заўсёды правільна мы спалучаем словы, ці заўсёды правільна мы карыстаемся словам? Напрыклад, слова *адкрыць*. Што можна адкрыць? Правільна будзе сказаць: *адкрыць новы закон, адкрыць радовішча нафты, адкрыць для сябе ісціну*. А кнігу, вочы, дзверы? Кнігу (як і часопіс, газету, сшытак) — *разгарнуць, адгарнуць*; вочы — *расплюшчыць, заплюшчыць*; дзверы, акно — *адчыніць, расчыніць, прычыніць*.



**145.** Дапішыце сказы. Падкрэсліце галоўныя члены сказа і дапаўненні.

1. (У к а г о?) назаўсёды астануцца клопаты (п р а ш т о? п р а к а г о?) ... . 2. Старшыня творча кіруе (ч ы м?) ... . 3. Бібліятэкарка прапанавала (к а м у?) ... (ш т о?) ... . 4. Гледачы захапіліся (ч ы м?) ... (п р а к а г о? п р а ш т о?) ... . 5. Дзяцел абстукаў (ш т о?) ..., агледзеў яго і скокнуў (на ш т о? к у д ы?) ... . 6. Дразды сустракалі (ш т о?) ... адмысловым (ч ы м?) ... .

# § 18. Азначэнне

**146.** Прачытайце. Назавіце члены сказа, якія адказваюць на пытанні я к і? (я к а я? я к о е?), ч ы й? (ч ы я? ч ы ё?). Што абазначаюць такія словы?

У **кожнага** грыбніка ёсць **свая** сцежка. Але на гэты раз дарога прывяла мяне ў **малады** беразнячок. **Здаровы** баравік трапіўся мне адразу і выклікаў **маю бурную** радасць.

**Азначэнне** — даданы член сказа, які абазначае прымету прадмета і адказвае на пытанні я к і? (я к а я? я к о е? я к і я?), ч ы й? (ч ы я? ч ы ё? ч ы е?).

Азначэнні звычайна выражаюцца прыметнікамі і займеннікамі: *Сябры! Я зычу вам* (я к і х?) *светлых, радасных думак*. (Я к у ю?) *Прыемную прахалоду і радасць прыносіць* (я к і?) *летні дождж* (Тарас Хадкевіч). *Усіх нас гадуюць* (ч ы е?) *матчыны казкі. Яны вучаць* (я к у ю?) *родную мову любіць* (Максім Танк).

**147.** Спішыце. Падкрэсліце галоўныя члены сказа і азначэнні. Устаўце прапушчаныя літары.

Магутны зубр смела выйшаў на п..ляну і, быццам нехаця, уткнуўся лабаст..й галавой у в..кавую сасну. **Сонца высвечвае яго цёмную калматую грыву,** што звісае над дужымі нагамі. Гаспадар пушчы! У спагадлів..м позірку яго адчуваецца спакойная ўпэўн..насць, урачыстая веліч і стыхійная сіла.

Гісторыя *(Б/б)*елавежскай *(П/п)*ушчы вучыць нас беражліва адносіцца да такой усемагутн..й і такой бездапаможн..й Зямлі. *(Паводле Я. Баравога)*

● Карыстаючыся ўмоўнымі абазначэннямі членаў сказа, пабудуйце схему выдзеленай часткі сказа.

**148.** Спішыце. Замест пытанняў падбярыце словы, якія падыходзяць па сэнсе. Падкрэсліце азначэнні і члены сказа, да якіх яны адносяцца.

Абапал дарогі стаяць (я к і я?) сосны. Трошкі далей рассеўся (я к і?) хвойнік. Дол усюды густа ўслала (я к а я?) ігліца.

Я іду і не веру вачам (ч ы і м?). Як многа павылазіла (я к і х?) маслякоў. Яны сядзяць (я к і м і?) сем'ямі, падперазаўшы (я к і я?) фартушкі. Каля хвоек заўважаю (я к у ю?) чародку. (Я к і?) год на грыбы. Хоць касою касі. *(Паводле Б. Сачанкі)*

● Растлумачце значэнне выразу *хоць касою касі*.

● Запішыце слова *фартушок*, абазначце націск, падзяліце на склады.

С л о в ы д л я д а в е д к і: *стройныя, купчасты, рыжая, свае, маладзенькія, цэлыя, вузкая, баравіковая, багаты.*

⊙ **149.** Прадоўжыце апісанне лясной палянкі, каб атрымаўся звязны тэкст. Падкрэсліце ў тэксце выкарыстаныя вамі азначэнні.

Група турыстаў спынілася на маляўнічай палянцы. Была яна невялікая. Вакол яе...



**150.** Падбярыце і запішыце прыметнікі да назоўнікаў. З двума словазлучэннямі складзіце сказы. Азначэнні падкрэсліце.

Воблакі, таварыш, выступленне, рака, парашутыст.

## § 19. Акалічнасць

**151.** Прачытайце. Назавіце дзеясловы і пастаўце пытанні ад іх да выдзеленых слоў.

**Добра вечарам** пастаяць **на развілцы** палявых дарог! Сонца **з захаду** пасылае апошнія промні **на ўсход.** Палі **спакойна** разляглiся пасля чарговага працоўнага дня. Вось **з поўдня** прыляцеў ветрык, **далікатна** пашкуматаў за чубы жыта і тут жа накіраваўся **ў** невядомую **даль.**

● Знайдзіце словы, якія надаюць нежывым прадметам рысы жывых істот. Якой часцінай мовы з'яўляюцца гэтыя словы?

**Акалічнасць** — дададзены член сказа, які абазначае месца, час, спосаб дзеяння і адказвае на пытанні д з е? к у д ы? а д к у л ь? я к? к а л і?

Акалічнасці выражаюцца назоўнікамі з прыназоўнікамі, прыслоўямі: *Замігцелі* (д з е?) *у небе зоркі* (С. Грахоўскі). *Нёман* (к а л і?) *заўсёды быстры, а* (к а л і?) *сёння і ён як быццам аціх* (Янка Брыль). (А д к у л ь?) *З-за лесу* (к у д ы?) *у бок вёскі пайзе агромністая хмара* (Я. Пархута).

**152.** Прачытайце. Спішыце першыя два абзацы, падкрэсліце галоўныя члены сказа і акалічнасці.

Ранняй вясной мы гуртам вярталіся дамоў са школы. На рацэ быў крыгаход.

Раптам на сярэдзіне ракі мы разгледзелі двух медзведзянят. Вада шумна бурліла, кідала крыгі адна на адну. На процілеглым беразе ўслед бегла мядзведзіца.

Заўважылі гэта і людзі, пачуліся жарты. Смельчакі хутка апусцілі лодку на ваду. Ці зразумеюць медзведзяняты, што іх хочуць выратаваць?

Праз некаторы час малыя падарожнікі выбраліся з лодкі і кінуліся да маці. Неўзабаве іх і след прастыў. *(Паводле В. Сід)*

● Якая тэма і асноўная думка тэксту? Прыдумайце загаловак.

● Выпішыце па два словазлучэнні з галоўнымі словамі назоўнікамі і дзеясловамі. Зрабіце іх пісьмовы разбор.

**153.** Разгледзьце малюнкі. Напішыце звязны тэкст на тэму «Хто як спявае». Пры неабходнасці выкарыстайце словы і словазлучэнні з даведкі. Абазначце акалічнасці.





С л о в ы   д л я   д а в е д к і: *жыць каля рэчкі, на ўскрайку лесу, спявай вечарам, спявай да позняй ночы, аднойчы сустрэліся, папрасіла салаўя, спяваць з натхненнем, прыгожа, звонка, пералівіста, свая песня, слухаць уважліва, слухаць з павагай.*



**154.** Пісьмова адкажыце на пытанні. Падкрэсліце акалічнасці, вусна пастаўце пытанні да іх.

1. Калі, у якім месяцы, цвіце ліпа?
2. Калі жнуць жыта?
3. Калі зацвітае верас?
4. Калі ападае лісце з дрэў?
5. Дзе жывуць, пакуль зіма, дзікія качкі, гусі?

## § 20. Сказы з аднароднымі членамі

**155.** Прачытайце. Звярніце ўвагу на знак паўзы (|) паміж словамі.

1. Устала сонца. Яно было і **над лесам,** | і **на траве,** | і **на лісці,** | і **на палянах.**

Разгледзьце схему:




● На якія пытанні адказваюць выдзеленыя словы? Якімі членамі сказа яны з'яўляюцца? Да якіх слоў у сказе адносяцца?

● Як вы лічыце, чаму выдзеленыя словы называюцца аднароднымі членамі сказа?

**Аднародныя члены** сказа адказваюць на адно і тое пытанне і адносяцца да аднаго члена сказа.

Аднародныя члены сказа вымаўляюцца з інтанацыяй пералічэння, яны не залежаць адзін ад аднаго.

Аднароднымі членамі сказа могуць быць як галоўныя, так і даданыя члены сказа:

*Летам дзеці* (ш т о  р о б я ц ь?) *чытаюць, купаюцца, загараюць.*

я к і я ?

*У парку раслі прыгожыя, стройныя бярозкі.*

**156.** Спішыце. Падкрэсліце аднародныя члены сказа. Растлумачце правапіс прапушчаных літар.

Другая палавіна жніўня. Харошая пара. А..калыхаліся, а..рыпелі на калдобінах духмяныя вазы мурагу, жыта, ячменю, лёну. Безліч казытлівага шорсткага пахучага сена пакладзена ў зацішак гумна*. На полі застаўся толькі авёс. Прыемна пахнуць гр..чка, лубін*, атава*, канюшына, бульба. Настае пара першахлебнай, бульбян..й, кропн..й, агурочнай, яблычн..й сытасці. Наступае кароткая паўза перад мудрай паэзі..й свежай раллі. *(Паводле Янкі Брыля)*

● Якімі членамі сказа з'яўляюцца аднародныя члены? Да якіх слоў яны адносяцца? Звярніце ўвагу на пастаноўку знакаў прыпынку паміж імі.

● Як вы растлумачыце вобразнае выказванне Янкі Брыля *мудрая паэзія свежай раллі*?

**157.** Закончыце пералічэнне і запішыце сказы.

1. У беларускіх лясах растуць бярозы, ... . 2. У рэках Беларусі водзяцца самы, ... . 3. На палетках краіны вырас добры ўраджай морквы, ... .



**158.** Спішыце, раскрываючы дужкі. Перад апошнім аднародным членам сказа замест коскі ўстаўляйце ***і***.

Шчодры дзедаў сад! Амаль кожны год галіны (ш т о  р а б і л і?) *(угінацца, прыпадаць да зямлі, трашчаць, нават ламацца)*.

І ў гэтым годзе на яблынях можна чакаць добрага ўраджаю (ч а г о?) *(антонаўкі, ранеты, цітаўкі)*. Восенню сад наогул дасць багата (ч а г о?) *(яблыкі, ігрушы, слівы)*.

Вакол саду растуць вербы. Зімой яны будуць аберагаць яго (а д  ч а г о?) *(вятры, завірухі, маразы)*.

## § 21. Знакі прыпынку ў сказах з аднароднымі членамі

**159.** Спішыце. Пастаўце, дзе трэба, коскі. Як вы растлумачыце іх пастаноўку?

1. З нашай бульбы можна прыгатаваць шматлікія стравы: дранікі бабку клёцкі. 2. Снег ляжаў усюды: і на вершалінах, і на прагалінах, і на ўзлессі. 3. На стале ляжалі пісьмовыя прылады: ручкі алоўкі фламастары і стрыжні.

● Дакажыце, што падкрэсленыя ў сказах словы — аднародныя члены.

● Якое слова сярод аднародных членаў сказа з'яўляецца абагульняльным?

Паміж аднароднымі членамі звычайна ставіцца коска: *За акном было сіняе, яснае, прыгожае неба.*

Калі два аднародныя члены сказа звязваюць злучнікі ***і, ды*** (у значэнні ***і***), коска не ставіцца: *Спакойнае **і** ціхае возера зачаравала падарожнікаў. Каласіцца на палетку жыта **ды** пшаніца.*

Калі злучнік ***і*** стаіць перад кожным з аднародных членаў сказа, коска паміж імі ставіцца: ***І** хлеб, **і** песня, **і** шчасце прыходзяць да чалавека пасля шчырай працы.*

Калі сярод аднародных членаў ёсць абагульняльнае слова, пасля яго (перад астатнімі аднароднымі членамі) ставіцца двукроп'е: *Хлопчык пачаў даставаць з сумкі грыбы: лісічкі, падасінавікі, сыраежкі, рыжыкі.*

**160.** Дапішыце рад аднародных членаў сказа. Вызначце абагульняльныя словы і пастаўце пасля іх адпаведныя знакі прыпынку.

1. У беларускіх лясах растуць разнастайныя ягады суніцы, ... 2. На заліўных лугах вы ўбачыце самыя прыгожыя кветкі лотаць, ... 3. У школьнай бібліятэцы мы ўзялі паэтычныя зборнікі беларускіх пісьменнікаў Якуба Коласа, ...



**161.** Прачытайце. Дакажыце, што выдзеленыя словы з'яўляюцца аднароднымі членамі сказа.

1. Песня гучала **ціха,** але **выразна.** 2. Мелодыю чулі не **адзінкі,** а **мільёны.** 3. У ветраны

дзень здаецца, што сонца толькі **свеціць,** але **не грэе.**

● Якімі злучнікамі звязаны аднародныя члены сказа? Які знак прыпынку ставіцца перад такімі злучнікамі?

Коска ставіцца перад злучнікамі ***а, але, ды*** (у значэнні ***але***), калі яны звязваюць аднародныя члены сказа: *Дзіцячыя галасы даносіліся цяпер не з рэчкі, а з бульбянога поля.* ( _ . _ , ***а*** _ . _ . _ )

*Прачытаў хутка,* ***ды*** *ўважліва.* (_ . _ . _, ***ды*** _ . _ . _ )

*Сонца толькі што ўзышло,* ***але*** *прыгравала ўжо даволі горача.* ( ═══ , ***але*** ═══ )

**162.** Спішыце. Устаўце прапушчаныя літары. Пастаўце патрэбныя знакі прыпынку.

Усё прыгожа навокал і рака і туман і трава і кветкі і раса. Раса хоць і вельмі іскрыстая але халодная. Яна не проста гарыць а ззяе пад промнямі ран..шняга сонца.

Пачынаецца раніца. І не толькі іскрамі і промнямі сонца м..довым пах..м але і перазвон..м птушыных галасоў. Яна пачынаецца белагрывымі белагрудымі беласнежнымі воблачкамі.

А вада ў рацэ як люстэрка. Гэта люстра вабн.. прыгож.. але недаўгавечн..: узнімецца сонца, і яго не стане. *(Паводле І. Грамовіча)*

● Пры дапамозе якіх слоў ствараецца вобразны малюнак воблакаў?

**163.** Прачытайце.

Летняя ціхая раніца. Ніхто не парушае цішыні. І толькі птушкі нястомныя — шчабечуць, цёхкаюць, каркаюць, кукарэкаюць зрэдку.

З-за Нёмана, з лугавога бязмежжа, на даляглядзе, — жораў! Ён так хвалююча саліраваў адтуль і ўчора.

Над самым Нёманам, у кустах, — салавей. Цмокае, лузгае, цёхкае! У гэтага натхненне, радасць. *(Паводле Янкі Брыля)*

● Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку ў сказах з аднароднымі членамі.

● З якой мэтай, на вашу думку, Янка Брыль аддзяляе працяжнікамі словы *жораў* і *салавей*?



**164.** Складзіце і запішыце сказы з наступнымі аднароднымі членамі.

1. Павольна, але акуратна. 2. Не летась, а сёлета. 3. Не аўтобусам, а поездам.

## § 22. Зваротак. Знакі прыпынку ў сказах са звароткам

**165.** Прачытайце сказы. Вызначце словы, якія называюць таго, да каго звяртаюцца ў размове. Да якой часціны мовы яны належаць? Назавіце звароткі і іх месца ў сказе (у пачатку, у сярэдзіне, у канцы). Растлумачце знакі прыпынку.

1. Іграй, музы́ка, гулка, звонка! Дзяўчына, песні нам спявай! *(Янка Купала)*. 2. Чаго сумуеш, родны брат? 3. Беларусь мая родная, як жа я рвуся яшчэ раз пеша ўсю цябе змераць! *(А. Куляшоў)*. 4. Мой мілы таварыш, мой лётчык, вазьмі ты з сабою мяне *(Янка Купала)*.

**Зваротак —** слова (ці спалучэнне слоў), што абазначае асобу ці прадмет, да якіх звяртаюцца: *Скажы, **пілот**, чаго шукаеш?* (С. Грахоўскі). *Паплыў бы, **хмаркі**, разам з вамі!* (П. Броўка). Зваротак заўсёды вымаўляецца з асобай інтанацыяй, выдзяляецца паўзамі.

**166.** Прачытайце. Знайдзіце звароткі.

I. Мой родны Мінск,
Пад небам жураўліным
Жыві, квітней пад зоркай залатой.
*П. Панчанка*

II. Друг мой юны, таварыш,
Тут мы ўсе ўзраслі,
Хіба лепей ёсць мары,
Чым аб нашай зямлі?
*П. Броўка*

III. Мова,
Пявучая родная мова,
Ты — уладарка нявызнаных скарбаў,
Столькі значэнняў,
гучанняў і фарбаў
Мае ў сабе тваё кожнае слова.
*А. Зарыцкі*

IV. — Ты, першае слова, адкуль?
— Ад матчынай песні жытнёвай.
*В. Аколава*

Зваротак не з'яўляецца членам сказа.

Звароткі выдзяляюцца коскамі:

- у пачатку сказа: ***Мой дружа,*** *пакланіся вечнаму, нязгаснаму агню* (П. Броўка);
- у сярэдзіне: *Давайце,* ***добрыя сябры,*** *пагутарым пра шчасце* (П. Глебка);
- у канцы: *Зор вам не злічыць,* ***астраномы*** (А. Куляшоў).

Калі зваротак стаіць у пачатку сказа і вымаўляецца з клічнай інтанацыяй, пасля яго ставіцца клічнік: ***Родны край мой!*** *Ты заўсёды ў маім сэрцы* (Т. Хадкевіч).

**167.** Прачытайце ўрыўкі з казак. Выпішыце сказы са звароткам, пастаўце, дзе трэба, знакі прыпынку.

I. Змарыўся Янка, прысеў на пні і застагнаў сам сабе:

— Ох, ох!

І толькі ён так сказаў — выскачыў з-пад пня дзядок з доўгаю барадою.

— Чаго ты мяне клікаў дзяцюк?

Паглядзеў Янка спалохана на дзядка і кажа:

— Не дзедка не клікаў я цябе *(«Ох і залатая табакерка»)*.

II. Мінуў тыдзень. Выйшаў Іван у чыстае поле. Свіснуў-крыкнуў — прыбягаюць да яго ўсе трое коней.

— Што скажаш нам гаспадар?

— Коні мае добрыя коні мае лю́быя чутка пайшла, што ў царскай сталіцы дзіва дзіўнае творыцца. Ці не маглі б вы мяне туды завезці?

Выйшаў буланы конь і кажа:

— Можна. Лезь мне Іван у правае вуха, праз левае вылезь *(«Бацькаў дар»)*.

## Пяшчотныя словы

! Ёсць у беларускай мове словы, адметныя па сваім значэнні і ўжыванні: *браце, дружа, голубе, сыне, сынку, куме, чалавеча, хлопча, дзеду* і падобныя пяшчотныя словы. Па граматычных адзнаках — гэта клічная форма. У старажытнасці з яе дапамогай выражаўся зварот да асоб у клічнай форме, што надавала ўсяму выказванню адценне асаблівай павагі, шчырасці, урачыстасці.

У сучаснай беларускай мове (напрыклад, у мове мастацкіх твораў або народных казак, у вуснай мове) клічная форма назоўнікаў ужываецца ў ролі зваротка ў. Называючы таго, да каго звяртаюцца з мовай (брата, друга, сына, кума, чалавека), яны яшчэ ўносяць дадатковае значэнне пяшчоты, любасці, прыязнасці або ўзвышанасці: *Зайграй, зайграй,* ***хлопча малы****, і ў скрыпачку, і ў цымбалы* (Паўлюк Багрым). *Не бойся,* ***дружа****, бур і цішыні* (Максім Лужанін).



**168.** Спішыце, расстаўце прапушчаныя знакі прыпынку, падкрэсліце звароткі, назавіце спосаб іх выражэння.

1. — А дзе ж голубе след гэтай дзічы? — запытаў дзед Талаш *(Якуб Колас)*. 2. Бачыш княжа загоны, лясы, сенажаць, — ім пакорны я толькі з гуслямі, сілен княжа караць, галаву сілен зняць, — не скуеш толькі дум ланцугамі *(Янка Купала)*. 3. Ты ляці ляці саколе здабываць Радзіме волю *(К. Буйло)*. 4. На хараство Радзімы дружа падзівіся і абнімі Радзіму мужнаю рукой *(Я. Пушча)*.

## Разбор простага сказа

П а р а д а к   р а з б о р у

1. Від сказа па мэце выказвання.
2. Від сказа па інтанацыі.
3. Граматычная аснова сказа.
4. Развіты ці неразвіты сказ.
5. Даданыя члены сказа (калі ёсць).
6. Аднародныя члены сказа (калі ёсць).
7. Зваротак (калі ёсць).

У з о р   р а з б о р у

*За высокімі гарамі начавала аблачынка залатая.*

***Вусны разбор***

Гэта сказ апавядальны, няклічны, граматычная аснова *аблачынка* (дзейнік) *начавала* (выказнік). Сказ развіты, бо ёсць даданыя члены: *аблачынка* (я к а я?) *залатая* — азначэнне. *Начавала* (д з е?) *за гарамі* — акалічнасць. *За гарамі* (я к і м і?) *высокімі* — азначэнне.

***Пісьмовы разбор***

*За высокімі гарамі начавала аблачынка залатая.*

**169.** Прачытайце. Зрабіце вусны разбор сказаў у першай групе (I) і пісьмовы — у другой (II).

I. 1. Шуміць дуброва. 2. Паглядзі ты на шырокі Нёман. 3. Прыемна пахне збожжа!

II. 1. Лагодна шуршыць асенняя трава. 2. Я ганаруся табою, мой народ! 3. Мы не едзем, а плывём. 4. Ты прыходзь да нас, лета.

## § 23. Складаны сказ

**170.** Прачытайце. Выдзеліце ў сказах граматычныя асновы. Чым адрозніваюцца сказы пад лічбамі 1 і 2? пад лічбамі 3 і 4?

1. Вецер прынёс свінцовую хмару. 2. Апусцілася яна ніжэй, і пасыпаліся з яе бялюткія сняжынкі.

3. На суботніку наш клас садзіў дрэўцы. 4. Мы заўважылі, што дрэўцы хараша прыняліся.

### АДКАЖЫЦЕ НА ПЫТАННІ

1. Колькі граматычных асноў у простым сказе?
2. Колькі граматычных асноў у складаным сказе? З дапамогай якіх злучнікаў звязаны часткі ў складаным сказе?
3. Якія з прыведзеных сказаў простыя, а якія — складаныя?

Сказ, у якім ёсць некалькі частак, называецца **складаным.** У сказе столькі частак, колькі граматычных асноў. Часткі ў складаным сказе звязаны сэнсам, граматычна і інтанацыйна:

1. *Дзяўчаты падрыхтавалі касцюмы,* ***а*** *хлопцы зрабілі дэкарацыі.*

[______ ______], *а* [______ ______].

2. *Раса была халодная,* ***але*** *мы яе не адчувалі.*

[______ ______], *але* [______ ______].

3. *У дарогу мы выбраліся позна,* ***калі*** *замігцелі зоры.*

[______ ______], *калі* (______ ______).

4. *Хлебароб усміхнецца,* ***таму што*** *зямля ўрадзіла.*

[______ ______], *таму што* (______ ______).

5. *Хлебароб усміхнецца* ***таму, што*** *зямля ўрадзіла.*

[______ ______] *таму, што* (______ ______).

6. *Сумленныя людзі хочуць,* ***каб*** *на Зямлі быў мір.*

[______ ______], *каб* (______ ______).

7. *Скончылася лета, зноў ажылі школьныя класы.*

[______ ______], [______ ______].

## АДКАЖЫЦЕ НА ПЫТАННІ

1. Звярніце ўвагу на пабудову схем. Чым адрозніваюцца паміж сабой 4-ы і 5-ы сказы?

2. Як злучаюцца часткі ў 7-м сказе? Чаму сувязь тут называецца бяззлучнікавай?

**171.** Прачытайце. Вызначце граматычныя асновы ў кожным сказе. Назавіце злучнікі, з дапамогай якіх звязваюцца часткі ў складаным сказе. Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку. Пабудуйце схемы складаных сказаў.

1. У акне мільганулі постаці. Загучалі галасы, і на парозе з'явіліся разведчыкі. 2. З празрыстай

дымкі выступаў малады бярэзнік, а за ім узвышаўся загадкавы бор. У гэты бор мы і накіроўваліся. 3. Людзі ўважліва слухалі спявачку. Спявала яна звычайна, але апладзіравалі слухачы шчыра і дружна.

**172.** Утварыце складаныя сказы, аб'ядноўваючы часткі па сэнсе і граматычна. Запішыце сказы. Пастаўце патрэбныя знакі прыпынку. Пабудуйце схемы.

| | |
|---|---|
| 1. Косця падышоў да таварышаў | але нічога не сказаў.<br>таму што настаўніца прасіла перадаць яе просьбу. |
| 2. Антон абяцаў сябрам адразу прыйсці на стадыён | але спазніўся.<br>але настаўнік папрасіў яго затрымацца ў спартзале. |

● Назавіце граматычныя асновы ў сказах.



**173.** Прадоўжыце сказы так, каб яны сталі складанымі. Пастаўце патрэбныя знакі прыпынку. Падкрэсліце граматычныя асновы — дзейнікі і выказнікі.

1. На станцыю прыбыў цягнік і... . 2. Ляснік нам расказаў што... . 3. Ноччу прайшоў невялікі дождж але... . 4. Асабліва я люблю вясну калі... .

**174.** Прачытайце. Выпішыце складаныя сказы. Устаўце прапушчаныя літары. Пастаўце патрэбныя знакі прыпынку. Падкрэсліце ў іх граматычныя асновы.

Тыгр зноў дагнаў мяне. Яго паводзіны напаміналі пал..ванне таму што ён станавіўся больш

рашучы. Магчыма, толькі мой маналог* стрымліваў яго нападзенне.

Схіл быў круты. Я разумеў што апынуся ніж..й за тыгра. Звер атрымае ідэальную пазіцыю для скачка. Выйсця не было і я шмыгануў уніз. Тыгр тут жа скокнуў на тое месца на якім я толькі што стаяў.

Стала зусім цёмна. У паводзінах тыгра паявіліся непрыемныя перамены але яны мяне не вывелі з раўнавагі. Тыгр стаў затойвацца, прыпадаў да зямлі, і нават лажыўся, заціхаў. Я зразумеў што тыгр хоч.. мяне перахітрыць.

Усё-такі я выраш..ў прабівацца на дарогу якая была за ракой.

Хутка паказаўся снегаход і я з лё..кім с..рцам сеў у цёплую кабіну. *(Паводле В. Каркішкі)*

- На якую тэму тэкст? Дайце загаловак тэксту.
- Растлумачце значэнні слоў *маналог, ідэальны*.
- Растлумачце значэнне фразеалагізма *з лёгкім сэрцам*.

**175.** Зрабіце вусны (I) і пісьмовы (II) разборы складаных сказаў.

I. 1. Заквітнелі сады, і зарунела жыта ў палях. 2. Світанне яшчэ не наступіла, але разведчыкі выйшлі ў дарогу. 3. Міколка не пачуў, што сказаў яму бацька.

II. 1. Да станцыі было тры вярсты, але Сцёпка пайшоў пехатою. 2. Нёман гамоніць, і коцяцца грозныя хвалі. 3. Хлопцы ведалі, што дзядзька Антось змайструе ім любую цацку.

## Разбор складанага сказа

Парадак разбору

1. Назваць часткі ў складаным сказе.
2. Вызначыць граматычныя асновы кожнай часткі.
3. Пры дапамозе чаго звязаны часткі сказа?
4. Растлумачыць знакі прыпынку.

Узор разбору

*Калыхнулася пад ветрам дрэва, і пасыпалася жоўтае лісце.*

### *Вусны разбор*

У складаным сказе дзве часткі. У першай частцы граматычная аснова *калыхнулася дрэва*, у другой — *пасыпалася лісце*. Часткі звязаны злучнікам ***і***, а таксама з дапамогай інтанацыі. Часткі аддзяляюцца коскай.

### *Пісьмовы разбор*

*Калыхнулася пад ветрам дрэва, і пасыпалася жоўтае лісце.*

**176.** Складзіце сказы па схемах.

1. [ ______ ══════ ], *а* [ ______ ══════ ].
2. [ ______ ══════ ], *але* [ ______ ══════ ].
3. [ ______ ══════ ], *што* ( ______ ══════ ).
4. [ ______ ══════ ], *таму што* ( ______ ══════ ).



**177.** З наступных простых сказаў пабудуйце складаныя, выкарыстоўваючы злучнікі ***і, але, таму што, якую.*** Зрабіце іх пісьмовы разбор. Устаўце прапушчаныя літары.

1. Яшчэ не ўзышло сонца. (Аднекуль з выш..ні лілася птуш..ная песня.) 2. Удзень прайшоў дружны дож.. . (Мы добра прамоклі.) 3. Артысты старанна рэпеціравалі п'есу. (Хутка адбу..ецца паказ спектакля.) 4. Паштальён дастаў з сумкі паштоўку. (Яе мы чакалі з нецярплівасцю.)

## § 24. Простая мова. Знакі прыпынку ў сказах з простай мовай

**178.** Прачытайце. Каму належаць выдзеленыя словы? Хто іх аўтар? У якім сказе аўтарская мова перададзена без змен?

Аднойчы дзядуля сказаў: **«Заўтра паляцім, унучак, у Маскву».**

Аднойчы дзядуля сказаў унучку, **што заўтра яны паляцяць у Маскву.**

**Простая мова** — гэта словы пэўнай асобы (чалавека, у казках — звяроў, казачных істот), якія перадаюцца без змянення, дакладна.

Простую мову суправаджаюць с л о в ы а ў т а р а. У іх называецца асоба, якой належыць выказванне:

*Пятрусь Броўка пісаў: «Багата, родная ты мова».*

Словы аўтара — А :

Простая мова — «П».

**179.** Прачытайце ўзятыя з беларускіх народных казак сказы з простай мовай. Назавіце простую мову і словы аўтара.

1. Пабегла ліса да рэчкі і кажа збану: «Пусці, бо ўтаплю!»
2. Пытаецца воўк: «Куды, кума, едзеш?»
3. Удовін сын і кажа Цуду-Юду: «Цары-каралі ваюють і то перадых маюць, давай і мы зробім».

● Каму належыць выказванне? Якія знакі прыпынку ставяцца, каб выдзеліць простую мову? Які знак прыпынку ставіцца пасля слоў аўтара?

● Якія знакі прыпынку стаяць у канцы простай мовы? Растлумачце іх. З якой інтанацыяй трэба чытаць гэтыя сказы?

Простая мова бярэцца ў двукоссе, першае слова яе пішацца з вялікай літары.

Пасля слоў аўтара перад простай мовай ставіцца двукроп'е:

*Бацька кажа: «Хай зойдзе да мяне першы сын».*

А : «П».

Пасля простай мовы перад словамі аўтара ў залежнасці ад інтанацыі ставіцца коска, пытальнік або клічнік і працяжнік, словы аўтара пішуць з малой літары:

*«Гэй, хто тут гаспадар?» — пытаецца ліса.*

«П?» — а.

*«Я», — кажа пеўнік.*

«П», — а.

*«Пусці мяне ў хату!» — просіцца яна.*

«П!» — а.

**180.** Выпішыце спачатку сказы з простай мовай пасля слоў аўтара, потым — сказы з простай мовай перад словамі аўтара. Правільна афармляйце простую мову.

1. Гэтыя людзі шчаслівыя, таму што ўмеюць усміхацца, — сказаў чараўнік. *(Паводле Г. Васілеўскай)* 2. Праз хвіліну вайсковец звярнуўся да Алёшкі: Чаму сядзіш адзін? 3. Я дзяжурны, а школа пайшла маршала сустракаць, — адказаў хлопчык. 4. А вы хто? — не стрымаўся Алёшка. 5. А я, брат, маршал і ёсць, — адказаў вайсковец *(І. Навуменка)*.

● У якім сказе ўжыты зваротак?



Калі простая мова стаіць перад словамі аўтара, то коска выносіцца за двукоссе, а пытальнік і клічнік пакідаюцца ў двукоссі.

**181.** Выпішыце і правільна аформіце сказы з простай мовай. Пастаўце, дзе трэба, знакі прыпынку.

Прыйшоў дзед дахаты, расказаў бабе, якую плату атрымаў ад пана. Пабедавала баба і кажа дзеду Схадзі ты, стары, пашукай таго добрага жураўля: ці не дасць ён табе другую такую торбачку?

Пайшоў дзед на поле. Сеў у просе. Раптам бачыць — ляціць журавель. Дзед да яго Так і так, братка журавель: адабраў пан тваю цудоўную торбачку. Ці не даў бы ты яшчэ адну такую? Падумаў журавель і кажа Лепш дам табе рог. Схадзі з гэтым рогам да пана і скажы: «З рога ўсяго многа»... *(Казка «З рога ўсяго многа»)*

● Раскажыце, як закончылася казка.

**182.** Дапішыце сказы. Пастаўце патрэбныя знакі прыпынку. Пабудуйце схемы сказаў.

1. Незнаёмец, папрасіўшы прабачэння, спытаў у нас: ...
2. Дыктар тэлебачання паведаміў: ...
3. ... — аб'явіў настаўнік фізкультуры.



**183.** Складзіце сказы па схемах.

1. А : «П». 2. А : «П?» 3. «П!» — а.

## § 25. Дыялог. Знакі прыпынку пры дыялогу

**184.** Прачытайце. Колькі асоб (чалавек) удзельнічае ў размове?

Толькі празвінеў званок на другі ўрок і ў клас увайшла Вольга Мікалаеўна, як на парозе з'явіўся незнаёмы вучань. Гэта быў Косця Шышкін.

— Добры дзень! — сказаў ён.
— Добры дзень, — адказала Вольга Мікалаеўна.
— Ці тут пяты клас?
— Тут. Што скажаш?
— Нічога. Я прыйшоў вучыцца.
— Ты навічок?
— Навічок.
— А чаму ж ты прыйшоў так позна?
— На першы ўрок я папаў... у шосты клас.
— Як гэта?
— Прыйшоў у школу, чую — званок, усе пабеглі ў клас. Ну, і я за імі.

Прайшоў урок, а потым высветлілася, што гэта шосты клас.

— Што ж, сядай. Толькі ў наступны раз не забяжы ў дзесяты клас.

Так Косця Шышкін правучыўся адзін урок і ў шостым класе. *(Паводле М. Носава)*

● Каму належаць словы *«Ці тут пяты клас?»*.

● Якія рэплікі (***рэпліка*** — словы адной асобы) належаць Косцю, а якія — настаўніцы?

● Які знак прыпынку ставіцца перад кожнай рэплікай? З якога радка і з якой літары пачынаецца кожная рэпліка?

● Якія знакі прыпынку ставяцца пасля рэплік, калі далей ідуць словы аўтара?

**Дыялог** — размова дзвюх (ці болей) асоб.

Кожная рэпліка ў дыялогу запісваецца з чырвонага радка. Перад рэплікай ставіцца працяжнік.

**185.** Прачытайце. Колькі асоб удзельнічае ў дыялогу? Адкажыце, каму належыць кожная рэпліка. Прачытайце па ролях. Звярніце ўвагу на афармленне кожнай рэплікі.

## З жыцця Францішка Багушэвіча

Выехалі на шлях. З ясеняў і ліп сыпалася лісце. Фурман злавіў адзін такі ліст, паказваючы двум сваім седакам, сказаў:

— Прыгожа памірае дрэва.

— Яно не памірае, а засынае на зіму, — паправіў фурмана Масальскі.

— Памірае. Яно кожны год памірае і вясной нараджаецца. А за смерць сваю лісцем, нібы залатымі рублямі, расплачваецца.

— Містыка*, — сказаў Масальскі.

— Залатымі рублямі расплачваецца за смерць сваю, — паўтарыў Францішак Багушэвіч — другі сядак у вазку. Дакрануўшыся да пляча фурмана, ён дадаў:

— Дзякуй Вам.

— І Вам дзякуй, — заківаў галавой фурман. Ясеневы ліст ён схаваў у кішэню. *(Паводле В. Хомчанкі)*

● Растлумачце значэнне слоў *містыка, сядак*. Як трэба разумець у тэксце значэнне выразу *залатыя рублі*?

**186.** Спішыце. Вызначце рэплікі. Каму яны належаць? Правільна аформіце дыялог, стаўце патрэбныя знакі прыпынку. Назавіце сказы, якімі дыялог перарываецца.

Званок. Адчыняю. На лесвічнай пляцоўцы чатыры дзяўчынкі.

Добры дзень!

Добры дзень адказваю ім.

Ці не заходзіла да вас кошачка

Не

На гэтым не хочацца закончыць размову, і я пытаюся:

А як жа яе завуць

Маркіза

Пошукі, зразумела, будуць працягвацца да дзевятага паверха, а потым, можа, і ў іншых пад'ездах. Трэба дапамагчы.

Калі Маркіза зойдзе да нас, дык я скажу, што вы яе шукаеце

Дзякуем Вам. Да пабачэння. *(Паводле Янкі Брыля)*

● Вусна перакажыце размову, якая адбылася паміж дзяўчынкамі і пісьменнікам.

**187.** Перакладзіце на беларускую мову і запішыце. Падкрэсліце зваротки.

### Лиса и журавль

Лиса с журавлём подружились.

— Приходи, куманёк! Приходи, дорогой! Уж как я тебя угощу!

Наварила лиса манной каши да по тарелке размазала. Подала.

— Покушай, мой голубчик. Сама стряпала.

Журавль стучал-стучал носом, ничего съесть не смог... *(Русская народная сказка)*

● Раскажыце, чым закончылася казка.



**188.** Запішыце тэкст у форме дыялога.

1. Вы добра ведаеце пароды птушак? — спытаў наведвальнік. 2. А як жа! — адказаў экскурсавод. 3. Скажыце, калі ласка, якая з гэтых птушак чыж і якая шчыгол? 4. А вось тая, што сядзіць побач з чыжом, і ёсць шчыгол.

## § 26. Падрабязны пераказ тэкстаў з простай мовай



Пры падрабязным пераказе тэкст перадаецца
- блізка да зместу;
- з захаваннем паслядоўнасці дзеяння або падзей, асноўнай думкі, выказванняў герояў (рэплік).

**189.** Прачытайце. Вызначце стыль і тып тэксту. Якая асноўная думка тэксту? Які загаловак можна падабраць да тэксту? Падрыхтуйцеся да вуснага падрабязнага пераказу паводле прапанаванага плана.

У той летні дзень мы, дзеці, памагалі дарослым. Падносілі цвікі, падавалі пілку ці дошкі.

— Гляньце, зірніце на катка. Як ён гуляе! — сказаў брат, каб усе чулі.

Тата коратка адказаў:

— У яго, Ментузка, толькі й занятку: мыш злавіць, паспаць ды пагуляць.

І калі брат зноў стаў прасіць паглядзець, мы ўбачылі, што Ментузок не гуляе.

— Вужака. Чорны! — сказаў брат.

Як толькі вужака паспрабуе варухнуцца — кот цаляе па галаве лапай. І так датуль, пакуль вужака не перастаў варушыцца.

Тата паклікаў:

— Каток... Ментузок, каточак.

Не зводзячы вачэй з вужакі, Мянтуз, знясілены доўгім змаганнем, падняўся, слабым голасам сказаў сваё «мяў» і марудна зрушыўся з месца.

Не вуж быў — гадзюка. А кот не гуляў — ён біў і біў яе пругкаю лапай па галаве, каб не прапусціць у свой двор. *(Паводле Ф. Янкоўскага)*

Прыкладны план:

1. У той летні дзень.
2. «Гляньце, Ментузок гуляе!»
3. «Вужака. Чорны!»
4. Змаганне.
5. Перамога Ментузка.
6. Адвага Ментузка.

● Карыстаючыся апорнымі словамі і словазлучэннямі вусна перакажыце тэкст. Паспрабуйце дакладна перадаць выказванні дзейных асоб.

С л о в ы д л я д а в е д к і: *у летні дзень, дапамагалі дарослым, гляньце на катка, вужака, цаляе па галаве, ца-*

*ляе лапай, перастаў варушыцца, сказаў «мяў», марудна зрушыўся, зрушыўся з месца, гадзюка, не прапусціць у двор, у свой двор.*

**190.** Прачытайце тэкст.

Шмат паданняў ходзіць пра ўмельства паэта Паўлюка Багрыма. Неяк мясцовы памешчык выклікаў Багрыма і сказаў:

— Прывёз я з-за мяжы сцізорык*. Ювелірная работа! Толькі далёка табе, мужыку, да сапраўдных майстроў.

Паўлюк паглядзеў сцізорык і сказаў:

— Хваліцца не буду, але няхай пан дасць на які тыдзень гэты сцізорык.

Праз тыдзень каваль моўчкі паклаў два аднолькавыя нажы-складанчыкі перад панам.

— Няхай пан пазна́е свой і забярэ!

Памешчык і так тыя нажы круціў, і гэтак. Нарэшце адважыўся:

— Гэты!

— Пан памыляецца. Няхай пан яго раскрые.

На сцізорыку дробнымі літарамі было выгравіравана: «Зрабіў П. Багрым». *(Паводле Я. Пархуты)*

● Растлумачце значэнні слоў *сцізорык, ювелірная работа, выгравіравана, гравіроўка.*

● Сфармулюйце асноўную думку апавядання.

● Дайце тэксту загаловак, каб ён раскрываў асноўную думку або тэму.

● Вызначце тып і стыль тэксту.

● Складзіце план апавядання.

● Выпішыце апорныя словы і словазлучэнні, каб яны адпавядалі кожнаму пункту плана.

● Карыстаючыся апорнымі словамі і словазлучэннямі, напішыце пераказ.

## Кантрольныя пытанні і заданні

1. Што такое словазлучэнне? Як вызначаюцца галоўнае і залежнае словы?
2. Ці можна назваць дзейнік і выказнік словазлучэннем?
3. Якія бываюць сказы па мэце выказвання?
4. Якія сказы называюцца клічнымі?
5. Што такое граматычная аснова сказа?
6. Назавіце галоўныя і даданыя члены сказа.
7. Што такое дзейнік? выказнік? дапаўненне? азначэнне? акалічнасць?
8. Чым адрозніваюцца неразвітыя сказы ад развітых?
9. Якія члены сказа называюцца аднароднымі?
10. Што такое зваротак?
11. Якія сказы называюцца складанымі? Чым яны адрозніваюцца ад простых?
12. Што такое простая мова?
13. Што такое дыялог? рэпліка?

**191.** Са слоў утварыце словазлучэнні і запішыце іх. Падбірайце, калі трэба, адпаведныя прыназоўнікі.

Крочыць — зямля; стаяць — хата, сцежка, варта, бераг, рака; звярнуцца — прамова, людзі, просьба, дапамога.

● Зрабіце пісьмовы разбор 2 словазлучэнняў.
● Назавіце галоўнае і залежнае словы ў кожным словазлучэнні.

**192.** Дапішыце сказы, каб яны сталі развітыя. Назавіце даданыя члены сказа ў іх.

1. Падарожнік спыніўся. 2. Зацвіў сад. 3. Навальніца прагрымела. 4. Паказаўся месяц. 5. Сонца ўзышло.

**193.** Запішыце сказы з простай мовай, правільна афармляючы іх і ставячы патрэбныя знакі прыпынку. Пабудуйце схемы сказаў.

1. Калі мы павезлі капітана дахаты, ён папрасіў Вы таварышы пачакайце мяне *(Янка Брыль)*. 2. Пайшлі браце хутчэй, а то акуні без нас занудзіліся казаў дзед унуку, папраўляючы на плячы вуду *(У. Ляўдanскі)*. 3. Крыху асвоіўшыся, мы асмялелі, і Санька спытаў А ты хто. 4. А ніхто прынясіце лепш хлеба і паглядзіце, ці ёсць немцы ў вёсцы сказаў хлопец *(І. Сяркоў)*.

**194.** Прачытайце. Дайце загаловак тэксту.

У гэтую ноч не спявалі дразды. Не выйшла на кармленне і знаёмая пара зайцоў. Пушча затаілася.

Яркія маланкі паласнулі чорнае неба, і праз якую хвіліну над пушчай забушавала навальніца. Дождж хвастаў па лісці, па купінах, па траве. Страляў, як з гарматы, гром. Усё жывое сцішылася, затаілася.

Але во дзе цуд! Паміж раскатамі грому пачуўся пошчак салаўя. Ах ты, смелы Спявак Пяюнавіч! Мацнеў дождж, гучна ляскаў пярун, але больш натхнёна спяваў салавей. Дык ён яшчэ і смелая птушка! *(Паводле Ф. Рэўзіна)*

- Знайдзіце ў тэксце і запішыце словы-сінонімы.
- Выпішыце з тэксту два дзеяслоўныя і два назоўнікавыя словазлучэнні. Зрабіце іх пісьмовы разбор.
- Назавіце развіты і неразвіты сказы.
- Выпішыце складаны сказ, зрабіце яго пісьмовы разбор.
- Назавіце сказы з аднароднымі членамі.
- Назавіце простыя сказы, ахарактарызуйце іх па мэце выказвання і інтанацыі.

# ФАНЕТЫКА І АРФАЭПІЯ. ГРАФІКА І АРФАГРАФІЯ

## § 27. Гукі мовы

**195.** Прачытайце ўважліва тэкст. Скажыце, чым адметныя гукі мовы і для чаго яны служаць.

Мы жывём у свеце гукаў. Ты прачынаешся раніцай і чуеш ціканне будзільніка, бульканне каструлі на пліце, пыхканне чайніка... Выходзіш з хаты — і да цябе даходзяць іншыя гукі: рып калодзежнага жураўля, гудкі аўтамашын, спевы птушак, шум ветру... Усё гэта гукі. Але вось да твайго вуха даляцеў голас з вуліцы: «Міхась, пакліч, калі ласка, бацьку».

З усёй разнастайнасці гукаў ты ўлавіў тыя, што перадалі табе просьбу. Ты пачуў словы. Але словы складаюцца з гукаў мовы, аб'яднаных у пэўным парадку. Значыць, **гукі мовы — гэта такія гукі, з якіх складаюцца словы.** Гэтым гукі мовы адрозніваюцца ад усіх іншых гукаў.

**Гукі мовы — найменшыя адзінкі**, якія не маюць самастойнага значэння. Але з іх дапамогай адно слова можна ператварыць у другое: сом — сон — сын — сум. Як бачым, словы *сом* і *сон* адрозніваюцца гукамі [м] і [н], словы *сом* і *сум* — гукамі [о] і [у], словы *сон* і *сын* — гукамі [о] і [ы]. З гэтых прыкладаў вынікае, што гукі мовы дапамагаюць адрозніваць адно слова ад другога.

Ты можаш запытаць: «Колькі ж патрэбна гукаў мовы, каб скласці сотні тысяч слоў?» Аказваецца, усяго 45 гукаў: 6 галосных і 39 зычных.

Раздзел навукі аб мове, у якім вывучаюцца гукі мовы, называецца **фанетыкай.**

З фанетыкай самым цесным чынам звязана **арфаэпія** — раздзел навукі аб мове, у якім вывучаюцца правілы вымаўлення гукаў і іх спалучэнняў.

**196.** Прачытайце пары слоў. Вымавіце гукі, якія дапамагаюць адрозніваць словы кожнай пары.

батон — бутон
кветка — клетка
ліпа — ліра
рэчка — ручка
сяджу — саджу
мора — мара

Для абазначэння гукаў мовы карыстаюцца квадратнымі дужкамі, напрыклад: [а], [б], [в]. Гэта дае магчымасць адрозніваць гукі ад літар, якія ў дужкі не бяруцца. Значок [ ′ ] абазначае мяккасць зычнага гука.

**197.** Вымавіце словы, якія абазначаюць намаляваныя прадметы.








- Назавіце гукі, з якіх утворана кожнае слова.
- Якімі гукамі адрозніваюцца гэтыя словы?

⊙ Сфармулюйце вывад, якую ролю ў мове выконваюць гукі?

⊙ **198.** Дапоўніце рад такімі словамі, якія, калі чытаць іх злева направа, маюць адно значэнне, а калі справа налева — другое значэнне.

Лава, ...

⊙ **199.** Зрабіце гукавы запіс наступных слоў. Дадайце да кожнага з іх адзін гук, каб атрымалася іншае слова.

У з о р: *клас* — [*клас*], [*колас*].

Абарона, вусы, кран, лава, рукі, сто.

**200.** Прачытайце выразна верш і растлумачце сэнс загалоўка.

**Мацярынскі наказ**

Якою далёкай ні будзе дарога,
Якім бы шырокім ні здаўся прасцяг*, —
Вяртайся сюды, да святога парога;
Адсюль твой пачатак і тут твой працяг.

*Л. Якубовіч*

⊙ Скажыце, якія радкі ў гэтым вершы «перагукваюцца» паміж сабой. Назавіце гукі, якімі адрозніваюцца сугучныя словы.



**201.** Прачытайце тэкст. Вызначце яго асноўную думку. Якімі словамі з тэксту яе можна выразіць?

Чалавек павінен падарожнічаць, ведаць тую зямлю, на якой нарадзіўся, яе легенды*, **мову**, яе дарогі. І ты абавязкова адчуеш гэта на нейкім годзе свайго жыцця. І ты выберашся ў **дарогу**, каб усвядоміць, чый ты сын і глянуць, якая вялікая зямля твая. Зямля, дзе ёсць **прастор** і кіламетрам, і думкам, і тваёй душы. Табе ўсё жыццё

будзе нешта карцець, нечага не ставаць, калі ты не ўбачыў яе. Перш чым чужыя краі — хай у **сэрцы** тваім будзе **Бацькаўшчына** *(А. Клышка, Я. Сіпакоў)*.

● Запішыце, з якіх гукаў утвораны выдзеленыя словы.

У з о р: *сын* — [с], [ы], [н].

## § 28. Літара як знак гука

**202.** Прачытайце верш самі сабе і скажыце, чаму ён так названы. Для чага служаць літары?

### Літары

Літары жывуць у згодзе,
Дружбакі яны заўжды.
Іх заменіш — і выходзяць
Словы новыя тады.

Ніна. Зіна. Піяніна.
Кніга. Крыга. Сад. Парад.
Імяніны. Апельсіны.
Косы. Росы. Радасць. Град.

Што яны па адзіноце?
Хоць бы ўзяць ці «н», ці «с».
У яднанні, у ахвоце
Набываюць думкі сэнс.

*П. Прануза*

**Літары** — гэта графічныя знакі, якія служаць для абазначэння на пісьме гукаў мовы.

**203.** Разгледзьце табліцу і скажыце, якія суадносіны могуць быць паміж гукамі і літарамі. Ці заўсёды напісанне слоў адпавядае іх вымаўленню?

| Кожны гук абазначаецца «сваёй» літарай | Розныя гукі абазначаюцца адной літарай | Адзін гук можа абазначацца рознымі літарамі |
|---|---|---|
| [м] [о] [р] [а]<br>м о р а | замок [з]<br>казка [с] → з<br>зжаваць [ж] | гры**п**<br>гры**б** → [п] |

Напісанне слоў не заўсёды адпавядае іх вымаўленню.

Суадносіны паміж гукамі і літарамі вывучае **графіка**, а правілы напісання слоў — **арфаграфія.**

Графіка і арфаграфія — асобныя раздзелы навукі аб мове.

**204.** Прачытайце запісы і скажыце, якія з іх гукавыя. Назавіце гукі кожнага слова.

мароз [марос] лёс [л′ос]
юнак [й′унак] рысь [рыс′]

**205.** Прачытайце. Вызначце, якія гукі могуць быць абазначаны на пісьме літарамі ***б, г, д, с***.

Багаты, голуб, белы, трубка; гара, луг, гімназія, лёгкі; добры, загадка, дружны; сяло, касьба.

**206.** Прачытайце шэптам словы, працяжна вымаўляючы галосныя гукі. Зрабіце гукавы запіс слоў.

Ёлка, мароз, неба, сняжок, хмара.

⊙ Складзіце і запішыце некалькі сказаў з гэтымі словамі, каб атрымаўся тэкст.



**207.** Вызначце, якія словы вымаўляюцца так. Якое слова можна запісаць па-рознаму? Запішыце словы.

[в′эс′ці], [групка], [каска], [с′эрп]

## § 29. Прызначэнне літар *е, ё, ю, я, і*

**208.** Выразна прачытайце словы, працяжна вымаўляючы склады.

[м′э] медуніца
[л′о] лётаць
[з′і] зімародак
[л′у] люцікі
[м′а] мядок

АДКАЖЫЦЕ НА ПЫТАННІ

1. Якія галосныя гукі абазначаюцца літарамі *е, ё, ю, я, і* ў гэтых словах?
2. Якімі літарамі абазначаецца мяккасць зычных?
3. Якую ролю выконваюць літары *е, ё, ю, я, і* ў становішчы пасля зычных?

Літары *е, ё, ю, я, і* выконваюць на пісьме двайную ролю.
Пасля зычных яны абазначаюць адзін галосны гук [э], [о], [у], [а], [і] і мяккасць папярэдняга зычнага.

**209.** Прачытайце асобна словы, у якіх літары *е, ё, ю, я, і* стаяць: 1) у пачатку слоў; 2) пасля галосных; 3) пасля *ў*; 4) пасля раздзяляльнага мяккага знака; 5) пасля апострафа.

[й′э] ежа, баец, шчаўе, лье, з’ехаў
[й′о] ёлка, прыём, салаўём, мільён, куп’ё

[й′у] юны, думаю, салаўю, палью, вераб'ю
[й′а] явар, мая, салаўя, мільярд, з'ява
[й′і] за імі, краіна, салаўі, Ільін, Мар'іна

⊙ Сфармулюйце вывад, якая літара і ў якіх выпадках абазначае спалучэнне зычнага гука [й′] з галоснымі [э], [о], [у], [а], [і].

У пачатку слова, пасля галосных, ***ў*** (у нескладовага), раздзяляльнага мяккага знака і апострафа літары ***е, ё, ю, я, і*** абазначаюць два гукі, г. зн. спалучэнні зычнага гука [й′] з галоснымі: [й′э], [й′о], [й′у], [й′а], [й′і].

**210.** Прачытайце. Назавіце літары і вызначце, якія гукі яны абазначаюць.

У з о р. *Маё — літара «эм» абазначае гук* [м], *літара «а» абазначае гук* [а], *літара «ё» абазначае гукі* [й′о].

Акіян, месяц, пільны, плён, спяваюць.

● Растлумачце значэнне слоў *пільны* і *плён*. Складзіце з імі сказы (вусна).

● Вымавіце першыя два словы так, як яны вымаўляюцца ў вашай мясцовасці. Ці адрозніваецца мясцовае вымаўленне гэтых слоў ад літаратурнага?

**211.** Прачытайце і вызначце асноўную думку тэксту.

Талент і праца. Яны з'яднаныя непарыўна, іх нельга разлучыць. Толькі разам яны могуць даць сапраўдны плён, бо адно без аднаго — бездапаможныя. Калі талент не падмацоўваецца працаю, ён драбнее, мізарнее і ўрэшце ператвараецца ў самы звычайны нуль *(Я. Сіпакоў)*.

● Выпішыце словы, у якіх літары ***е, ё, ю, я*** абазначаюць 2 гукі [й′э], [й′о], [й′у], [й′а].

**212.** Прачытайце. Назавіце гукі, якія абазначаны літарамі ***е, ё, ю, я***.

## У ясны дзень

Яснасць сонца, лёгкі ветрык,
    У паветры звон,
Пах ад жыта, пах ад кветак, —
    Дзіўна ўсё, як сон.

Каля нас пяшчотна*, ціха
    Шэпчуць каласы,
А над намі льюцца срэбрам
    Птушак галасы.

*Янка Журба*

● У залежнасці ад чаго гукі [а], [о], [у], [э] абазначаюцца літарамі ***а, о, у, э*** або літарамі ***я, ё, ю, е***? Прывядзіце прыклады з верша.

● Назавіце ўсе гукі і літары ў слове *збіраем* і скажыце, чаму ў ім колькасць гукаў і літар не супадае.

● Назавіце граматычныя асновы ў апошнім сказе.



**213.** Запішыце словы, у якіх літары ***е, ё, ю, я*** абазначаюць два гукі.

1. Хто без навукі, той як бязрукі. 2. Салаўя песнямі не накорміш. 3. Шануй людзей, то і цябе пашануюць. 4. Кожны сам сваёй долі каваль. 5. Хто арэ ды сее, той малоціць і вее. 6. Той патрыёт, хто змагаецца за народ. 7. У вераб'я свая сям'я. 8. Той не памыляецца, хто ад працы хіляецца. 9. Бацькоў любі, старых паважай, здароўе беражы, Айчыне верна служы.

● Як вы разумееце сэнс 4-га і 5-га сказаў?

**214.** Прачытайце. Вымавіце гукі ў выдзеленых словах і назавіце літары, якімі гэтыя гукі абазначаны на пісьме.

### Ліпка

Іх прывезлі з далёкага лесу. Сваё ўбранне дрэўцы пакінулі там, дзе нарадзіліся. І цяпер без лісця яны ляжалі перад нашым домам.

Вечарам людзі **прыйшлі** з работы і пачалі выбіраць лепшыя: большыя, раўнейшыя, купчастыя. Кожнаму хацелася **пасадзіць** перад сваім акном прыгажэйшае дрэўца.

Засталася адна танклявая ліпка з трошкі выгнутым ствалом. І ніхто не хацеў яе браць. Што сказала б **яна**, каб магла гаварыць? *(А. Пальчэўскі)*.

● Чаму ў гэтым тэксце тры абзацы?

● Як вы думаеце, што сказала б ліпка, каб магла гаварыць? Запішыце яе словы.

## § 30. Беларускі алфавіт. Назвы літар

**215.** Выразна прачытайце, а затым запішыце.

Калі ты хочаш родны край
Любіць любоўю сына, —
Наперад толькі ты ступай,
З табой твая Айчына.

*А. Бялевіч*




**АДКАЖЫЦЕ НА ПЫТАННІ**

1. Для чаго служаць літары?
2. Што такое алфавіт?
3. Якое значэнне мае алфавіт у жыцці чалавека?

У далёкія старажытныя часы людзі карысталіся толькі вуснай мовай. Свае думкі яны выказвалі з дапамогай слоў. Словы складаліся з гукаў і адрозніваліся адно ад другога гукамі.

Пазней людзі сталі абазначаць гукі рознымі пісьмовымі знакамі і паступова навучыліся перадаваць свае думкі пісьмовай мовай з дапамогай літар.

**216.** Вызначце, якія памылкі дапусціў вучань пры выкананні індывідуальнага задання. Запішыце правільна назвы літар і гукаў.

1. У слове *ліставад* 8 літар: «эль», «і», «эс», «ты», «а», «пэ», «а», «ды».
2. У слове *снежань* 6 гукаў: [эс], [н], [э], [ж], [а], [нь].

***Алфавіт і назвы літар***

| | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| А | Б | В | Г | Д | Е | Ё | Ж | З | І | Й | К | Л |
| а | бэ | вэ | гэ | дэ | е | ё | жэ | зэ | і | і нескладовае | ка | эл |
| М | Н | О | П | Р | С | Т | У | Ў | Ф | Х | Ц | Ч |
| эм | эн | о | пэ | эр | эс | тэ | у | ў нескладовае | эф | ха | цэ | чэ |
| Ш | Ы | Ь | Э | Ю | Я | | | | | | | |
| ша | ы | мяккі знак | э | ю | я | | | | | | | |

Усе літары, размешчаныя ў пэўнай паслядоўнасці, складаюць **алфавіт**, ці азбуку.

У беларускім алфавіце 32 літары: 10 — для абазначэння галосных гукаў і 21 — для абазначэння зычных. Літара ***ь*** (мяккі знак) гука не абазначае.

Гукі [дж], [дз] абазначаюцца на пісьме спалучэннямі літар (***д*** і ***ж***, ***д*** і ***з***): *ура****дж****ай,* ***дз****ень.*

Апостраф (') літарай не з'яўляецца.

## АДКАЖЫЦЕ НА ПЫТАННІ

1. Назавіце спачатку літары, якімі абазначаюцца галосныя гукі, а потым — літары, якімі абазначаюцца зычныя гукі.
2. Якая літара не абазначае гука?
3. Вывучыце алфавіт на памяць і прачытайце яго, правільна называючы літары.

**217.** Назавіце літары, якімі абазначаны зычныя гукі ў прыведзеных словах.

У з о р. *У слове* ***час*** *літара «чэ» абазначае гук* [ч], *літара «с» — гук* [с].

Маліна, край, неба, сівы.

● Складзіце з гэтымі словамі сказы і запішыце іх. Падкрэсліце літары, якімі абазначаны цвёрдыя зычныя гукі.

**218.** Прачытайце словы і скажыце, ці адпавядае напісанне вымаўленню гэтых слоў. Спішыце словы і абазначце гукі.

У з о р: *малацьба* — [м], [а], [л], [а], [дз′], [б], [а].

Айчына, мір, касіць, касьба, лыжы, лыжка.

**219.** Прачытайце словы. Запішыце іх у алфавітным парадку: спачатку з гукамі [дж], [дз], а потым — з гукамі [д] і [ж], [д] і [з].

Дажджы, ураджайны, дзірван, надзяліць, гляджу, **подзвіг**, падземны, аджаць, **адзвінець,** падзяка, адзнака, падзагаловак, джэм.

● У выдзеленых словах падкрэсліце літары, якія абазначаюць мяккія гукі.



**220.** Спішыце. Зрабіце гукавы запіс выдзеленых слоў.

У з о р: *ясень* — [й′ас′эн′].

Перачытваю свае спартыўныя сшыткі. Успамінаю штодзённыя трэніроўкі, успамінаю самаадданага Паўла Васільевіча. Ён **адкрыў** для мяне не толькі спорт. Ён адкрыў мне вялікі **свет**, навучыў думаць, працаваць, верыць у сябе, перамагаць. Ад яго я ўпершыню пачула **дзіўныя** словы: «Духоўны свет чалавека — гэта імкненне да гармоніі ў самім сабе» *(Н. Тулупава)*.

## § 31. Склад і націск

**221.** Прачытайце ўголас (павольна) вершаваныя радкі. Запішыце, падзяляючы словы на часткі ў адпаведнасці з паўзамі пры іх вымаўленні.

Зіма. Снягі. Мароз. Завеі.
Дарога звонкая, як сталь,
Бярозы ў шэрані* сівеюць,
Палі бялеюць, як паркаль.
*П. Глебка*

● Як вымаўляюцца часткі слоў: плаўна ці асобнымі штуршкамі паветра?

У працэсе маўлення паветра выдыхаецца асобнымі штуршкамі.

Адзін або некалькі гукаў, якія вымаўляюцца адным штуршком паветра, утвараюць **склад**: *а-э-ра-дром, шко-ла, са-да-вод*.

У склад абавязкова ўваходзіць галосны гук, таму ў слове столькі складоў, колькі галосных гукаў: *дом, вё-ска, а-га-род, шэ-ра-во-кі*.

**222.** Прачытайце выразна тэкст, а пасля запішыце, падзяляючы словы на склады.

Мы — тройчы дзеці ў вечным крузе:
Мы дзеці роднае сям'і,
І дзеці Маці-Беларусі,
І дзеці Матухны-Зямлі.

*Н. Гілевіч*

● Растлумачце сэнс вершаваных радкоў.

**223.** Запішыце як мага больш слоў з прыведзенымі першымі складамі (па варыянтах).

а, ся, тра; і, за, сла; у, ры, пра

⊙ Падбярыце і запішыце такія словы, склады якіх можна памяняць месцамі, каб атрымалася іншае слова, напрыклад: *скала — ласка*.

У з о р: *ска-ла — ла-ска*.

**224.** Прачытайце тэкст выразна. Скажыце, ці з аднолькавай сілай голасу і працягласцю вымаўляецца кожны склад у словах.

Клён да сіняй шыбы туліць
Залатую галаву.

Маці, добрая матуля,
Думкай аб табе жыву. *І. Калеснік*

● Спішыце, падзяляючы словы на склады. Падкрэсліце тыя склады ў словах, якія вымаўляюцца з большай сілай голасу і працягласцю.

Вымаўленне аднаго са складоў слова з большай сілай голасу і працягласцю называецца **націскам.** Галосны гук, на які падае націск, і склад з гэтым галосным гукам называюцца **націскнымі.** Астатнія галосныя гукі ў слове і склады з імі — **ненаціскныя.**

**225.** Прачытайце радкі з верша П. Панчанкі «Аснова» і вызначце іх асноўную думку. Назавіце націскныя склады. Скажыце, на якім складзе ад пачатку слова можа быць націск.

Каб стаць чалавекам
У час наш суровы,
Помні жыцця асновы:
Гавары, як вучыла маці,
Рабі, як вучыў бацька,
Жыві, як добрыя людзі,
Усё, на што здольны,
Зрабі для Радзімы.

**226.** Спішыце, пастаўце націск у словах. Першы склад перад націскам абазначце лічбай 1, другі — лічбай 2 і г. д. Растлумачце напісанне выдзеленых літар.

У з о р: *сінявóчка* (2 над «ня», 1 над «вó»).

Л**я**снік, л**е**снічоўка, н**я**ясны, н**е**спадзявана, пас**ё**лак, пас**я**лковы, распіл**о**ўка, распіл**а**ваць.

● Са словам *пасёлак* складзіце просты развіты сказ, запішыце яго і падкрэсліце члены сказа.

**227.** Спішыце і пастаўце націск на першым складзе. Праз працяжнік запішыце словы з тых жа самых гукаў, але з націскам на другім складзе. Што дапамагае правільна разумець значэнне такіх слоў?

Каса — ..., памяць — ..., парыць — ..., сталы — ... .

● Складзіце з гэтымі словамі словазлучэнні, запішыце іх і абазначце галоўнае слова.



**228.** Спішыце, падзяляючы словы на склады. Пастаўце націск у словах.

Адзінаццаць, артыкул, беларусы, дагавор, дакумент, камбайнер, квартал, кіламетр, крапіва, малы, некаторы, стары, таварышы.

● З трыма словамі (на выбар) складзіце і запішыце простыя сказы. Падкрэсліце дзейнік і выказнік.

## § 32. Правілы пераносу слоў

**229.** Прачытайце. Як вы разумееце сэнс гэтых радкоў? Запішыце, выдзеленыя словы, падзяляючы іх для пераносу.

**Ступайце** цвёрда **па зямлі,**
мацуйце мір, **сяброўства,** згоду,
ды помніце,
адкуль **прыйшлі,**
з якой зямлі,
з якога роду,
хто вас расціў,
хто гадаваў
і хто паставіў вас на ногі.

*Хв. Жычка*

**230.** Прачытайце тэкст і дайце яму загаловак.

З аднаго радка на другі словы пераносяцца па складах: *да-рога, даро-га, ра-ён, па-мяць.* Але падзелы слова на склады і для пераносу не заўсёды супадаюць. Таму пры пераносе слоў трэба кіравацца наступнымі правіламі:

1) калі ў сярэдзіне слова паміж галоснымі ёсць спалучэнне зычных, то пераносіцца на наступны радок або ўсё гэтае спалучэнне, або любая яго частка. Можна пераносіць: *ся-стра, сяс-тра, сяст-ра; пту-шка, птуш-ка; ра-скрыць, рас-крыць, раск-рыць; кало-ссе, калос-се; па-абапал, паа-бапал*;

2) адна літара не пераносіцца і не пакідаецца (хоць яна і ўтварае склад): *аса-лода, ар-мія*;

3) не раздзяляюцца пры пераносе спалучэнні літар ***дж*** і ***дз***, калі яны абазначаюць адзін гук [дж], [дз]: *дагле-джаны, ра-дзіма.* Спалучэнні ***дж*** і ***дз*** можна раздзяляць пры пераносе, калі ***д*** адносіцца да прыстаўкі, а ***ж, з*** — да кораня: *пад-жарыць, ад-звінец*;

4) не аддзяляюцца ад папярэдняга складу літары ***й, ў, ь*** і ***апостраф***: *чай-нік, бавоў-на, міль-ён, аб'-язджаць*;

5) у складаных словах кожная іх частка пераносіцца згодна з правіламі пераносу асобных слоў: *се-наўборка, сена-ўборка; сенаўбор-ка; сенаўбо-рка.*

● Перакажыце першы пункт тэксту.

● Праверце, ці адпавядае ваш падзел слоў на склады (практ. 229) гэтым правілам.

● Прывядзіце свае прыклады на кожны пункт правілаў і запішыце іх.

**231.** Прачытайце тэкст і скажыце, да каго звернуты гэтыя словы і што яны сцвярджаюць, у чым пераконваюць.

**Вялікія паэты назаўсёды застаюцца** з народам. Яны зліваюцца з ім, каб увесь час быць побач і з яго радасцю, і з яго горам. Яны — вечныя. Такі і Янка Купала, чалавек, што сярод нямногіх дастойных атрымаў з рук свайго народа неўміручасць.

Шчаслівы народ, які мае такога паэта. Шчаслівы і паэт, які мае такі народ *(Я. Сіпакоў)*.

● Назавіце сродкі сувязі паміж сказамі ў гэтым тэксце.

● Запішыце выдзеленыя словы, падзяляючы: 1) на склады; 2) для пераносу. Ці супадае падзел слоў на склады і для пераносу?

**232.** Прачытайце. Адкажыце на пытанне адным сказам: пра што гэты тэкст? Выдзеленыя словы вусна падзяліце для пераносу. Што вы ўлічвалі пры іх падзеле? Чаму нельга пераносіць словы *яго, усе, сваe*?

Першы верш Янка Купала напісаў у 1902 годзе і **прысвяціў** яго **імянінам сястры** Леакадзіі. Пазней ён пачаў больш пісаць на розныя тэмы. Цудоўная беларуская прырода, жыццё простых **людзей**, іх песні і казкі натхнялі маладога Купалу, будзілі жаданне **ўзяцца** за пяро, **паспрабаваць** выразіць свае пачуцці ў вершах. *(Паводле К. Камейшы, М. Мятліцкага)*

**233.** Складзіце і запішыце дыялог па сітуацыі: вы хочаце больш даведацца пра жыццё Янкі Купалы і прыйшлі ў бібліятэку. Пра што вы будзеце гаварыць? Якія пытанні вы будзеце задаваць бібліятэкару і што ён можа адказаць на іх?

**234.** Прачытайце тэкст. Скажыце, чаму ў ім чатыры абзацы. Складзіце просты план і напішыце пераказ.

## Жаваранак

Аднойчы ў поўдзень я стаяў на ўзгорку і глядзеў у неба. У залатым паднябессі, паважна махаючы крыламі, ляцеў каршун. Ён лунаў высока-высока і нібы глядзеў на мяне.

Вось ад самай зямлі з песняй пачаў узнімацца жаваранак. Срэбны званочак падымаў сваю песню вышэй і вышэй. А каршун застыў на месцы. Я затаіў дыханне і глядзеў.

Раптам каршун кінуўся ўніз. Я страціў жаваранка з вачэй. А драпежнік, як маланка, рассёк паветра, кінуўся ўбок, яшчэ ўбок, потым прыпаў да зямлі. Я аслупянеў. Каршун ляцеў на мяне. І тут я заўважыў, як спераду ў яго ляціць, кідаецца ў бакі шэры камячок. Я аж уздрыгнуў, калі ён, як куля, шмыгнуў мне пад крысо.

Так хутка, смела і даверліва знайшла сабе птушка схованку! *(Паводле І. Грамовіча)*



**235.** Прачытайце. Як вы разумееце словы пісьменніка пра беларускае слова. Спішыце, падзяляючы словы першых двух сказаў для пераносу.

Кожны народ мае хаця б адзін **геніяльны** твор. І гэты твор — мова. Беларускае слова стала маім спадарожнікам на абсягах жыцця і **спазнання.** Яно выбрала мяне, я выбраў яго. І я ведаю, што яно здольна ісці да самых далёкіх рубяжоў сусвету. Здольна пранікаць у самую сарцавіну з'яў і адкрываць **самыя** патаемныя скарбы рэчаіснасці *(А. Разанаў)*.

## § 33. Паняцце пра тыпы тэкстаў

**236.** Прачытайце тэксты. Скажыце, змест якога тэксту складаюць пэўныя падзеі, якога — пэўныя прыметы прадмета, а якога — думка і яе доказ, разважанне.

1. Аднойчы Марыя і Стась прынеслі дамоў маладую галку. Так у доме Дзмітрыя Апанасавіча з'явіўся новы жыхар з дзявочым імем Галюня.

Дзеці забаўляліся з птушкай. Яны пускалі яе лятаць. І Галюня апраўдвала давер'е: далей суседняга дома не адлучалася.

Але вось Марыя са Стасем пайшлі ў школу. Увачавідкі птушка засумавала. Цэлымі днямі яе не відаць на падворку.

Затое якая вялікая радасць, калі вяртаюцца сябры. Галка адгукаецца на сваё імя. Садзіцца на плячо Марыі ці Стася, есць з рук *(«Звязда»)*.

2. Самая маленькая птушка Беларусі — жоўтагаловы каралёк. Апярэнне ў яго на спіне шаравата-зялёнае, брушка светла-шэрае. На крылах па дзве белыя палоскі. На галаве жоўта-аранжавы чубок. Аседлая і вандроўная птушка *(П. Сабіна)*.



3. Шмат на Беларусі ёсць вёсак з крыху загадкавай назвай — Рудня. А чаму менавіта Рудня? Што хаваецца за гэтай назвай? Мо пайшла яна ад слова «руда»? Здарылася ж так каля Рэчыцы: зусім побач з вёскай Гарывада знайшлі нафту. І хто ведае, можа, калісьці нашы продкі бачылі тут гэтую самую «гаручую ваду» і вёску сваю назвалі так *(М. Шыманскі)*.

У залежнасці ад зместу выказвання вызначаюцца розныя тыпы тэкстаў: апавяданне, апісанне і разважанне.

**Апавяданне** — гэта такі тып тэксту, у якім расказваецца пра якія-небудзь падзеі, дзеянні, учынкі, здарэнні. Да яго можна паставіць пытанне я к  г э т а  б ы л о?

**Апісанне —** гэта тып тэксту, у якім пералічваюцца прыметы ці ўласцівасці якога-небудзь прадмета або з'явы. Да яго можна паставіць пытанне я к і  п р а д м е т,  з' я в а?

**Разважанне** — гэта тып тэксту, у якім выказваецца пэўная думка і даецца яе доказ ці тлумачэнне. Да яго можна паставіць пытанне ч а м у?

**237.** Прачытайце тэкст. Вызначце яго асноўную думку, каму ён адрасуецца і з якой мэтай. Да якога тыпу тэкстаў ён адносіцца?

Хто любіць і шануе красу зямлі, той абавязкова бывае і шчырым яе абаронцам.

Чалавеку, які ўлюбёны ў свой край, дорага ўсё. Дораг свіст тоненькай травінкі пад схаваным між купін птушыным гняздом. Дораг ласіны след на заснежанай лясной палянцы. Дораг усплёск рыбіны па вадзе сцішанага возера. Кожная такая нават нязначная дэталь прыроды нагадвае яму аб вялікім, дарагім, непаўторным, што завецца роднай зямлёй.

І трэба берагчы красу зямлі, бо без яе не будзе Радзімы, не будзе чалавека. *(Паводле К. Кірэенкі)*

● Вызначце будову (кампазіцыйныя часткі) тэксту: выказаная думка, абгрунтаванне (доказ) гэтай думкі, вывад.

**238.** Падрыхтуйце вуснае сачыненне тыпу разважання на тэму «За што я люблю Радзіму».

**239.** Прачытайце. Скажыце, да якога тыпу адносіцца гэты тэкст. Чаму ў тэксце тры абзацы?



Лясная куніца — прыгожы, цёмна-палевай афарбоўкі, звярок. У яе стройнае і гібкае цела, доўгі і пушысты хвост. Велічынёй куніца з буйную кошку.

Куніца жыве ў старых лясах, дзе многа буралому і дуплістых дрэў. Корміцца ў асноўным дробнымі грызунамі, зайцамі, птушкамі. Улетку ласуецца ягадамі і насякомымі.

Куніца — рухавы звярок. Яна імгненна пераскоквае з дрэва на дрэва, добра перамяшчаецца і па зямлі. Свае логавы наладжвае ў дуплах *(«Родная прырода»)*.



**240.** Разгледзьце ўважліва малюнак вавёркі і складзіце пра яе тэкст тыпу апісання (у якасці ўзору выкарыстайце тэкст练 практ. 239).

# Тлумачальны слоўнік

**Аксіёма,** -ы, *ж.* Палажэнне, якое не патрабуе доказу, прымаецца без доказу.

**Антыпо́д**, -а, *м.* Чалавек, процілеглы каму-небудзь па перакананнях, густах, уласцівасцях.

**Ата́ва,** -ы, *ж.* Трава, якая вырасла на месцы скошанай у той жа год.

**Атракцыён,** -а, *м.* Прыстасаванне для забавы ў парках (карусель, гушкалка і інш.).

**Бальша́к**, -а, *м.* Шырокая грунтавая дарога.

**Ба́рва,** -ы, *ж.* Густа-чырвоны колер.

**Барво́вы,** -ая, -ае. Густа-чырвоны, пурпуровы.

**Блакі́т,** -у, -це. 1. Светла-сіні колер. 2. Чыстае, яснае неба.

**Буршты́н,** -у, *м.* Скамянелая жоўтая смала хвойных дрэў, з якой робяць упрыгожанні.

**Валу́н**, -а, *м.* Вялікі акруглы камень — абломак скалы, некалі прынесены ледніком.

**Варыя́цыі,** -ый, *мн.* (*адз.* варыяцыя, -і, *ж.*). Музычны твор, што ўяўляе сабой варыянты і распрацоўкі асноўнай тэмы ў розных відазмяненнях. *Варыяцыі на народныя тэмы.*

**Ве́шка**, -і, *ж.* Шост, тычка, звычайна з пучком травы або галінак на канцы для абазначэння мяжы, напрамку, руху.

**Віхо́р,** віхру, *м.* 1. Імклівая кругавая плынь ветру. 2. *перан.* Пра імклівае, бурнае праяўленне чаго-небудзь.

**Гарэ́злівы,** -ая, -ае. Вясёлы, жвавы, непаседлівы.

**Гравіро́ўка**, -і, *ж.* 1. Выразаць узоры, надпісы на якім-небудзь цвёрдым прадмеце, матэрыяле. 2. Рысунак або надпіс, выразаны на чым-небудзь.

**Гумно́**, -а, -е, *н.* Будыніна для абмалоту і складвання збожжа.

**Дзірва́н,** -у, *м.* Зямля, густа зараслая травой.

**Дзю́ны,** дзюн, *мн.* (*адз.* дзюна, -ы, *ж.*). Узбярэжныя пясчаныя пагоркі, нанесеныя ветрам.

**До́йлідства,** -а, *н.* Архітэктура, майстэрства будаўніцтва.

**Дыва́н,** -а, *м.* Выраб з варсістай узорыстай тканіны для пакрыцця падлогі, упрыгожвання сцен.

**Дыяме́нт,** -а, *м.* Алмаз (спецыяльна агранены), брыльянт.

**Дэлега́т**, -а, *м.* Выбраны або прызначаны прадстаўнік якой-небудзь арганізацыі, установы, калектыву на сход, з'езд і пад.

**Жо́рны,** -наў, *мн.* Ручны млын з двух гладка абчасаных камянёў, пры дапамозе якіх пераціраецца зерне на муку.

**Журба́,** -ы́, *ж.* Смутак, сум, туга.

**Засло́н,** -а, *м.* Хатняя пераносная лаўка.

**Ідэа́л,** -а і -у, *м.* 1. Вышэйшая мэта, да якой імкнуцца людзі. 2. -у. Дасканалы, найлепшы ўзор чаго-небудзь. 3. -а. Той, хто з'яўляецца ўзорам для каго-небудзь.

**Іхтыёлаг,** -а, *м.* Спецыяліст, які вывучае рыб.

**Імправіза́цыя,** -і, *ж.* Стварэнне чаго-небудзь без папярэдняй падрыхтоўкі, у час выканання, на хаду.

**Канані́чны,** -ая, -ае. Які адпавядае правілу або сукупнасці правіл якога-небудзь напрамку ў мастацтве.

**Канферансье́,** *нескл., м.* Артыст, які аб'яўляе нумары праграмы на эстрадным прадстаўленні, канцэрце і займае гледачоў у перапынках паміж нумарамі.

**Касіне́р,** -а, *м. Уст.* Сяляне-апалчэнцы, узброеныя косамі.

**Кіберне́тыка,** -і, *ж.* Навука пра агульныя заканамернасці кіравання і сувязі ў машынах і жывых арганізмах.

**Леге́нда,** -ы, *ж.* Народнае паданне пра якую-небудзь гістарычную падзею, асобу, якое выдаецца як верагоднае.

**Лог,** -у, *м.* Нізкае месца сярод спадзістых (не крутых) схілаў; лагчына.

**Лу́бін,** -у, *м.* Травяністая расліна сямейства бабовых, якая высяваецца на корм жывёле.

**Лю́тня,** -і, *ж.* Струнны шчыпковы музычны інструмент.

**Манало́г,** -а, *м.* Мова адной дзеючай асобы ў п'есе, звернутая да гледача, або размова чалавека з самім сабой.

**Меліяра́цыя,** -і, *ж.* Мерапрыемствы па асушэнні ці арашэнні забалочаных зямель.

**Мірыя́ды**, -яд, *мн.* Незлічона вялікая колькасць.

**Мі́стыка,** -і, *ж.* 1. Вера ў існаванне надпрыродных, таямнічых сіл. 2. *перан.* Нешта загадкавае, чаго нельга растлумачыць.

**Му́сіць,** мушу, мусіш. 1. Падлягаць прымусу, быць прыняволеным да чаго-небудзь, не маючы магчымасці зрабіць інакш. 2. Быць абавязаным зрабіць што-небудзь.

**Но́сьбіт,** -а, *м.* Той, хто надзелены чым-небудзь, можа лічыцца прадстаўніком чаго-небудзь. *Народная інтэлігенцыя — носьбіт нацыянальнай культуры.*

**Павільён,** -а, *м.* 1. Невялікі лёгкі будынак у парках, садах. 2. Будынак для экспанатаў на выстаўцы.

**Паве́р'е**, -я, *н.* Паданне, заснаванае на забабонах.

**Панара́ма**, -ы, *ж.* 1. Від мясцовасці з вышыні. 2. Вялікіх памераў карціна з аб'ёмнымі прадметамі на першым плане, змешчаная ўнутры круглага будынка з верхнім асвятленнем.

**Плея́да**, -ы, *ж.* Група выдатных дзеячоў адной эпохі, аднаго напрамку.

**По́льдэр,** -а, *м.* Адгароджаны дамбай, асушаны і апрацаваны нізінны ўчастак.

**По́плаў**, -лаву, *м.* Луг у пойме ракі.

**Прасця́г,** -у, *м.* Прастор.

**Пяшчо́тна,** *прысл.* Прыемна, лагодна.

**Рацыяналіза́тар,** -а, *м.* Работнік, які займаецца ўдасканаленнем вытворчасці, паляпшэннем вытворчых працэсаў.

**Ро́стань,** -і, *ж.* 1. Расставанне; час, праведзены далёка ад родных ці блізкіх. 2. Месца перакрыжавання дарог.

**Рэпраду́кцыя**, -і, *ж.* 1. Узнаўленне карцін, малюнкаў, чарцяжоў шляхам фатаграфіі, клішэ. 2. Перадрукаваны малюнак, карціна ці фотаздымак.

**Спо́лахі,** -аў. Паўночнае ззянне; зарніца; водблескі зары; успышкі агню, святла.

**Сцізо́рык,** -а, *м.* Невялікі складаны кішэнны ножык.

**Тыта́н,** -а, *м.* Чалавек вялікага таленту, надзвычайнага розуму.

**Тэксту́ра,** -ы, *ж.* (спец.). Асаблівасці будовы цвёрдага рэчыва, абумоўленыя характарам размяшчэння яго састаўных частак (крышталяў, зерняў, слаёў).

**Уверцю́ра,** -ы, *ж.* 1. Музычны ўступ да оперы, аперэты, балета. 2. Невялікі музычны твор у адной частцы для аркестра.

**Цу́пка** — учэпіста, моцна трымаючыся.

**Шэ́рань,** -і, *ж.* Іней.

# Руска-беларускі слоўнік

Бесе́да — гу́тарка, размо́ва
Великоле́пный — цудо́ўны
Величина́ — велічыня́
Вихрь — віхо́р
Вку́сный — сма́чны
Влия́ть — уплыва́ць
Внима́тельно — ува́жліва
Вообще́ — уво́гуле
Вражда́ — варо́жасць
Грусти́ть *(по кому, по чему)* — сумава́ць *(па кім, чым)*
Дверь — дзве́ры
Девчо́нка — дзеўчаня́, дзеўчанё, дзяўчо́
Де́ревце — дрэ́ўца
Де́ло — спра́ва
Дове́рчивый — даве́рлівы
Достига́ть — дасяга́ць
Друг — ся́бар, тава́рыш
Жура́вль — жураве́ль
Задержа́ться — затрыма́цца
Засоря́ть — засме́чваць
Земляни́ка — суні́цы
Злой — зло́сны
Изба́ — ха́та
Изве́стный — вядо́мы
Издева́ться *(над кем)* — здзе́кавацца *(з каго)*
Инжене́р — інжыне́р
Компью́тер — камп’ю́тар
Котёнок — кацяня́, кацянё
Краси́во — прыго́жа
Крестья́нский — сяля́нскі
Куманёк — кумо́к
Ла́сковый — ласка́вы, пяшчо́тны
Лу́жица — лу́жынка
Лу́чший — ле́пшы
Медвежо́нок — медзведзяня́, медзведзянё
Междоме́тие — выклі́чнік
Ме́стность — мясцо́васць
Нево́льно — міжво́льна
Неприли́чный — непрысто́йны
Никчёмный — нікчэ́мны
Обеспе́чение — забеспячэ́нне
Одна́жды — адно́йчы
Одности́льный — аднастылёвы
Оскорби́тельный — знява́жлівы
Опу́шка *(леса)* — узле́сак
Отноше́ние — адно́сіны
Отрека́ться *(от кого)* — вырака́цца *(каго)*
Па́рус — ве́тразь
Паху́чий — паху́чы
Пёстрый — страка́ты
Поблагодари́ть *(кого)* — падзя́каваць *(каму)*

Повреди́ть — пашко́дзіць, нашко́дзіць
Подви́жный — руха́вы, жва́вы
Подружи́ться — пасябрава́ць
Покупа́тель — пакупні́к
По́льзоваться — карыста́цца
По́мощь — дапамо́га
Поры́в — пары́ў, імкне́нне, натхне́нне
После́дний — апо́шні
Похо́жий *(на кого)* — падо́бны *(да чаго, каго)*
Пошути́ть *(над кем, чем)* — пажартава́ць *(з каго, чаго)*
Пре́жде чем — ране́й як (чым), перш як (чым)
Прия́тный — прые́мны
Произнести́ — вы́мавіць, сказа́ць
Птене́ц — птушаня́, птушанё
Разгово́рный — гутарко́вы
Раздража́ть — раздражня́ць
Разъедини́ть — раз'ядна́ць
Ребёнок — дзіця́
Рисова́ть — малява́ць
Родно́й — ро́дны
Скрипу́чий — скрыпу́чы, рыпу́чы, рыплі́вы
Ску́чно — су́мна
Содержа́тельный — змясто́ўны
Соедини́ть — з'ядна́ць, аб'ядна́ць
Сплошь — скрозь
Спра́шивать *(о ком, чём)* — пыта́цца *(пра каго, пра што)*
Стару́ха — стара́я, бабу́ля
Стесня́ться — саро́мецца
Стря́пать — гатава́ць (ежу)
Таре́лка — тале́рка
Тащи́ть — цягну́ць
Уваже́ние — пава́га
Угоща́ть — частава́ць
Удивля́ться *(кому, чему)* — дзіві́цца *(з каго, чаго)*
Улыба́ться — усміха́цца
Упое́ние — натхне́нне
Хло́пать — ля́паць
Худо́жественный — маста́цкі
Цвету́щий — які цвіце́
Чепуха́ — лухта́, глу́пства
Черни́ка — чарні́цы
Чу́вствовать — адчува́ць

# ЗМЕСТ

## МОВА – НАЙВАЖНЕЙШЫ СРОДАК ЗНОСІН



## ПАЎТАРЭННЕ ВЫВУЧАНАГА Ў I–IV КЛАСАХ



## СІНТАКСІС І ПУНКТУАЦЫЯ

## ФАНЕТЫКА І АРФАЭПІЯ. ГРАФІКА І АРФАГРАФІЯ

Вучэбнае выданне

**Красней** Віктар Пятровіч
**Лаўрэль** Яўген Мяфодзьевіч
**Васюковіч** Людміла Сяргееўна
**Несцяровіч** Віктар Іванавіч

**БЕЛАРУСКАЯ МОВА**

**Вучэбны дапаможнік для 5 класа агульнаадукацыйных устаноў з беларускай і рускай мовамі навучання**

У дзвюх частках

Частка 1

Нач. рэдакцыйна-выдавецкага аддзела *Г. І. Бандарэнка*
Рэдактар *Л. Ф. Леўкіна*
Мастакі *М. У. Мароз, А. А. Красноўская*
Мастацкі рэдактар *І. А. Усенка*
Камп'ютарная вёрстка *А. М. Кісялёва*
Карэктар *Т. Ф. Шайко*

Падпісана ў друк 08.12.2008. Фармат 60×90 $^{1}/_{16}$. Папера афсетная № 1. Гарнітура Школьная. Друк афсетны. Ум. друк. арк. 9,0. Ул.-выд. арк. 4,9 + 0,42 форз. Тыраж 117 300 экз. Заказ

Навукова-метадычная ўстанова «Нацыянальны інстытут адукацыі» Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь. ЛИ № 02330/0133300 ад 30.04.2004. Вул. Караля, 16, 220004, г. Мінск.

ААТ «Паліграфкамбінат імя Якуба Коласа».
ЛП № 02330/0056617 ад 27.03.2004.
Вул. Чырвоная, 23, 220600, г. Мінск.

Б43 **Беларуская мова** : вучэб дапам. для 5-га кл. агульнаадукац. устаноў з беларус. і рус. мовамі навучання. У 2 ч. Ч. 1 / В. П. Красней [і інш.]. — Мінск : Нац. ін-т адукацыі, 2008. — 144 с. : іл.
ISBN 978-985-465-453-9.

**УДК 811.161.3(075.3=161.3=161.1)**
**ББК 81.2Беи-922**

(Назва і нумар школы)

| Навучальны год | Імя і прозвішча вучня | Стан падручніка пры атрыманні | Адзнака вучню за карыстанне падручнікам |
|---|---|---|---|
| 20 / | | | |
| 20 / | | | |
| 20 / | | | |
| 20 / | | | |
| 20 / | | | |